**Юры Дракахруст. Неверагодны 2020-ы.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2021. — 170 с.: іл.

Бібліятэкар Свабоды
*Аляксандар Лукашук*

Укладальнік, рэдактар *Юры Дракахруст*

Кнігу складаюць эсэ 20 беларускіх інтэлектуалаў пра драматычныя падзеі 2020 году — прэзыдэнцкія выбары і масавыя пратэсты, якія былі выкліканыя гэтымі выбарамі. Гэты зборнік — спроба асэнсаваць ня толькі і ня столькі палітычнае, колькі антрапалягічнае і нацыянальнае значэньне, вымярэньне «неверагоднага 2020-га», адказаць у шырокім сэнсе на пытаньне — што гэта было?


FOL

ISBN 978-0-929849-90-4

# Зьмест

# Неверагодная імавернасьць 2020-га

Ніяк,

Ніколі,

Нерэальна,

Немагчыма,

Неpraўдападобна,

Сумнеўна,

А раптам,

Бадай што,

Можа быць,

Безумоўна,

Непазьбежна,

А як іначай?

Іначай – ніяк.

*Аляксандар Лукашук,*
*Бібліятэкар Свабоды*

# Юры Дракахруст
## Ад укладальніка

«Вы неверагодныя» — неаднойчы казала пратэстоўцам летась Марыя Калесьнікава. Але ў той год, у тых падзеях, неверагодным было ўсё: і беспрэцэдэнтная палітычная мабілізацыя падчас выбарчай кампаніі, і маштабы і працягласьць пасьлявыбарчых пратэстаў, і маштабы фальсыфікацыяў, і жахлівая жорсткасьць і размах рэпрэсіяў улады.

Неверагодным, урэшце, было і тое, што ўсенародны, так выглядала, уздым ня здолеў памяняць уладу, у якой, як здавалася, засталося няшмат прыхільнікаў.

Палітычны працэс, які пачаўся мінулым летам, ня скончыўся, кампанія зьнішчэньня грамадзянскай супольнасьці лета 2021 году — гэта рэакцыя на леташнія падзеі і іх працяг.

У 70-я гады мінулага стагодзьдзя адзін зь лідэраў камуністычнага Кітаю Чжоў Эньлай на пытаньне тагачаснага дзяржсакратара ЗША Генры Кісінджэра, як КПК ацэньвае францускую рэвалюцыю XVIII стагодзьдзя, адказаў: «Мы лічым, што прайшло замала часу для канчатковых высноваў».

Пасьля падзеяў у Беларусі 2020 году прайшло крыху больш за паўгода, магчыма, час для канчатковых ацэнак не прыйшоў тым больш.

Але пэўны этап палітычнага працэсу скончыўся, скончыўся прыкладна на мяжы 2020 і 2021 гадоў, і натуральнай уяўляецца спроба асэнсаваць,

зразумець гэты этап, адрэфлексаваць ня толькі і ня столькі палітычнае, колькі антрапалягічнае і нацыянальнае значэньне, вымярэньне «неверагоднага 2020-га».

Радыё Свабода зьвярнулася да беларускіх інтэлектуалаў з просьбай прапанаваць сваё бачаньне і разуменьне тых падзеяў, адказаць у шырокім сэнсе на пытаньне — Што гэта было?

Сярод аўтараў зборніка — жыхары Беларусі і замежжа, жанчыны і мужчыны, пісьменьнікі і палітычныя аналітыкі, гісторыкі і сацыёлягі.

У зборніку, які прапаноўваецца вашай увазе, адлюстраваны ня ўвесь спэктар грамадзкай думкі. Напрыклад, сярод аўтараў зборніка няма тых, хто мяркуе, што леташнія падзеі былі цалкам ці збольшага інсьпіраваныя, арганізаваныя замежнымі дзяржавамі. Такі погляд існуе, але ён інтэлектуальна бясплённы: калі прычына адно ў замежных інсьпірацыях, то няма прадмету для размовы пра сутыкненьне інтарэсаў, памкненьняў, каштоўнасьцяў унутры беларускага грамадзтва.

Усе аўтары зборніка, даючы розныя адказы, зыходзяць усё ж з пастуляту, што леташнія падзеі былі найперш вынікам і этапам унутранага разьвіцьця беларускага грамадзтва.

Як укладальнік зборніка я прапанаваў аўтарам сем пытаньняў наконт «неверагоднага 2020-га», але пазначыў, што выбар формы артыкула — за імі. Яны маглі наўпрост адказаць на прапанаваныя пытаньні. Некалькі аўтараў так і зрабілі, іншыя альбо ўскосна адказвалі на тыя 7 пытаньняў, альбо выкладалі сваё бачаньне як адказы на свае пытаньні наконт леташніх падзеяў.

На мой погляд, самымі важнымі пытаньнямі, такімі, якія выклікалі найбольш гарачыя завочныя спрэчкі паміж аўтарамі зборніка, былі два — пра раскол грамадзтва і пра цану пратэсту.

Ці засьведчыў 2020 год, што Беларусь — адзіная, адзіная супраць Лукашэнкі і яго касталомаў і прыслужнікаў, ці леташнія падзеі прадэманстравалі наяўнасьць дзьвюх Беларусяў зь вельмі адрознымі каштоўнасьцямі, інтарэсамі і памкненьнямі?

Тое, што адбылося ў 2020 годзе — ці варта яно было сьмерцяў, пакутаў, зьняволеньняў, зламаных лёсаў?

Падзеі 2020 году адбіліся на асабістых лёсах і аўтараў зборніка: Валерыя Касьцюгова і Ўладзімер Мацкевіч неўзабаве пасьля напісаньня сваіх артыкулаў для зборніка трапілі за краты, Сьвятлана Алексіевіч, Валер Карбалевіч, Андрэй Лаўрухін і Арцём Шрайбман пад пагрозай арышту пакінулі краіну.

Але і іх тэксты, і іншых аўтараў — не пра ўласныя лёсы, а пра лёс беларускага грамадзтва, Беларусі, пра сэнс гэтага супольнага лёсу.

Напэўна, кожны чытач знойдзе ў гэтым зборніку як тэксты, зьмест якіх цалкам ці ў значнай ступені падзяляе, гэтак і тэксты, якія выклічуць у яго нязгоду, а можа і абурэньне. Пры гэтым тое, што выкліча згоду і салідарнасьць у адных чытачоў, выкліча абурэньне ў іншых, і наадварот.

Але, напэўна, ня варта сьпяшацца проста дзяліць гэтыя развагі на правільныя і няправільныя.

Вялікія рэвалюцыі спараджаюць і вялікія інтэлектуальныя спрэчкі, двубоі асэнсаваньняў. І наўрад ці пазыцыі бакоў у тых спрэчках вар-

та ацэньваць толькі паводле бінарнай шкалы «правільна-няправільна».

Хто меў рацыю ў ацэнках францускай рэвалюцыі XVIII стагодзьдзя — Эдмунд Бёрк ці Імануіл Кант? Бёрк (ці Кант) проста нечага не разумеў, ня ведаў нейкіх фактаў, ці сьвядома хлусіў у сваім разуменьні францускай рэвалюцыі? Хто зь іх быў чыім наймітам і ці іхным «найміцтвам» (калі яно і мела месца) вызначаліся іх пазыцыі?

Падзеі 2020 году, як іх ні называй і чым ні лічы — рэвалюцыяй, паўстаньнем, забурэньнямі, мяцяжом, калектыўнай аблудай ці калектыўным прасьвятленьнем — былі вялікімі падзеямі беларускай гісторыі.

Калі правесьці пэўную гістарычную аналёгію, то можна прыгадаць інтэлектуальны двубой наконт вынікаў расейскай рэвалюцыі 1905–1907 гадоў — зборнік «Вехи» і два адказы на яго, так званыя «Антивехи» — зборнікі «Интеллигенция в России» і «„Вехи“ как знамение времени».

Тэксты беларускіх інтэлектуалаў, якія прапануюцца вашай увазе, — гэта, фігуральна кажучы, «Вехи» і «Антивехи» пад адной вокладкай.

Гэта не сымфонія аднадумцаў, гэта той самы дыялёг, да якога ў палітычнай плашчыні заклікалі і заклікаюць лідэры пратэсту.

У палітычнай плашчыні адбываецца не дыялёг, а спроба ўлады зьнішчыць сваіх палітычных апанэнтаў. Магчыма, дыялёг найперш інтэлектуалаў стане пачаткам шляху да дыялёгу грамадзкага і палітычнага.

# Сьвятлана Алексіевіч:
## «Трэба назапашваць новую эліту і ня ўпасьці ў роспач»



**Сьвятлана Алексіевіч,** пісьменьніца, ляўрэатка Нобэлеўскай прэміі па літаратуры

**Што адбылося зь беларускім грамадзтвам у 2020 годзе: сасьпяваньне, дасьпяваньне ці разрадка напружанасьці? Ці можа вярнуцца вецер на кругі свае?**

Не, я думаю, што Беларусь ніколі ўжо ня стане ранейшай. Ніколі ўжо не загнаць нас, як той казаў, у стойла, хоць, напэўна, наверсе меркавалі, што гэта магчыма. Гэта ўжо немагчыма. Грамадзтва стала дарослым, мы нарэшце сталі нацыяй. Мы задалі сабе пытаньні, якія імкнуліся не задаваць: хто мы, дзе мы, чаго мы хочам, з кім мы хочам быць.

Гэта важныя пытаньні, якіх 100 гадоў не задавалі. Мы свае нацыянальныя праблемы ня вырашылі. Мінулы год паказаў, што гэта назапашвалася ў народзе. І ён выйшаў. Не выпадковыя і гэты сьцяг, і гэтыя песьні пратэсту з рэхам пачатку стагодзьдзя. І нахабная брутальнасьць не змагла гэта здушыць.

**Як у падзеях 2020 году праявілася беларускае нацыянальнае?**

Беларусы задумаліся пра самастойнасьць свайго шляху. Можа, гэта было наіўна — што мы зможам, будучы побач з такім суседам, як Расея, пабудаваць цалкам незалежную дзяржаву, роўную нашым марам. Гэта наіўна, Расея ніколі нас не адпусьціць. І Эўропа будзе няздольная дапамагчы нам.

Але тое, што мы выйшлі на вуліцу — гэта адыграла ролю ў тым, што ў нас не апынуліся расейскія войскі.

Мне здаецца, што такая здача была прадугледжаная ў плянах Пуціна і Лукашэнкі. Хоць кажуць, што Лукашэнка ніколі ня здасьць Беларусь. Але я думаю, што за 26 гадоў яго кіраваньня эканоміка адвучылася самастойна жыць.

**Чаму беларускі пратэст 2020 году ня меў геапалітычнага вымярэньня?**

Вядома, беларускі пратэст гаварыў па-расейску. Я ня ведаю, якія лічбы апытаньняў, як беларусы ставяцца зараз да саюзу з Расеяй. Але я думаю, што яны ў сваіх думках ніколі не сыходзяць ад Расеі. І калі Расея і страціла сваіх саюзьнікаў у Беларусі, дык толькі праз тое, што яна падтрымала Лукашэнку. Да гэтага народ больш верыў у Расею. Ён быў не за зьліцьцё з Расеяй, але за сяброўства зь ёй. Беларусы не сьпявалі, як ва Ўкраіне: «Ніколі мы ня будзем братамі». Такога ў беларускай сьвядомасьці яшчэ няма.

Зь іншага боку, я думаю, што страх перад тым, што было ва Ўкраіне, перашкодзіў курсу на Эўропу, нягледзячы на ўнутраную эўрапейскую арыентацыю.

Вы пагаварыце зь любым беларусам, я ня раз гэта рабіла, калі пісала свае кнігі. Яны ня думаюць пра сябе з Эўропай. Вопыт Украіны спарадзіў страх паказаць свае праэўрапейскія памкненьні.

**Ці засьведчылі падзеі 2020 году раскол у беларускім грамадзтве?**

Сёньня нам цяжка вызначыць, якая частка грамадзтва падтрымлівае Лукашэнку. Я думаю, што адсоткаў 30 яго ўсё-ткі падтрымліваюць.

Але пасьля 9 жніўня 2020 году мы ўбачылі, як нават у малых вёсачках, на паўстанках, з 50 чалавек

жыхароў два-тры чалавекі зь бел-чырвона-белымі сьцягамі выходзілі на вуліцу.

Усе хацелі пераменаў, усе хацелі новага жыцьця. І ўсе разумелі, што стары лідэр ужо няздольны гэта даць, няздольны ўзначаліць гэтыя перамены.

Але потым, з нашым генэтычным вопытам гвалту, калі ён пачаўся, — уключыўся мэханізм самазахаваньня.

Людзі сышлі ў сябе. І я ад многіх людзей чула — ізноў нічога не атрымалася. Тут важнае слова «ізноў». Я гэта чула ад людзей узросту 50 гадоў і старэйшых.

Напачатку, калі выходзілі на вуліцу сотні тысячаў, можна было сказаць, што краіна была на баку новай апазыцыі, на баку Ціханоўскай. І я думаю, што тады яна выйграла.

Але калі б выбары былі зараз, я ня ведаю, хто б на іх выйграў.

30%, якія падтрымлівалі Лукашэнку, — гэта людзі, якія баяліся пераменаў ці таго, што прыйдзе за імі. Яго брутальнасьць, дэманстрацыя сілы — яны зачароўвалі людзей, частку людзей. Многія гадамі задавалі пытаньне: «А хто, калі ня ён?». Ня ўсе паверылі гэтаму трыюмвірату жанчын. Хоць рэвалюцыя гэтая мела жаночы твар.

Але ўсё ж я думаю, што адсоткаў 30 у яго было. Асабліва гэта адчуваецца ў вёсках, гэтыя людзі ёсьць, яны яго людзі шмат у чым.

Цяпер, пасьля гэтай жахлівай жорсткасьці, мы ня ведаем узроўню яго падтрымкі, цяпер ня можа быць сумленнай сацыялёгіі, бо людзі затаіліся.

Страх перашкаджае нам даведацца праўду, што такое сёньня нашае грамадзтва.

У Ціханоўскай была сапраўдная народная падтрымка. Гэта нечым нагадвала эпоху перабудовы — тая ж вера, той жа парыў. А за яго былі людзі, якія заўсёды баяцца пераменаў.

**Ці магчымае прымірэньне, і калі так, то якой можа быць яго формула?**

Калі б сёньня з жыцьця зьнік Лукашэнка, краіна б рванулася да пераменаў. Гэта была б зусім іншая краіна. А мы зноў губляем гістарычны час. Замест гістарычнага часу мы жывём у біялягічным — у часе проста жыцьця, часе выратаваньня сябе, сваёй сям'і.

Гісторыю можна пачуць, калі ты чытаеш матэрыялы судоў, апошнія словы падсудных, якіх адпраўляюць на катаргу.

Прыгадваю выступ на судзе Паліны Шарэнды-Панасюк — двое дзяцей, муж пад хатнім арыштам. Зь якой годнасьцю яна адказвала судзьдзі, як гэта было бясстрашна.

На жаль, у гэтым сіла аўтарытарызму — што ўсё замыкаецца на адным чалавеку. Варта прыбраць гэтую фігуру з дошкі — і дошка робіцца зусім іншай.

Гэта даволі банальная асаблівасьць аўтарытарызму — што з адным і тым жа народам можна зрабіць і тое, і іншае.

**Ці шкадуеце вы пра тое, што адбылося ў 2020 годзе, ці варта яно было сьмерцяў, зьняволеньняў, зламаных лёсаў?**

Гэта недакладнае пытаньне. Гэта ня значыць, што варта было — у нас не было выбару. Нам трэба выскачыць з гэтага аўтарытарнага вопыту жыцьця. Гэта ж было жыцьцё многіх пакаленьняў. Мы не маглі пагадзіцца з тым жа прыніжэньнем, таптаньнем на месцы, адсутнасьцю сябе ў гісторыі.

Нават нельга сказаць, што людзі робяць выбар, гэта сам час робіць выбар.

Гэта любімы мой кавалак у «Вайне і міры» Талстога, калі Кутузаў разьвітваецца з генэраламі пасьля вырашальнай нарады перад Барадзіном і думае пра сябе: «Усё зробяць мае салдаты, усё зробяць мае генэралы, усё зраблю я, што змагу. Але нешта зробіць нехта яшчэ».

Гэта нават ня Бог. Але неяк счэпяцца гэтыя тысячы воляў, і народзіцца тое, што будзе называцца нашым часам.

Я думаю, што ў нас было нешта падобнае. Нельга ўявіць, што гісторыя адбываецца сьвядома, пад кіраўніцтвам нейкіх сілаў, таго ж Лукашэнкі.

Ён можа стаць коркам, які закаркоўвае бутэльку. Але газ усё роўна выпхне гэты корак.

**Якія ўрокі зь беларускіх падзеяў 2020 году?**

Урок той, што мы павінны назапашваць эліту, павінны шанаваць кожнага чалавека, які здольны стаць насуперак аўтарытарным жаданьням аднаго чалавека ці групы людзей. Тут яшчэ і сілавая структура аказалася разам з палітычнай. Такія часы счапляюць палітычную эліту зь сілавой, калі ўжо невядома, хто кім камандуе і хто ад каго залежыць.

Нам сёньня трэба назапашваць новую эліту, гэтых хлопцаў, якіх раскідвае па ўсім сьвеце, якія цяпер сядзяць у турмах, у калёніях.

І важна, каб яны ацалелі для новага часу, трэба ня ўпасьці ў роспач, рыхтаваць сябе да новага часу — рыхтавацца інтэлектуальна, рыхтавацца прафэсійна. А то прыйдуць новыя часы, а ў нас няма новых людзей. І будзе толькі гэтая старая палітычная эліта, якая занятая толькі самавыжываньнем.

# СяргейАбламейка:
## «У 2020 годзе беларуская нацыя зноў заявіла сьвету пра сябе»



**Сяргей Абламейка,** доктар гісторыі, журналіст, публіцыст

Ключавымі месяцамі 2020 году для мяне сталі ня жнівень-верасень, але травень-чэрвень.

Менавіта тады стала зразумела, што нацыя беларусаў жыве, выйшла на новы этап свайго разьвіцьця і паміраць не зьбіраецца. Наадварот, яна нарадзіла новыя, больш асьвечаныя і больш культурныя пакаленьні, зьнітавалася, мабілізавалася і заявіла аб сваім праве кантраляваць дзяржаўнае ўтварэньне, якое носіць яе імя, але знаходзіцца ў руках кампрадорскай «вэртыкалі» зь няўцямнай, эклектычнай ідэалёгіяй.

Шматлікія інтэрвію зь людзьмі па ўсёй краіне, якія стаялі ў чэргах, каб падпісацца за альтэрнатыўных кандыдатаў, сьведчылі пра нешта неверагоднае. Людзі адзін за адным, кажучы пра свае погляды і жаданьні, пацьвярджалі навуковыя тэзісы гісторыкаў і сацыёлягаў, якія ўсё XX стагодзьдзе вывучалі і сыстэматызавалі працэсы нараджэньня і фармаваньня сучасных нацый.

У першай палове чэрвеня 2020 году па сьвеце пракацілася магутная хваля акцыяў салідарнасьці беларускай дыяспары з удзельнікамі выбарчай кампаніі на радзіме. Сотні акцыяў праходзілі пад бел-чырвона-белымі сьцягамі і Пагоняй. Калі ж нацыянальныя сьцягі зьявіліся над галовамі ўдзельнікаў акцый салідарнасьці ў такіх нетыповых месцах, як Кіпр, востраў Балі або Ізраіль, я апублікаваў (20.06.2020) першы тэкст пра новы этап у разьвіцьці беларускай нацыі.

Вось тэзісы або цытаты з васьмі маіх эсэ, якія былі апублікаваныя ў чэрвені — лістападзе 2020 году, і некаторыя тлумачэньні да іх.

## 1. Новы этап у жыцьці нацыі

Летась падзеі ў Беларусі я назваў завяршэньнем фармаваньня беларускай нацыі. Іншыя пазьней гаварылі пра нараджэньне, фармаваньне, дафармаваньне etc. Сёньня я думаю, што можна гаварыць і пра абуджэньне нацыі, якая выздараўлівала ў сябе дома (у сваёй дзяржаве).

Новы этап у гэтым працэсе пачаўся ў 2014 годзе пасьля нападу Расеі на Ўкраіну. Адносна інэртныя да таго часу беларусы ўсьвядомілі экзыстэнцыяльную пагрозу свайму дзяржаўнаму і нацыянальнаму існаваньню і ўсьлед за ўкраінцамі апрануліся ў вышыванкі — пачаўся рост увагі да нацыянальнага.

## 2. Гістарычныя трыгеры

Асноўнымі пунктамі новага этапу ў жыцьці беларускай нацыі (апрача падзеяў 2014 году ва Ўкраіне) сталі:

а) атрыманьне Сьвятланай Алексіевіч Нобэлеўскай прэміі па літаратуры ў 2015 годзе;

б) антыдармаедзкія пратэсты зімы 2016–2017 гадоў;

в) жорсткі разгон у Менску шматтысячнага шэсьця з нагоды 99-х угодкаў незалежнасьці БНР у сакавіку 2017 году;

г) сьвяткаваньне 500-годзьдзя Бібліі Францішка Скарыны летам 2017 году;

д) шматтысячнае сьвяткаваньне 100-х угодкаў БНР у сакавіку 2018 году ў Менску;

е) шматтысячны ўдзел беларусаў пад нацыянальнымі сьцягамі ў пахаваньні Кастуся Каліноўскага і яго паплечнікаў у Вільні ў лістападзе 2019 году;

ё) пандэмія каранавірусу, якая пачалася ў Беларусі ў лютым—сакавіку 2020 году і была фактычна праігнараваная ўладамі краіны;

ж) перадвыбарчая кампанія вясны—лета 2020 году;

з) фальсыфікацыя выбараў, пратэсты і гвалт сілавых структур супраць мірных дэманстрантаў і грамадзянскай супольнасьці.

## 3. Апошняя нацыя Эўропы

Вядомы тэарэтык нараджэньня нацый, чэскі гісторык Міраслаў Грох вызначыў падставы і сувязі, на якіх сфармаваліся сучасныя нацыі. Падстаў можа быць шмат, але тры зь іх застаюцца нязьменнымі. Гэта:

1. Памяць пра агульнае мінулае, якое ўсьведамляецца як агульны лёс усёй этнічнай групы ці хаця б яе ключавых элемэнтаў.

2. Шчыльныя моўныя або культурныя сувязі, якія забясьпечваюць больш высокі ўзровень сацыяльнай камунікацыі ўнутры групы ў параўнаньні з навакольным сьветам.

3. Канцэпцыя роўнасьці ўсіх членаў групы.

Выказваньні беларуска- і расейскамоўных людзей усіх узростаў, полаў, палітычных арыентацый і прыхільнасьцяў падчас пікетаў у сталіцы, абласных гарадах і самых аддаленых раённых цэнтрах паказалі, што ў думках людзей прысутнічаюць усе тры пастуляты Гроха:

«Мы — беларусы...»

«Наш народ варты лепшага жыцьця і лепшай долі...»

«У нас такая доўгая і вялікая гісторыя...»

«Пражывём мы бяз гэтай Расеі...»

«Мы заўсёды былі ў Эўропе...»

«Я люблю сваю дарагую, прыгожую, любімую Беларусь, не хачу зьяжджаць, хачу жыць тут...»

«Яна (улада) нас зусім не паважае...»

«Яны (чыноўнікі) нас за людзей ня лічаць...»

«Я хачу, каб яны нас паважалі, а не зьняважалі і ня ціснулі...»

«Мы хочам праўды і справядлівасьці, хочам роўных магчымасьцяў, каб кожны мог зарабіць на сям'ю і на дом...»

«Чаму я павінен ехаць за дзьве тысячы кілямэтраў на заробкі, прыніжацца? Што я сыну свайму скажу? Каб таксама ехаў да чужакоў на паклон?..»

Тут ня толькі ўсе тры пастуляты Міраслава Гроха, тут і адказ на пытаньне клясыка:

*«А чаго ж, чаго захацелась ім,*
*Пагарджаным век, ім, сьляпым, глухім?*
*— Людзьмі звацца».*

## 4. Моўнае паразуменьне

У Беларусі да 2020 году фактычна зьніклі супярэчнасьці паміж беларуска- і расейскамоўнымі людзьмі (калі ня браць у разьлік паслугачоў і прыхільнікаў рэжыму, якія складаюць яўную меншасьць грамадзтва). Статус беларускай мовы і яе маральны аўтарытэт значна вырасьлі. Зноў цытаты ўдзельнікаў перадвыбарчых пікетаў:

«Выбачайце, я буду па-расейску, але беларуская мова прыгожая, я яе люблю...»

«Я пачну на роднай мове, але фармуляваць думкі мне лягчэй па-расейску. Вельмі прашу мне прабачыць...»

«Наша мова самая прыгожая, я, на жаль, мала на ёй размаўляю...»

«Бачыце, я не зусім упэўнена гавару на роднай мове...»

«Мы адродзім родную мову, яна клясная...»

Гэта маральная перавага і маральная сіла, якая непазьбежна дасьць свой плён у будучыні. Маніфэстным выяўленьнем паразуменьня і згоды паміж беларуска- і расейскамоўнымі беларусамі можа служыць выказваньне расейскамоўнай пісьменьніцы Сьвятланы Алексіевіч, якая ў 2017 годзе на сустрэчы з чытачамі ў Гомлі заявіла:

«У нас нацыянальнай ідэяй можа быць толькі пабудова сваёй нацыянальнай дзяржавы, дзе была б наша нацыянальная мова».

## 5. Рэфэрэндум аб вяртаньні нацыянальных сымбаляў

Летам 2020 году адбыўся фактычны плебісцыт, на якім беларускі народ вярнуў сабе нацыянальную сымболіку, што была дзяржаўнай у 1918–1920 і ў 1991–1995 гадах: бел-чырвона-белы сьцяг і герб «Пагоня», а таксама вокліч «Жыве Беларусь!».

Сотні і сотні акцыяў салідарнасьці па ўсім сьвеце, дзясяткі мітынгаў аб'яднанага штабу падчас выбарчай кампаніі і акцыі супраціву сотняў тысяч людзей пасьля 9 жніўня 2020 году праходзілі пад нацыянальнымі сымбалямі. Пад імі была пралітая кроў абаронцаў дэмакратыі, іх узьнялі трактарабудаўнікі, шахтары, праграмісты, іх вывешвалі на

сваіх дамах і ў кватэрах людзі на захадзе, усходзе, поўначы і поўдні краіны.

Грамадзяне бяз розьніцы моваў, на якіх яны гавораць, прызналі бел-чырвона-белы сьцяг, герб «Пагоня» і покліч «Жыве Беларусь» галоўнай сымбалічнай і сутнаснай альтэрнатывай дыктатуры.

Нацыя беларусаў заявіла, што прызнае сакральны статус нацыянальнай сымболікі. А сымболіка, як вядома, вызначае зьмест і вэктар разьвіцьця краіны і народу.

### 6. Нацыянальнае — неаддзельнае ад грамадзянскага

Цуд фармаваньня нацыі — гэта сынтэз этнічных, псыхалягічных і грамадзянскіх фактараў, счэпленых амаль сямейнай салідарнасьцю і ўзаемападтрымкай. У адзін момант мільёны людзей раптам усьведамляюць сваю крэўную роднасьць, адзінства свайго гістарычнага лёсу і сваю асобнасьць ад астатняга сьвету. Раптам узьнікае разуменьне, што існуе з аднаго боку «сьвет» і «яны», а з другога — «мы», «беларусы».

Счэпкі мужчын і жанчын у процістаяньні з АМАПам на вуліцах нашых гарадоў сталі мэтафарай нацыянальнага адзінства беларусаў. Нацыя — гэта счэпка. Недарэмна ў беларусаў існуе старажытны звычай узаемадапамогі — талака. Гэта таксама мэтафара салідарнасьці і ўзаемападтрымкі, а значыць — нацыі, счэпкі.

У часы нараджэньня ці абуджэньня нацыі ў людзей нараджаецца і абвастраецца пачуцьцё грамадзкай і грамадзянскай адказнасьці, абурэньне сацыяльнай і палітычнай несправядлівасьцю. І тады новапаўсталая або абуджаная нацыя імкнецца

аваладаць дзяржавай, якая пакуль што знаходзіцца ў руках яе ворагаў ці прыгнятальнікаў (у нашым выпадку гэта гістарычны аксюмаран — плебейская арыстакратыя ў выглядзе прарасейскай уладнай вэртыкалі).

У 2020 годзе і ў папярэднія гады беларусы востра адчулі і зразумелі, што крыніца ўлады — яны самі, грамадзяне, што дзяржаўны апарат — гэта ўсяго толькі найманыя мэнэджары, якія разам зь сілавым блёкам жывуць на грошы людзей. І грамадзяне раптам запатрабавалі ад дзяржаўнага апарату строгага выкананьня законаў і ляяльнасьці.

Таму на мітынгах і дэманстрацыях па ўсёй краіне чуліся дзясяткі і сотні аднатыпных дэклярацый з вуснаў простых людзей: «Гэта наш горад!», «Гэта наша краіна!», «Мы тут улада!».

Гэта прыкмета сьпеласьці нацыі.

## 7. Двары — як мэтафара магдэбурскага самакіраваньня

Рэвалюцыя двароў 2020 году стала яшчэ адной праявай салідарнасьці і адзінства. Але ня толькі. Яна стала зародкам і правобразам будучай муніцыпалізацыі народнага жыцьця і рэальнага самакіраваньня, усеагульнай выбарнасьці лідэраў рознага ўзроўню.

І гэта — містычнае, на генэтычным узроўні культуры вяртаньне магдэбурскіх традыцый у беларускія гарады, упершыню за апошнія 200–300 гадоў яны робяцца зноў беларускімі. Магчыма, нават супольнасьць двароў будзе неўзабаве зноў выбіраць гарадзкіх кіраўнікоў — бурмістра ці войта, лаўнікаў (гарадзкіх судзьдзяў) і нават вознага (шэфа мясцо-

вай паліцыі, шэрыфа), як гэтыя пасады называліся ў Вялікім Княстве Літоўскім.

Так народ рэалізуе гарызантальную салідарнасьць паміж людзьмі, якія жывуць цяпер і адчуваюць сябе вялікай сям'ёй — супольнасьцю адзінага лёсу, нацыяй.

Але адметнай рысай нацыі таксама зьяўляецца, умоўна кажучы, салідарнасьць вэртыкальная — повязь сёньняшніх пакаленьняў зь мінулымі і будучымі — з продкамі і нашчадкамі.

Нацыя, як і любая сям'я, шануе сваіх дзядоў-прашчураў і дбае пра нашчадкаў. Нацыя захоўвае перададзены ёй ад продкаў скарб — тэрыторыю, нацыянальную культуру, мову, традыцыі і сымбалі — і дбае пра тое, каб захаваць, разьвіць і перадаць гэта ўсё сваім нашчадкам.

Якраз сувязь, салідарнасьць паміж пакаленьнямі, якая канцэнтруецца і фармулюецца ў нацыянальнай гісторыі, нацыянальным гістарычным міце, зьяўляецца імунітэтам нацыі ад хваробаў дэнацыяналізацыі. Апошнімі гадамі ў Беларусі назіраўся ўстойлівы рост цікавасьці да нацыянальнай гісторыі.

### 8. Нацыянальныя гонар і годнасьць

Як і належыць кожнай жывой істоце, нацыям уласьцівыя элемэнты эгаізму і самалюбаваньня. Адсюль у сацыяльных сетках у 2020 годзе было столькі захапленьня побытавай культурай беларусаў — і сьмецьце яны на мітынгах за сабой прыбіралі, і абутак здымалі, перш чым залезьці на лаўку, і нават уцякалі ад АМАПу, агінаючы клюмбы з кветкамі, каб іх не патаптаць.

Вось некалькі прыкладаў здаровай любові сучасных беларусаў да саміх сябе. У ліпені—жніўні на перадвыбарчых мітынгах Марыя Калесьнікава ня раз выгуквала: «Беларусы, вы неверагодныя! Я вас люблю», «Беларусы — вы найлепшыя!».

На шэсьці ў Менску 16 жніўня 2020 году жанчына-настаўніца з Гомля казала: «Паглядзіце, якія мы прыгожыя. І мы хочам такога самага прыгожага жыцьця».

На адным з пасьлявыбарчых мітынгаў хлопец трымаў плякат з надпісам: «Беларусы ў 2020-м — гэта найлепшае, што я бачыў у сваім жыцьці».

Гомельскі журналіст Пятро Кузьняцоў 17 жніўня ў сваім Фэйсбуку напісаў: «Праз сорам, боль і часам адчай мы прыйшлі нарэшце да гонару. Да часу, калі ня можна, а трэба ганарыцца сабой, сваімі сябрамі, землякамі і нават ворагамі, калі гэтая варожасьць не палітычная. Цудоўная краіна, дзівосны народ, цудоўная нацыя! Жыве Беларусь!»

І абсалютна вяршынны прыклад з самага вялікага мітынгу Сьвятланы Ціханоўскай у Менску з удзелам 70 тысяч чалавек, калі вядоўца закрычаў у натоўп: «Мы ганарымся самі сабой! Мы — беларусы!».

І ў адказ пачуліся дзясяткі тысяч захопленых «Та-ак».

## 9. Геапалітычнае адасабленьне беларусаў. Выбар — нэўтралітэт

Вяршынным сьведчаньнем высьпяваньня беларускай нацыі я лічу выступленьне простага работніка-будаўніка з Горадні, супрацоўніка «Горадняжылбуду».

Цяжка было нават уявіць, што калі-небудзь такое пачуеш — як вуснамі простага чалавека наш народ містычна агучыць сваю спрадвечную мару, — мару ляснога беларуса-хутараніна жыць на сваім кавалку зямлі без гаспадароў над ім з усходу і захаду — сьціпла, сумленна і культурна.

Рабочы «Горадняжылбуду», выступаючы на трасянцы, што яшчэ болей падкрэсьлівала каранёвы, глыбінна-народны характар ягонага маніфэсту, сказаў наступнае:

«Я сапраўды ганаруся сваім беларускім народам. Мне не патрэбныя ні NATO, ні Расея. Мы павінны быць адны — з нармальным сумленным кіраўніцтвам. На чале павінен быць прэзыдэнт – такі самы сумленны, як і мы».

Натоўп работнікаў доўга пляскаў выступоўцу. Гэта, на маю думку, і стала містычным маніфэстам абуджанай нацыі, якая хоча працаваць для сябе самой і для сваіх дзяцей. Беларусы, як аказалася, не за Захад і не за Ўсход, яны — за сябе.

## 10. Ніводная беларуская ахвяра, пачынаючы ад 1863 году, не была дарэмнаю

Паводле тэарэтыкаў нацыянальных рухаў, фармаваньне нацый заканчваецца стварэньнем нацыянальных дзяржаў. Беларусы дамагліся гэтага ў 1918 годзе, але незалежнасьці не ўтрымалі, жылі 70 гадоў у квазідзяржаве БССР, і нарэшце ў 1991 годзе здабылі сувэрэнітэт.

Але гвалтоўнае прыпыненьне працэсу беларусізацыі 1920-х гадоў і татальнае вынішчэньне нацыянальнай інтэлігенцыі ў 1930–1940-я гады паставіла нацыю на мяжу выжываньня і нават прымусіла на-

вукоўцаў гаварыць пра незавершанасьць працэсу фармаваньня беларускай нацыі. Гэта і прывяло да ўлады цяперашні рэжым.

Але 2020 год паказаў, што пэсымістычныя прагнозы ня спраўдзіліся. Нягледзячы на татальнае закрыцьцё беларускіх школ, газэт і часопісаў, разгром і звальненьне навуковых кадраў з Акадэміі навук і ўнівэрсытэтаў, падспудныя нацыятворчыя працэсы ішлі поўным ходам і выліліся ў падзеі 2020 году.

Вось чаму тое, што адбылося ў 2020 годзе, можна назваць беларускім нацыянальным паўстаньнем. А ўлічваючы, што паўстаньне — гэта апошні этап вызваленьня беларусаў ад вонкавых уплываў і залежнасьцяў, яго можна называць і нацыянальна-вызвольным.

Пакуль што паўстаньне пацярпела паразу ад узброенага маналітнага рэжыму меншасьці. Але, як падаецца, усё, што адбылося зь беларусамі ў 2014–2021 гадах, сцэмэнтавала нацыю канчаткова і назаўжды. Раней ці пазьней рэжым павінен будзе сысьці, а Расея, верагодна, ужо ня зможа асыміляваць беларусаў.

# Рыгор Астапеня:
## «Беларусы паказалі, што могуць быць суб’ектам, а не аб’ектам палітыкі»



**Рыгор Астапеня,** доктар палітычных навук, дырэктар па дасьледаваньнях Цэнтру новых ідэяў, кіраўнік праграмы па Беларусі брытанскага Chatham House

**— Ці шкадуеце вы пра тое, што адбылося ў 2020 годзе, ці варта яно было сьмерцяў, зьняволеньняў, зламаных лёсаў?**

— Для мяне самае цяжкае пытаньне нашага жніўня — гэта ці не шкадую я, што за ўздым беларускага грамадзтва яно плаціць такую высокую цану ў выглядзе сьмерцяў, катаваньняў, рэпрэсіяў ды адкату ўсёй краіны ў цёмныя часы. Безумоўна, што так. Гэта велізарныя ахвяры, якія пакуль не прывялі да дэмакратызацыі краіны, а цяпер у беларускага грамадзтва няма сілаў нават, каб зьнесьці сьметніцу, якую паставіла ўлада на месцы забойства Тарайкоўскага.

Але з шкадаваньня ня варта рабіць высноваў, што ўсё было дарма. Яшчэ горай лічыць, што Беларусь 2019 году была нармальнай краінай, у якую варта імкнуцца.

Калі павярнуць пытаньне, ці пайшоў бы я зноў 9 жніўня на вуліцу, ведаючы, дзе мы ўсе акажамся, то адказ мой быў бы станоўчы. Вядома, хацелася б, каб шмат што было інакш: каб замест паразы народнага бунту мы пабачылі палітычную перамогу, якая б рабілася з разуменьнем рэаліяў Беларусі. Жыць цяпер толькі шкадаваньнямі — па-чалавечы нармальна, можа, інтэлектуальна нават разумна, але палітычна шкодна.

Якімі б жахлівымі ні былі падзеі, дзякуючы ім мы пабачылі, як зь «Белоруссии» вылупілася Беларусь. Беларуская нацыя да жніўня 2020

году — гэта была тэарэтычная канструкцыя, зь якой гуляліся інтэлектуалы ды псэўдаінтэлектуалы: нечым пагарджалі, нечым захапляліся, але па факту само існаваньне беларускай нацыі не было пацьверджанае. Дастаткова паглядзець прагляды беларускага кантэнту на Youtube цяпер і да мінулага лета — беларусы самі сабой не цікавіліся. Мы не былі сабой.

Цяпер жа беларусы — гэта нацыя, за будучыню якой паміраюць людзі, і ўсе ўсьведамляюць, што, нягледзячы на сёньняшнюю дэпрэсію, наступны ўздым будзе, хоць ён і зацягнецца па часе. Беларусы паказалі, што могуць быць суб’ектам, а не аб’ектам палітыкі. Калі ранейшая Беларусь — гэта быў амаль толькі Лукашэнка, то цяперашняя Беларусь — гэта тыя сотні тысячаў, якія выходзілі па ўсёй краіне. Выраз «беларус беларусу беларус» зьмяніў сваё значэньне на 180 градусаў — хоць, натуральна (і на жаль), не для ўсіх. Слова «народзец», здаецца, зьнікла зусім.

Цяпер беларуская гісторыя — гэта не гісторыя пра вайну сярэдзіны мінулага стагодзьдзя і не заклінаньні продкаў, якія былі ці то беларусамі, ці то ліцьвінамі, ці то палякамі, ці то заходнярусамі, ці то невядома кім. Беларуская гісторыя цяпер — гэта 2020 год, які, магчыма, найважнейшы ў гэтай гісторыі. Я цалкам дапускаю, што праз 10 гадоў галоўным беларускім годам будзе ўспрымацца не 1991, 1945, 1918, 1917, а менавіта 2020 год.

Што яшчэ адрозьнівае гэтую дату — тое, што гэта выключна наша гісторыя, а ня штосьці, што адбываецца ў гэты ж самы момант у некалькіх краінах. Гэта не прыйшло да нас ані з усходу, ані з захаду,

за гэтымі падзеямі нават сьледчыя Лукашэнкі ня здолелі знайсьці замежных «лялькаводаў».

Урэшце, ці магчымае ў прынцыпе такое зрушэньне без ахвяраў? Вядома, можна думаць, што магчыма са зьняволеньня выйсьці прыгожа. Што вось учора дзевяць з паловай мільёнаў людзей жылі ў дыктатуры, а сёньня ў квітнеючай дэмакратыі, і гэта адбылося само сабой, нават на вуліцы ня трэба было выходзіць, хіба толькі адсьвяткаваць.

Ня варта ўпадаць у ілюзію, што быў магчымы нейкі іншы — цывілізаваны — пераход з той краіны, у якой мы жылі, у новую Беларусь. Тэарэтычна ўсё магчыма, а практычна? Таму, безумоўна, мы абавязаныя шкадаваць забітых людзей і пакалечаныя лёсы (асабліва зважаючы, што іх лік працягвае расьці), але ня менш за гэта важна думаць пра тое, як найхутчэй завяршыць гэты этап беларускай гісторыі.

Бо ўсё ж галоўным індыкатарам таго, ці варта было Беларусі праходзіць праз гэтыя пакуты, будзе канчатковы вынік. Калі мы акажамся нечым кшталту ДНР, то ўсё было дарма, і будзем мы шкадаваць ня толькі аб страчаных людзях і здароўі.

# Сяргей Богдан:
## «Падзеі 2020 году білі па рэжыме, а ўдарылі па Беларусі»




**Сяргей Богдан,** доктар палітычных навук, навуковы супрацоўнік Свабоднага ўнівэрсытэту Бэрліну

## Быць або ня быць Беларусі

У леташніх падзеях ад самага іх пачатку ўвесну самым вусьцішным ідовішчам была гатовасьць процьмы сумленных і шчырых людзей падманвацца і сьпяшацца верыць сумнеўным прапановам і асобам, часам фактычным no-name. Ужо сама ідэя дасягненьня пераменаў праз падтрымку нетранспарэнтных палітычных праектаў на леташніх выбарах, пасьля доўгае маргіналізацыі апазыцыі і пры захаваньні існуючых рамкавых умоваў выбараў, была аблуднай ці нават абсурднай.

Далей усё толькі пагаршалася. Напрыклад, апанэнты рэжыму хуценька адмовіліся ад маральнай вышэйшасьці, праўды — наймагутнейшага аргумэнта, які доўга быў у іх руках. Замест таго каб, як і раней, указаць на фальсыфікацыі выбараў, некаторым колам удалося супраць фантастычных вынікаў галасаваньня, абвешчаных уладамі, высунуць мала чым лепшае ў сваёй перабольшанасьці сьцьверджаньне пра перамогу пэўнай асобы. Падобным чынам была страчаная і маральная вышэйшасьць у пытаньні гвалту, якую апазыцыя мела дзесяцігодзьдзямі, адмаўляючыся ад яго і не дапускаючы яго інцыдэнты ў сваіх шэрагах. Гэтым разам лідэры пратэстаў вырашылі проста заплюшчыць вочы на ўсё. Не дапамагло, у выніку толькі разгром, мноства ахвяраў, і краіна ў паўблякадзе і імкліва траціць сувэрэнітэт.

Нехта скажа — а інакшага выйсьця і не было ў выпаленай беларускай палітычнай сфэры. У тым і справа, што было, і вынікае яно зь вядомага правіла — не сядаць гуляць з махляром, асабліва калі навокал — яго дужэйшыя саўдзельнікі ў ашуканстве.

Выйсьцем было (і павінна быць) вымаганьне зьменаў рамкавых умоваў палітычнай дзейнасьці і правядзеньня выбараў у краіне. Інакш кажучы, стварэньня магчымасьцяў для высоўваньня і грамадзкага абмеркаваньня абгрунтаваных і транспарэнтных палітычных альтэрнатываў, у тым ліку праз разгортваньне паўнавартасных палітычных партый, СМІ ды іншай інфраструктуры для публічнай палітыкі перад (sic!) правядзеньнем справядлівых выбараў. Адпаведныя магчымасьці павінны быць ня проста створаныя, але і павінны пэўны час праіснаваць, каб у краіне пасьпелі паўстаць структуры для фармуляваньня і адстойваньня палітычных альтэрнатываў. Гэты шлях — адзінае беларускае выйсьце з сытуацыі, усе іншыя вядуць да замежнай інтэрвэнцыі і страты сувэрэнітэту ці нават грамадзянскага канфлікту.

Няма сумневу, што байкот выбараў меў шанцы прымусіць улады — якія, як выглядае, дзесьці зь сярэдзіны 2010-х думалі пра трансфармацыю — да крокаў у гэтым напрамку, бо дэлегітымізаваў бы дзейную ўладу і націснуў бы на яе нашмат больш, чым буйнамаштабныя, але дрэнна арганізаваныя леташнія пратэсты. Да таго ж сам па сабе байкот быў рэалістычным сцэнарам. Бо калі ўжо за невядомую асобу, высунутую палітычнымі сіламі з блытанымі і спрэчнымі палітычнымі і эканамічнымі

афіліяцыямі прагаласавала гэтулькі выбарцаў — не за яе якасьці і вартасьці альбо праграму, а дэманструючы пратэст цяперашняму кіраўніцтву — то ёсьць падставы меркаваць, што байкот падтрымала б яшчэ болей людзей. Задакумэнтаваць і выкарыстаць яго для палітычнага ціску ў інтарэсах пераменаў можна было нашмат лягчэй і зь меншымі стратамі, чым пры тым варыянце дзеяньняў, які быў абраны летась.

То бок праз сваю палітычную недасьведчанасьць грамадзтва і яго вялізныя сэгмэнты лёгка паддаліся маніпуляцыям з боку і ўладаў, і шэрагу іншых сілаў і структураў, наконт прыхільнасьці якіх дэмакратыі ці незалежнасьці ёсьць сумневы. Больш канкрэтныя прычыны гэтага паталягічнага стану — навідавоку. Па-першае, адсутнасьць разьвітых палітычных і каляпалітычных інстытуцыяў — прычым і на баку апазыцыі, і на баку ўлады. Гэта, напрыклад, вядзе да негатовасьці пасьлядоўна выбудоўваць альтэрнатыўныя палітычныя рухі і высоўваць ды доўгатэрмінова раскручваць самастойных і транспарэнтных палітычных лідэраў — кшталту палітычнай кампаніі Аляксандра Мілінкевіча. Дзейны рэжым таксама відавочна мае праблемы зь пераадоленьнем пэрсаналізацыі і імправізацыйнасьці — і на тым баку нават рэальна існуючых жыцьцяздольных палітычных арганізацый (а ня зборышчаў начальнікаў) няма.

Па-другое, адсутнасьць гатовасьці да пошукаў кампрамісу зь іншымі палітычнымі сіламі ў краіне, калі абвастраецца сытуацыя вакол яе. Часу на тое ставала, бо карані цяперашняга крызісу былі заўважаныя цяперашнім кіраўніцтвам Беларусі

яшчэ пару гадоў таму. Але не, калі засьмярдзела смаленым — запрасілі расейскія войскі. Такі падыход ператварае краіну з супольнага дому ў прахадны двор. А што з другога боку, як там адказвалі, напрыклад, на навіны пра рух расейскіх войскаў на мяжы, ці на прыезд вялізнай дэлегацыі расейскага ўраду, каб выбіць зь дзейнага беларускага ўраду рэшткі незалежнасьці, ці на падпісаньне беспрэцэдэнтнай угоды, якая стварыла ўмовы для ўводу расейскіх унутраных войскаў? А ніяк, супакойваньнем прыхільнікаў, што нічога там страшнага, ну і новымі пратэстамі супраць дзейнага ўраду.

Пра гэтыя праблемы — бязладнасьці і безадказнасьці — не гаворыцца, гаворыцца пра Лукашэнку. Бясспрэчная пэрсаналізацыя рэжыму сапраўды спрыяе простаму і хібнаму тлумачэньню ўсіх праблемаў. Лукашэнка нясе адказнасьць за сытуацыю ў цэлым, але як наконт канкрэтных нягодніцтваў? Супярэчлівыя пачуцьці ўзьнікаюць, як бачыш цяперашняе апазыцыянэрства «былых»: дырэктараў ПВТ і амбасадараў, шматгадовых журналістаў прэзыдэнцкага пулу, шматгадовых аўтараў таго, што лічылася дзяржаўнай ідэалёгіяй, або спартовых знакамітасьцяў, выгадаваных уладай. Карціць спытаць: а хто цябе, паночку, прымушаў пісаць, скакаць і ўхваляць тое, што, як ты кажаш, было табе не даспадобы? Гэта ж вы і стваралі таго «калектыўнага Лукашэнку», а з вамі разам — процьма людзей на менш публічных пасадах — часам дзесяцігодзьдзямі. Але ніхто і не зьбіраецца заклікаць іх да адказу (гаворка не пра люстрацыі, а менавіта пра адказнасьць!).

Апатэозам у гэтым сэнсе для мяне быў пазытыўны расказ шанаванага мной беларускага інтэлігента пра тое, як ён пабачыў сярод пратэстоўцаў сына нядаўна асуджанага за хабарніцтва службоўца з найбліжэйшага прэзыдэнцкага атачэньня. Цымус быў у тым, што той хабарнік, рэкрутаваны некалі ў беларускія сілавыя структуры з-за ўсходняе мяжы, пасьля першае Плошчы прыходзіў у камэру да гэтага калегі, падзівіцца — за кампанію зь яшчэ нейкімі расейскімі калегамі — на «здабычу» — у тым ліку на калегу, злоўленага за дастаўку ежы пратэстоўцам.

Праблема адсутнасьці пачуцьця адказнасьці за ўчыненае яскрава бачная па такім адметным зьявішчы, як адсутнасьць у нашай краіне мэмуараў як такога сабе аргумэнтаванага тлумачэньня — нармальнай практыкі ў самых розных краінах. Іранскі шах, паміраючы ў выгнаньні, сьпяшаўся дапісаць свае мэмуары «Адказ гісторыі» (і тлумачэньне суайчыньнікам) пра тое, што ж ён рабіў, можа, ня так, калі ўрэшце ў краіне перамаглі ісламісты. А як там у нас з адказам гісторыі і суайчыньнікам? У лепшым выпадку пару слоў скажуць — маўляў, заўсёды ведалі пра «крывавы рэжым», ну і пасьля шматгадовай службы вырашылі зь яго сысьці. Лічаныя беларускія службоўцы нават на вышэйшым узроўні (прыкладам, Пятро Краўчанка і Мечыслаў Грыб) паспрабавалі разгорнута патлумачыцца за сваю дзейнасьць на дзяржслужбе ці ў палітыцы.

Журботна выглядае справа і з крытычнай журналістыкай, якая магла б уздымаць гэтыя тэмы. Мне згадваецца, як колькі гадоў таму ў адным беларускім ангельскамоўным СМІ мы распачалі сэрыю палітычных партрэтаў. Расьпісаўшы розных

калярэжымных асобаў, задумаліся над разборам апазыцыйных дзеячоў. І спыніліся. Бо зразумелі, што пісаць пра Віктара Лукашэнку ці Віктара Шэймана бясьпечней, чым рызыкаваць сутыкнуцца з гневам некаторых апазыцыйных асяродкаў. Гневам, які таксама вынікае з той самай безадказнасьці за свае ўчынкі, якая даўно існуе ў беларускай палітыцы і давяла Беларусь да цяперашняга крызісу. Пра брак крытычнасьці ў СМІ, не зьвязаных зь беларускім урадам, і іх гатовасьць стаць у акоп палітычнага змаганьня таксама не гаворыцца. Але яна відавочная, бо што казаць, калі многія апазыцыйныя журналісты і мэдыяактывісты, якія зь люпай разглядалі пасьля Данбасу і Крыму біяграфіі беларускіх генэралаў, мякка кажучы, ня выявілі асаблівай цікавасьці да рэальна злоўленых пад Менскам галаварэзаў (прычым літаральных!) вядомага пуцінскага прыдворнага бізнэсоўца. Маўляў, міма ляцелі, і ўвогуле ёсьць больш важныя справы для асьвятленьня.

Напрыканцы варта закрануць яшчэ адну праяву безадказнасьці, якая, раўналежна з пагромам апазыцыі, дэстабілізацыяй дзяржавы і ростам вонкавага ўмяшаньня, спрычынілася да катастрофы ў міжнародным становішчы краіны, калі пачалося і працягваецца згортваньне нягеглай беларускай дзяржаўнасьці. Катастрофа тая была прадказальная — але ўсьлед за армянскай апазыцыяй яе беларускія адпаведнікі паўтаралі бессэнсоўную фразу: маўляў, геапалітыкі ў іх пратэстах няма, таму баяцца няма чаго. Але па сутнасьці гэта была спроба зьняць зь сябе адказнасьць за наступствы ўласных дзеяньняў.

2020-ы паказаў і армянам, і беларусам, што можна адмаўляць геапалітыку, але ўрэшце яна нагадае пра сваё існаваньне самым балючым чынам. Забывацца пра факт свайго пражываньня ў шматмільённым моры цюрскіх народаў армянам аказалася гэтаксама згубна, як і беларусам — пагарджаць сваім існаваньнем побач з цэнтрам вялізнай дзяржавы з усясьветнымі амбіцыямі. Вось і маем у выніку крызісу цяпер расчыненую браму для ўводу Крамлём войскаў і fait accompli беспасярэдняй расейскай вайсковай прысутнасьці ў краіне — рэчы, якія цяжка было сабе ўявіць яшчэ пару гадоў таму.

Падсумоўваючы, можна сказаць, што падзеі 2020 году білі па рэжыме, а ўдарылі па Беларусі і беларусах, а менавіта па дзяржаўнасьці. І гэта працягваецца. Горш за тое, ва ўмовах сёньняшняй канфрантацыі, дэманізацыі і палярызацыі немагчыма задаць з гэтай нагоды нават самыя простыя пытаньні ніводнаму з бакоў. Дый хто задасьць — усе сталі ў той ці іншы акоп. Пакуль гэта так застанецца — беларуская рэспубліка працягне каціцца ў небыцьцё.

# Натальля Васілевіч:
## «Беларусы навучыліся станавіцца лідэрамі»



**Натальля Васілевіч,** палітоляг, багаслоў, мадэратар групы «Хрысьціянская візія»

Калі зь беларускім грамадзтвам вясной — летам мінулага году адбываўся палітычны ўздым, я асэнсавала, што мой звыклы паліталягічны інструмэнтарый выявіўся цалкам непрыдатным для аналізу падзеяў. Беларуская палітычная сцэна цягам гадоў дваццаці была прадказальная, падзеі разьвіваліся па цыклях, і мы добра навучыліся тлумачыць сабе і іншым, чаму ў Беларусі не працуюць ні сэрбскі, ні ўкраінскі, ні грузінскі сцэнар, а ўвесь палітычны працэс ідзе па заганным коле: перадвыбарчая «лібэралізацыя», выбары, Плошча, разгон, палітвязьні, санкцыі, пацяпленьне і новая «лібэралізацыя». Грамадзтва прыстасавалася да сымбіёзу з рэжымам — жывучы ці то ў паралельных рэчаіснасьцях, ці то нават атрымліваючы ад такога сымбіёзу пэўныя кампэнсацыі. Мы называлі гэтую схему сацыяльным кантрактам, «парадачкам», стабільнасьцю.

Пачатак вясны для ўсіх стаў непрадказальным, падзеі пачалі разгортвацца абсалютна некантралявана. Спачатку ўвесь сьвет з жахам назіраў за локдаўнам у таталітарным Кітаі, а ўжо праз месяц закрываў аэрапорты і школы, інтэрнаты для студэнтаў і цэрквы, бібліятэкі і крамы. Пандэмія каранавірусу, як нейкая стыхійная сіла, уварвалася ў жыцьцё, памяняла пляны, прымусіла пераасэнсаваць уласныя прыярытэты. Зрываліся вясельлі і вандроўкі, канфэрэнцыі і абароны дысэртацый. Нават звышдзяржавы не маглі даць рады сотням

тысячаў сьмерцяў, якія выклікаў звышмаленечкі, ня бачны воку вірус.

У гэтым кантэксьце само жыцьцё і неабходнасьць неяк перапрацоўваць каскад новага досьведу зрабілі запатрабаваным багаслоўе. Яно стала падавацца больш адэкватнай рамкай для аналізу рэчаіснасьці і сэнсаў, бо гэта сфэра ня толькі аналітычнай рэфлексіі, але інтуіцыяў, «расчытваньня знакаў», сфэра мэтафараў і мітаў, нябачных воку суб'ектаў, і ўрэшце — прастора цуду. З пачатку беларускага лета я перастала чытаць і слухаць палітолягаў. Лепшыя адказы я чула на шматгадзінных стрымах Свабоды, дзе людзі адказвалі на пытаньне, навошта яны сюды прыйшлі, а таксама ў царкве, у чарговым чытаньні зь лекцыянарыя.

Ёсьць шэраг біблійных цудаў, якія біблісты навучыліся тлумачыць як вынік чалавечых цнотаў, чалавечых якасьцяў і чалавечага выбару — цудаў, якія таксама прыводзілі да якасных зьменаў самога чалавека, супольнасьці і навакольнай рэчаіснасьці. Першы з такіх цудаў — гэта цуд салідарнасьці, цуд памнажэньня хлябоў. Ажно шэсьць разоў паўтараецца гэтая гісторыя ў Дабравесьці: каб накарміць народ, які сабраўся слухаць Яго, Хрыстос узяў некалькі хлябоў і рыбінаў, разьдзяліў, дабраславіў і раздаў людзям, і яшчэ засталося некалькі кошыкаў рэшты. Гэты цуд вучыць, што чым больш мы адкрываемся адзін аднаму, чым больш дзелімся адзін з адным, тым мацнейшая нашая супольнасьць і тым больш рэсурсаў у ёй зьяўляецца. Тое, як беларусы мабілізаваліся для ініцыятывы дапамогі мэдыкам #bycovid19, ці потым, калі прывозілі адзін аднаму пітную ваду ў чэрвені, стала сьведчаньнем

нараджэньня новай супольнасьці — супольнасьці, гатовай і да палітычнага дзеяньня.

Другі цуд — гэта цуд «маленькага чалавека», цуд Сьвятланы Ціханоўскай. Менавіта ў ёй рэжым пабачыў самую слабую і найменш небясьпечную для сябе фігуру — нікому невядомую, без прафэсійнага палітычнага досьведу, бяз добрай каманды, урэшце, жанчыну, кволую, без апірышчаў, бяз моцнай ідэалёгіі, з мужам у закладніках. Аднак, прыняўшы на сябе місію, у той момант, калі яна сказала гэтай місіі «так», гэтая жанчына ў выніку стала адной з самых моцных палітыкаў, і сапраўды «нямоглае гэтага сьвету» стала здольным на нечуваную раней мабілізацыю. Беларусы навучыліся станавіцца лідэрамі — проста адказваючы місіі «так».

Што адбылося зь беларускім грамадзтвам? Я б назвала гэта ініцыяцыяй. Народ вытрываў выпрабаваньні, праявіў сябе ў іх як мірны, салідарны, годны, самаахвярны — і перайшоў у новую якасьць. У біблійнай традыцыі пасьля пераходу і выпрабаваньняў героям даваліся новыя імёны. Як Аўрам стаў Аўраамам, гэтак і «Белоруссия» канчаткова стала Беларусьсю.

Вельмі часта, гаворачы пра тое, што адбылося зь беларусамі, выкарыстоўваліся мэтафары незваротнасьці працэсу: калі немаўля нарадзілася, яго немагчыма вярнуць назад ва ўлоньне маці; калі вулькан выдвергнуў ляву, яе таксама назад не зальеш; калі выціснуць пасту зь цюбіка, запхнуць яе назад будзе праблематычна. Гэта пераход да зусім новай формы жыцьця, якая найлепей апісваецца формулай «Беларус беларусу беларус».

У маім дзетсадаўскім дзяцінстве слова «беларус» было ўпісанае ў зьневажальную дражнілку «трус, трус, беларус». Пасьля 2020 году паняцьце «беларус» стала сынонімам станоўчых рысаў, цнотаў, знаку якасьці, катэгарычным імпэратывам. Быць беларусам — гэта быць адважным, быць салідарным, быць крэатыўным, быць на баку праўды і справядлівасьці, быць тым, хто адгукаецца на патрэбы іншых, тым, хто гатовы ўзвышаць свой голас супраць несправядлівасьці. Такое новае — этычнае і глыбокае — напаўненьне для «беларускага нацыянальнага».

Але быць беларусам, апроч таго, зрабілася небясьпечна. Быць беларусам пачало азначаць знаходжаньне пад пастаяннай пагрозай перасьледу, рэпрэсіяў, катаваньняў. Быць беларусам пачало азначаць, што тваё жыцьцё і годнасьць для дзяржавы нічога ня значаць, цябе могуць выцягнуць з машыны і пакласьці тварам у зямлю, пагражаючы зброяй. Могуць уварвацца дадому і зруйнаваць там усё дашчэнту. Могуць дзіка зьбіваць і не аказваць мэдычнай дапамогі. Быць беларусам пачало азначаць зьняволеньне ці выгнаньне.

Праходзячы праз перасьлед, катаваньні і прыніжэньні з боку сілавых структураў, беларусы ўсьвядомілі, наколькі важна, каб працавала сыстэма стрымліваньня свавольства дзяржавы. Праходзячы праз відавочна несправядлівыя суды з ананімнымі сьведкамі, беларусы ўсьвядомілі, наколькі важны справядлівы і бесстароньні суд. Праўда, права і справядлівасьць — гэта не асабістая справа кожнага, гэта не абстрактныя канцэпты, а падмуркі, безь якіх жыцьцё ў грамадзтве становіц-

ца невыносным. Бяз гэтага ня можа функцыянаваць ні мэдыцына, ні адукацыя, ні мэдыя, ні царква.

Што адбылося зь беларусамі за апошнія месяцы? Гэта прышчэпка ад гвалту і несправядлівасьці, прышчэпка ад аўтарытарызму і беззаконьня, прышчэпка ад прапаганды і хлусьні, трэніроўка этычнай імуннай сыстэмы грамадзтва.

# Алена Гапава:
## «Рухавікамі пратэсту былі супрацоўнікі IT-сэктару і фрылансэры»



**Алена Гапава,** прафэсарка катэдры сацыялёгіі Ўнівэрсытэту Заходняга Мічыгану (ЗША)

## Беларуская антыаўтарытарная грамадзянская рэвалюцыя

Больш за чвэрць стагодзьдзя Беларусь заставалася хрэстаматыйным прыкладам «электаральнага аўтарытарызму», пры якім рэгулярныя выбары з заўсёды вядомым вынікам хутчэй умацоўвалі дзеючы рэжым, чым расхіствалі яго. Нават калі такі расклад ня ўсім падабаўся, «старая» апазыцыя, якая гаварыла на мове правоў і нацыянальных каштоўнасьцяў, «не трапляла» ў сучасным мадэрнізаваным грамадзтве. У 2020 годзе, аднак, усё было інакш, і каб зразумець чаму, трэба адказаць на два пытаньні: хто такія пратэстоўцы з сацыялягічнага пункту гледжаньня і чаго яны хочуць «палітычна»?

## А хто там ідзе?

Папулярныя тлумачэньні беларускай мабілізацыі-2020 звычайна згадваюць, што апошнім часам у краіне паўстала «нябітае» (незапалоханае) пакаленьне; што беларуская грамада атрымала досьвед салідарнага дзеяньня падчас першай хвалі ковіду; што аб’яднаньню спрыяюць новыя камунікацыйныя тэхналёгіі, мела месца пагаршэньне эканамічнага становішча з прычыны закрытых падчас пандэміі межаў. Гэта важныя чыньнікі, але самі па сабе мабілізацыйныя трыгеры недастатковыя для антыаўтарытарнай гарадзкой рэвалюцыі (urban revolution) кшталту беларускай. Таму трэба глядзець, якія сацыяльныя «фармацыі» выявіў пратэст.

Вядома, што сацыяльны бэкграўнд пратэсту вельмі шырокі, і — што важна — 70% пратэстоўцаў ніколі да гэтага ня бралі ўдзелу ні ў чым «такім». Геаграфічна людзі выходзілі на вуліцы па ўсёй краіне, нават у малых паселішчах, пры найвялікшай канцэнтрацыі ў Менску. Здаецца, што жанчын было трошкі больш (55%); што пратэстоўцы больш адукаваныя, чым насельніцтва ў цэлым. Большасьць складалі расейскамоўныя прафэсіяналы: выкладчыкі, настаўнікі, бізнэсоўцы, людзі «культурніцкіх» і «мэдыйных» прафэсіяў, а таксама айцішнікі[1]. Як можна сацыялягічна аб’яднаць у адну групу ўмоўных банкіра і «свабоднага мастака»?

Здаецца лягічным зьвярнуцца да канцэпту «новай клясы»: ці можна прыстасаваць яго да дзіўнай рэчаіснасьці беларускага дзяржаўнага капіталізму? Тэрмінам «новая кляса» азначаюць прафэсійныя, інтэлектуальныя і экспэртныя эліты, чый капітал складае адукацыя і адпаведныя спосабы атрыманьня даходу, а лініі адрозьненьня ад іншых — культурныя; яны праяўляюцца нават праз густ і манеру размаўляць. У постсавецкіх грамадзтвах «новая кляса» пачала паўставаць адначасова зь пераходам да рынкавай эканомікі і ўключэньнем у глябальны капіталізм. Тады ці можа так быць, што «нябітае пакаленьне» — на самой справе «новая кляса», якая валодае сучаснымі інтэлектуальнымі, культурнымі і адукацыйнымі капіталамі? Сапраўды, здаецца, што рухавікамі пратэсту былі дзьве

1 Андрэй Вардамацкі, Аксана Шэлест. «Новая социология для новой Беларуси», Наше мнение, 15 сакавіка 2021. https://nmnby.eu/news/discussions/7360.html

групы. З аднаго боку, гэта супрацоўнікі IT-сэктару, які цяпер дае 5,6% беларускага ВУП. Эканамічная пасьпяховасьць айцішнікаў зьвязаная зь іх удзелам у стварэньні тэхналягічнай базы сучаснай глябальнай эканомікі. На другім краі пратэставага спэктру знаходзіцца адукаваны прэкарыят, у асноўным фрылансэры, якія таксама атрымліваюць сродкі да існаваньня праз глябальны мэдыйны рынак і ўдзел у міжнародных экалягічных, праваабарончых альбо фэміністычных праектах. Здаецца, што лінія сацыяльнага падзелу можа праходзіць паміж тымі, хто ўключаны ў постындустрыяльную сэрвісную і крэатыўную эканоміку і хто заняты ў традыцыйнай прамысловай вытворчасьці і дзяржаўнай сфэры. Аднак гэты малюнак размывае тое, што напачатку 21% пратэстоўцаў складалі працаўнікі прамысловасьці, якіх у Беларусі больш за мільён.

Такім чынам, канцэпт «новай клясы» трэба крыху перапрацаваць і гаварыць, хутчэй, пра тое, што з аднаго боку беларускага дзяржкапіталізму знаходзяцца тыя, хто ўключаны ў «сыстэму», з другога — тыя, хто па-за ёй[2]. Прыналежнасьць да «сыстэмы» залежыць ня толькі ад роду заняткаў (хоць гэта і важна), але і ад месца ў сыстэме: кіроўца высокага дзяржаўнага бюракрата будзе ўключаны ў «сыстэму», у той час як бізнэсовец бяз сувязяў у ёй — не (ён знаходзіцца пад пастаяннай пагрозай адвольнага арышту). Тыя, хто складае «сыстэму», калектыўна кантралююць дзяржаву, разьмяркоўваюць грошы і зьяўляюцца бэнэфіцыярамі дзярж-

2 Владимир Пастухов. «Революция отходит с белорусского вокзала». Новая газета, 14 сентября 2020.

капіталізму. «Сыстэма» таксама кантралюе ўжыванье (ці неўжыванье) законаў і выпрацоўвае «дзяржідэалёгію», г.зн. дактрыну «патрыятызму» і ляяльнасьці да ўладаў, якая выкладаецца праз сыстэму адукацыі і прасоўваецца празь дзяржаўныя СМІ і дзяржаўнае мастацтва. Тады зразумела, чаму дактары (якія працуюць у дзяржаўным сэктары, але не кантралююць рэсурсы) удзельнічалі ў пратэстах разам з прадпрымальнікамі і «крэатыўшчыкамі», у той час як дзяржбюракраты, унівэрсытэцкая адміністрацыя, мясцовае кіраўніцтва, а таксама ўдзельнікі «дзяржаўнага шоўбізнэсу», якія атрымліваюць сродкі для існаваньня, працуючы на прапагандысцкім дзяржтэлебачаньні, знаходзяцца на іншым баку. «Валодае» ўсёй дзяржавай-карпарацыяй прэзыдэнт, чыя ўлада абапіраецца на армію і сілавыя структуры.

### А чаго ж трэба ім?

Часам даводзіцца чытаць спрэчкі паміж аналітыкамі адносна «палітычнай праграмы» пратэсту і нават папярэджаньні — «вы што, хочаце як ва Ўкраіне?» (пад чым звычайна маецца на ўвазе каляпс сацыяльнай дзяржавы). Між тым пратэстоўцы, здаецца, ня вельмі дбалі пра «формы маёмасьці»: пастаянным рэфрэнам актыўнай фазы пратэсту быў выраз «людзьмі звацца». Ён «выскокваў» нібыта сам сабой у працоўных «Гродна-Азоту», шахтароў Салігорску, гараджанаў, што прыйшлі да кіраўніка парлямэнцкай (ручной) Камісіі па правах чалавека і г.д. У Горадні падчас сустрэчы з гарадзкой адміністрацыяй рабочы нават падкрэсьліў: «Зараз мы НЕ падымаем ніякіх патрабаваньняў наконт па-

велічэньня заробку…»[3].Пратэстоўцы зьвярталіся да гонару і годнасьці, і таму важна зразумець, зь якога сацыяльнага рэчыва яны складаюцца.

Гэтае рэчыва — (групавая і пэрсанальная) аўтаномія і права на незалежнае дзеяньне, прызнаньне якіх і сталася асноўным пунктам пратэсту. Вядома, што пратэстоўцы ня толькі ўдзельнічалі ў дэманстрацыях, але зьбіралі грошы для палітзьняволеных і тых, хто страціў працу, малявалі графіці, арганізоўвалі канцэрты і чытанкі, вывешвалі сьцягі і жаночую бялізну ў «нацыянальных» колерах, валянтэрылі каля турмаў і г.д. Гэтая дзейнасьць з прычыны яе паўсядзённага і добраахвотнага характару ляжыць у аснове фармаваньня ідэнтычнасьці. Удзельніца пратэстаў напісала ў ФБ: «Старая апазыцыя імкнулася вярнуць нам нашыя правы, а новая вярнула нам нас саміх. Яны сказалі: «Вы ведаеце, што трэба рабіць. Ідзіце і рабіце».

Інакш кажучы, пратэстоўцы дзейнічаюць як аўтаномныя суб’екты, якія імкнуцца быць пачутымі; праз гэта яны дасягаюць самаўсьведамленьня і робяцца тымі, кім, яны лічаць, сапраўды зьяўляюцца. Катэгорыя грамадзянскасьці прадугледжвае прызнаньне індывіда роўным партнэрам і магчымасьць кантраляваць паводзіны дзяржавы, прыцягваць яе да адказу, калі, напрыклад, яна несумленна лічыць галасы. Беларуская антыаўтарытарная рэвалюцыя мае сваёй мэтай пераход да іншага сацыяльнага кантракту і перагляд адносінаў паміж грамадзянінам і дзяржавай.

---

3 Прамова рабочага на страйку ў Беларусі, 17 жніўня 2020 г.: https://www.youtube.com/watch?v=OEcbOimyT60&t=71s.

# Сяргей Дубавец:
## «Урок году — у абнаўленьні словаў»



**Сяргей Дубавец,** пісьменьнік

## Разумная стыхія

Думаю, гэта быў прэцэдэнт, бо нічога падобнага не прыгадваецца. Звычайна былі лідэры, якія рыхтавалі масавы выхад на вуліцы, калі ж гэта быў стыхійны выхад, ён часьцяком ператвараўся ў бунт, масавыя беспарадкі з пагромамі. У нашым выпадку лідэры калі і былі, дык або намінальныя, або ў турме, або за мяжой. Тэлеграм-каналы спрабавалі каардынаваць, але на справе гэта выглядала неяк пост-фактум — многія толькі пасьля даведваліся, напрыклад, як называўся марш, якім яны прайшлі. Не было і бунту, наадварот, шэсьці праходзілі падкрэсьлена карэктна.

Сотні тысяч людзей выйшлі на вуліцы па ўсёй краіне, каб сказаць: «Мы ёсьць! З намі трэба гаварыць», то бок адчулі сябе маральнай большасьцю, крыніцай улады, палітычным суб’ектам. І гэтым зьдзівілі найбольш — у ролі альтэрнатывы рэжыму выступіла ўсё грамадзтва. Гэта была разумная самакіраваная стыхія.

## Разьвітаньне з СССР

Вядомы з часоў Яфрэма Сакалова і яго выступу на плошчы Незалежнасьці ў Менску выраз «Ня трэба палітызаваць» як заклінаньне паўтарае цяперашні рэжым — напрыклад, віцэ-прэм’ер ураду завяршыў гэтымі словамі свой выступ на пахаваньні Каліноўскага ў Вільні. Гучаць яны ўвесь час і ў афіцыйнай прапагандзе.

Між іншым, людзі на вулічных маршах спрэс прызнаваліся журналістам, што раней палітыкай не цікавіліся. Былі й такія, хто казаў, што раней заўсёды галасаваў за Лукашэнку. То бок адбылося далучэньне да палітыкі вялікае колькасьці народу — што палохала ўлады на выхадзе з СССР і палохае сёньня. З чаго можна зрабіць выснову, што гэта завяршальны этап выхаду найлепшай савецкай рэспублікі з СССР.

### Мабілізацыю справакавала ўлада

Першым штуршком, які прымусіў людзей крытычна паставіцца да ўлады, стала рэакцыя апошняй на пандэмію, на пакуты і сьмерці, калі зьверху не прагучала ні слова падтрымкі і надзеі, а сыпаліся адно абразы і пагрозы. Матыў непавагі ўлады да народу пасьля будзе часта гучаць у галасах вуліцы на журналісцкіх стрымах. Другі штуршок — праца блогераў, якія паказвалі рэальнае жыцьцё ў краіне, цалкам адрознае ад карцінкі афіцыйнай прапаганды. Наступны крок — вылучэньне пераканаўчых кандыдатаў у прэзыдэнты, якім людзі паверылі, і арышт гэтых кандыдатаў. Далей — відавочны для ўсіх падман на выбарах з таемнымі ўцёкамі з участкаў выбарчых камісіяў і татальнымі арыштамі і катаваньнямі людзей, якія прыйшлі паглядзець выніковыя пратаколы. Пасьля гэтага адбыўся выбух, сотні тысяч выйшлі на вуліцы па ўсёй краіне.

Гэта была дэманстрацыя народнага адзінства і супольнай візіі будучыні краіны. Ні лідэры думкі — палітыкі, грамадзкія актывісты, журналісты — ніхто ўвогуле не чакаў такіх масавых шэсьцяў.

## Адзінства беларускай гісторыі

З гледзішча адзінства беларускай гісторыі паўстаньне 2020-га цалкам упісваецца ў доўгі шэраг паўстаньняў, якія адбываюцца ў Беларусі з часоў падзелаў Рэчы Паспалітай. Дэтанатар гэтых паўстаньняў нязьменны — непавага да чалавека.

Мне даводзілася чытаць шмат мэмуарыстыкі пра паўстаньні XIX стагодзьдзя, і я бачу, што народная маса ў сваіх праявах не зьмянілася — тая самая эўфарыя на зломе шчасьця яднаньня і трагедыі сьмерці, тыя самыя жаночыя маршы з кветкамі і «фенечкамі», тая самая здольнасьць да самаарганізацыі магдэбурскага некалі народу. Не адрозьніваецца і рэакцыя сыстэмы, якой супрацьстаяць людзі — з часоў сярэднявечча гэта тыранія, якая ня ведае эўрапейскай гуманістычнай традыцыі, адмаўляе ўсё нацыянальнае беларускае, ігнаруе законы, выкарыстоўвае нічым не апраўданы гвалт.

На маю думку, гэта ня вецер, які пэрыядычна вяртаецца, а той стрыжань, калектыўнае несьвядомае, якое адлюстравалася ў беларускай культуры за вякі. Бясконцае адмаўленьне беларусам у праве людзьмі звацца, быць паўнавартаснай нацыяй, сумневы ў праве на незалежнасьць, забалботваньне нацыянальных тэмаў — усё разам адпала, як шалупіньне, у якое больш не паверыць ніхто.

## «Беларус беларусу беларус»

У вулічных маршах нарадзіліся этапныя тэзісы, як, напрыклад, «беларус беларусу беларус», людзі аддзялілі сябе ад улады (амон б’е беларусаў) і ад Расеі («Пуцін, ня лезь!»). То бок беларусы адчулі сябе самадастатковай супольнасьцю, дзе першая

каштоўнасьць — чалавек. Паводле духу адбылося вяртаньне ў часы Статутаў ВКЛ — свайго, тутэйшага гуманізму. Людзі вярнулі сабе нацыянальныя герб, сьцяг і купалаўскі лёзунг «Жыве Беларусь!», скандавалі «Далучайся!». Што да мовы, дык, на мой погляд, стаўленьне да яе ў масы беларусаў зьмянілася з абыякава-нэўтральнага ці нэгатыўнага на пазытыўнае. Дваровыя супольнасьці цалкам прысьвячалі свае сходы выступам беларускіх культурніцкіх лідэраў. У турмах людзі развучвалі беларускія песьні.

Моцна русыфікаваная нацыя адчула, што мае патэнцыял быць сабою.

Беларускі пратэст 2020 году ня меў геапалітычнага вымярэньня, бо, думаю, гэта ў першую чаргу быў не пратэст, а працэс абуджэньня нацыі, пра што шмат казалі самі людзі, эўфарыя яднаньня беларусаў.

## Расколу няма

Усе беларусы, нібыта, падзяліліся на «ябацькаў» і «змагароў». Але расколу няма, бо і першыя, і другія гавораць пра нежаданьне вайны, пра незалежнасьць і захаваньне дзяржаўнасьці, пра народнае адзінства. На стрымах з праўладных мітынгаў «ябацькі» ў адзін голас асуджалі катаваньні ў турмах, пры тым падкрэсьліваючы, што нападаць на праваахоўнікаў нельга. Але пра тое самае кажуць і «змагары».

Расколу няма, ёсьць магнэтызм, інэрцыя, звычка жыць пры Лукашэнку. Які б ён ні быў. Людзі зьвязваюць сваё звыклае жыцьцё з асобай кіраўніка, пры якім «пражылі ўсё жыцьцё», ім здаецца, што сьвет абрынецца, калі яго ня стане. Памятаю, цалкам са-

бе разумныя кабеты плакалі, калі памёр Брэжнеў, напрыклад.

Паколькі ўсе хочуць аднаго, іх падзяляе толькі асоба Лукашэнкі. Калі ён зьнікне, мы пабачым, што «ябацькаў» і «змагароў» нішто не падзяляе. Яны проста беларусы, схільныя да парадку, людзкага абыходжаньня і законнасьці.

Сёньня пры ўсёй напружанасьці ў грамадзтве, якую стварае рэжым, беларусы суіснуюць у звычайных публічных прасторах, ніяк не пазначаючы свае прыхільнасьці, яны не варагуюць у транспарце, у крамах ці на вуліцах. Нават на маршах 2020 году «ябацькі» і «змагары» хадзілі па сваіх маршрутах пад сваімі сьцягамі, мірна прамінаючы адны адных.

## Непрадказальны народ

Падзей 2020-га ня мог прадказаць ніхто. Дакладней, цалкам прадказальнымі былі паводзіны рэжыму, але зусім непрадказальна паводзіў сябе народ. Гэта было народнае волевыяўленьне, пра якое немагчыма шкадаваць, калі твой унутраны покліч з гэтым волевыяўленьнем супадае. Мы бачылі, што мяняецца эпоха, мяняюцца людзі, што людзі робяць выбар на карысьць цывілізацыі, а ня барбарства. Людзі патрабуюць павагі да сябе, да свайго выбару, да свайго мірнага пратэсту, да свайго адзінства, да сваёй палітычнай суб’ектнасьці. Усё, што супрацьстаяла і супрацьстаіць гэтаму, умомант абясцэнілася. І нязьмерна вырасла цана гэтых народных патрабаваньняў. Безумоўна, я шкадую людзей, якія трапілі пад гэты бесчалавечны малох. І вельмі высока цаню іхную ахвяру. Разумею, што нават калі яны пацярпелі выпадкова, іхная ахвяра не выпадковая.

**Якія ўрокі зь беларускіх падзеяў 2020 году?**

Для мяне ўрок — у абнаўленьні словаў. Самыя простыя словы, як напрыклад «дабро» і «зло», напоўніліся рэальным зьместам. Мы жылі ў той рэальнасьці, якую Янка Купала апісаў фразай «мяшаецца праўда і зло». Ён пісаў гэта пра рэальнасьць Расейскай імпэрыі, у пачатку XX стагодзьдзя. Мы бачым, што на працягу ўсёй гісторыі праўда і зло там ня толькі мяшаліся, а нязьменна сыходзілі зьверху, ад улады. Дабро і зло мяшаліся ў сталінскія часы, калі «Весёлые ребята» спалучаліся з ГУЛАГам. І мы жылі ў такой вось імпэрскай стылістыцы да 2020 году. Прынамсі, гэта была звыклая для ўсіх візія стылістыкі дачыненьняў народу і ўлады, калі і дабро, і зло паходзіць ад улады, а ад народу не паходзіць нічога. А на выспачцы бясьпекі паміж дабром і злом можна цалкам сабе камфортна існаваць, як камфортна існавалі два міністры, два лібэралы і беларусафілы Латушка і Макей, а разам зь імі — і абсалютная большасьць беларускага народу. І вось выспачка перастала існаваць.

Энэргія абсалютнага дабра ў 2020 годзе сыходзіла ад народу, а абсалютнае зло — ад улады. І абодва міністры зрабілі свой выбар і апынуліся па розныя бакі таго, што перастала мяшацца.

То бок гэта было антыімпэрскае паўстаньне, як, зрэшты, і ўсе папярэднія паўстаньні ў гісторыі Беларусі. Паўстаньне супраць мяшаньня праўды і зла, за палітычную суб’ектнасьць беларускага народу, за тое, што мы ёсьць і з намі трэба гаварыць.

Беларусам давядзецца пасьля гэтага капітальна абнавіць свой слоўнік сэнсаў і свае палітычныя актыўнасьці. Напрыклад, ці можна спадзявацца

на дапамогу Расеі, калі там тая самая стылістыка дачыненьняў народу і ўлады, ад якой у 2020 годзе беларусы адмовіліся як ад варожай сабе?

Тое самае можна сказаць пра «дыялёг» з уладамі, якога так хацелі людзі і на які проста ня здатны дыктатар. Цяпер гэтая ілюзія зьнікла, як і цалкам разьвеяўся давер людзей да рэжыму. Нават калі рэжым спыніць рэпрэсіі, давер ня вернецца, бо гэты досьвед закрануў практычна ўвесь народ.

Мірны характар паўстаньня паказвае, што людзі здольныя цярпець і надалей, пакуль рэжым не дэградуе сам. Але цяпер яны пільна сочаць за гэтым працэсам і living рознымі спосабамі будуць спрыяць яму, разумеючы ягоную сутнасьць. Ці можа зло ў чыстым выглядзе існаваць доўга? І ці ня ёсьць гэтае «сваё» зло абавязковай умовай станаўленьня нацыі, калі яна мусіць яго выгадаваць і пераадолець? І ці сваё гэта зло? Апошняе пытаньне, можа, самае важнае ў рэфлексіі беларусаў на паўстаньне 2020 году.

# Валер Карбалевіч:
## «Пасіянарны выбух 2020 году — форма нацыянальна-вызвольнага руху»



**Валер Карбалевіч**, палітоляг

**Пасіянарны выбух 2020 году**

1. Галоўная прычына рэвалюцыйнага выбуху палягае ў тым, што беларуская сацыяльная мадэль, створаная Аляксандрам Лукашэнкам чвэрць стагодзьдзя таму, вычарпала свой рэсурс, стала тормазам разьвіцьця. Больш за тое, разьвіцьцё — пагроза для яе выжываньня.

2. «Беларуская вясна» 2020 г. — гэта рэвалюцыя чаканьняў, якія растуць. За 26 гадоў кіраваньня Лукашэнкі адбылася зьмена пакаленьняў. Памянялася структура эканомікі і сацыяльная структура грамадзтва. Павялічылася колькасьць людзей, якія працуюць у прыватных структурах. Сацыялягічныя апытаньні паказваюць, што беларусы сталі адным з самых прарынкавых народаў Эўропы. А антырынкавая сацыяльная мадэль засталася старой.

Новыя тэхналёгіі, стварыўшы сучасныя сэктары эканомікі, у прыватнасьці IT-галіну, спарадзілі работнікаў зь іншымі каштоўнасьцямі і ладам жыцьця. Яны стымулявалі канфлікт, стылістычны разрыў паміж людзьмі, якія жывуць у лічбавай сфэры, з гарызантальна арганізаванай сеткавай культурай, — і дамінуючай у краіне аўтарытарнай, герархічнай кіроўнай вэртыкальлю.

3. У Беларусі сёньня мы маем мадэрнізаванае грамадзтва, арыентаванае на перамены, якое хоча вызваліцца ад дзяржаўнага патэрналізму, і ўладу, якая кансэрвуе status quo. Грамадзтва перарасло дзяржаву, яму стала цесна ў яе рамках.

4. Беларуская сацыяльная мадэль была заснаваная не на даверы грамадства да палітычных інстытутаў, а на даверы да Лукашэнкі. Легітымнасьць рэжыму шмат у чым грунтавалася на асабістай харызьме кіраўніка дзяржавы. А крызіс даверу да яго прывёў да вострага палітычнага крызісу.

5. Вынікам апошніх падзеяў стала дэсакралізацыя ўлады як такой. Яна страціла маральны аўтарытэт. У Беларусі дасюль дзяржаўныя інстытуты былі адзінай скрэпай, якая аб’ядноўвала беларусаў у агульны соцыюм. Іншыя мэханізмы, кшталту нацыі, грамадзянскай супольнасьці, былі слабыя. Цяпер дзяржава адмовілася выконваць гэтую функцыю. Улады ўзялі курс на раскол грамадства, па сутнасьці, абвясьцілі грамадзянскую вайну большасьці сваіх грамадзянаў. Цяпер дзяржава, уключыўшы на поўную магутнасьць мэханізм рэпрэсіяў, большасьцю грамадства ўспрымаецца як небясьпека.

6. За некалькі месяцаў адбылася паскораная сацыялізацыя грамадства. Абываталі раптам ператварыліся ў грамадзянаў. Народ стаў палітычным суб’ектам, чаго ніяк ня хоча прызнаваць рэжым.

7. За некалькі месяцаў у Беларусі была створаная гарызантальная інфраструктура грамадзянскай супольнасьці. Мадэль карпаратыўнай дзяржавы зазнала моцную эрозію. Карпарацыі, створаныя дзяржавай (ФПБ, БРСМ, «Белая Русь» і інш.), у момант вострага крызісу аказаліся недзеяздольнымі. Замест іх стыхійна паўсталі самаарганізаваныя супольнасьці дамоў, мікрараёнаў, прафэсійныя супольнасьці («Белыя халаты», чаты спартоўцаў і

інш.). Гэты працэс у значнай меры адбываецца на базе лічбавых плятформаў.

8. Пратэсты 2020 году сталі важнай праявай завяршэньня працэсу станаўленьня беларускай нацыі. У процівагу рэжыму, які апэлюе да савецкай традыцыі, пратэставае грамадзтва ўзяла на ўзбраеньне традыцыйныя нацыянальныя сымбалі: бел-чырвона-белы сьцяг і герб «Пагоня». На іх аснове фармуецца новая (несавецкая) беларуская ідэнтычнасьць. Пасіянарны выбух беларускага социюму — гэта своеасаблівая форма нацыянальна-вызвольнага руху.

9. Беларускі пратэставы выбух нанёс скрышальны ўдар па апошняй постсавецкай утопіі. Ён разбурыў праект, заснаваны на ілюзіі, што можна забясьпечыць разьвіцьцё краіны без дэмакратычнай трансфармацыі, кансэрвуючы асноўныя элемэнты савецкага мінулага. Яго можна разглядаць як апошняе рэха рэвалюцый 1989–1991 гадоў.

10. Ранейшымі мэтадамі Лукашэнку ўлады не ўтрымаць. Складаецца сытуацыя, якую клясык рэвалюцыі апісаў формулай: вярхі ня могуць кіраваць па-старому. Гэта азначае, што аўтарытарны рэжым у Беларусі, каб выжыць, па неабходнасьці павінен стаць больш жорсткім і недэмакратычным, чым раней.

11. Культ голага гвалту больш за ўсё характарызуе няздольнасьць кіроўнага рэжыму адаптавацца да новай рэальнасьці. У рэжыму няма ніякага наратыву будучага, акрамя захаваньня status quo, заснаванага на гвалце і страху. Лукашэнка нават не разумее неабходнасьці такога наратыву.

12. Цана навядзеньня парадку сілавым спосабам ужо аказалася вельмі высокая і працягвае расьці.

У супрацьстаяньні рэжыму з пратэстамі адбыўся дэфолт дзяржаўных функцыяў. Гэта значыць, дзяржаўныя ўстановы перасталі выконваць свае абавязкі.

Фактычна разбураецца зьнешняя палітыка Беларусі, краіна губляе сваю міжнародную суб'ектнасьць.

Цалкам разбураная прававая сыстэма і інстытуты правасудзьдзя, без чаго немагчыма існаваньне паўнавартаснай сучаснай дзяржавы.

У краіне пасьлядоўна руйнуюцца структуры бізнэсу, культуры (Купалаўскі тэатар), спорту, падазраваныя ў неляяльнасьці кіроўнаму рэжыму. Улады ахвяравалі міжнацыянальным мірам у краіне, пачаўся перасьлед польскай нацыянальнай меншасьці.

Такім чынам, дзяржава пазбаўляецца ад уласных функцыяў, пакідаючы толькі тыя, якія забясьпечваюць захаваньне ўлады, то бок карныя. Адбылася рэдукцыя дзяржавы да палітычнага рэжыму.

Вельмі знамянальна, што многія прадстаўнікі сілавых структураў дзейнічаюць ананімна. Гэта значыць, яны не падобныя да людзей, што дзейнічаюць ад імя дзяржавы, якая валодае манаполіяй на гвалт. Гэтыя людзі больш нагадваюць нейкую прыватную вайсковую кампанію (кажучы расейскай моваю, ЧВК) Лукашэнкі.

13. Аляксандар Лукашэнка, які чвэрць стагодзьдзя быў гарантам стабільнасьці, цяпер, як гэта ні парадаксальна, стаў адным з асноўных фактараў дэстабілізацыі беларускага грамадзтва.

14. Да гэтага часу Лукашэнка апэляваў да народу праз галаву ўсіх дзяржаўных інстытутаў і намэнклятуры, і яго рэжым аднаасобнай улады трымаўся на народнай падтрымцы. Цяпер, калі грамадзкая падтрымка зьнікла, ён вымушаны спадзявацца на дзяржаўны апарат. Гэта азначае, што роля, палітычная вага намэнклятуры ўзрастае. Намэнклятура можа ператварыцца ў суб'ект палітыкі. Пра гэта сьведчаць, напрыклад, крокі Лукашэнкі да падвышэньня ролі і паўнамоцтваў Рады бясьпекі.

15. Беларусь увайшла ў пэрыяд пэрманэнтнага сацыяльна-палітычнага крызісу, які ня можа быць вырашаны ў рамках існага палітычнага рэжыму. Мы атрымалі расколаты, траўмаваны соцыюм.

16. Перанасычэньне аўтарытарызмам лукашэнкаўскага тыпу вядзе да таго, што ківач грамадзкіх настрояў моцна хіснуўся ў іншы бок. За 27 гадоў кіраваньня Лукашэнкі ў краіне адбылася антыаўтарытарная вакцынацыя, выпрацаваліся «антыцелы» супраць дыктатуры, «прававога бязьмежжа», патэрналісцкай дзяржавы. Беларусь дасьпела да паўнавартаснай рынкавай эканомікі і дэмакратыі ліберальнага тыпу. На парадку дня пераразаснаваньне дзяржавы на новых прынцыпах.

# Валерыя Касьцюгова:
## «Грамадзтва даўно апярэдзіла ў сваім разьвіцьці ўладу»



**Валерыя Касьцюгова,** палітоляг, заснавальніца і рэдактарка сайта экспэртнай супольнасьці «Наше мнение», рэдактарка выданьня «Белорусский ежегодник»

## Узнаўляльны, але ўсё ж абмежаваны рэсурс

Як бы мы ні ацэньвалі вынікі 2020 году, важна адзначыць, што грамадзтва даўно апярэдзіла ў сваім разьвіцьці ўладу. Сацыяльна-эканамічная структура, каштоўнасьці і ўяўленьні аб лепшым жыцьці беларускіх грамадзянаў цалкам адпавядаюць часу і рэгіёну. Рыгідны палітычны рэжым ня здолеў істотна запаволіць пераход Беларусі да арганізацыі новага парадку, заснаванага не на маларадукцыйнай працы, а на камунікацыях і спэцыялістах. Верагодна, што для эфэктыўнай абароны ад глябалізацыі недастаткова ізаляваць ад грамадзтва сыстэму кіраваньня і весьці кропкавыя рэпрэсіі, а неабходная поўная ізаляцыя ўсяго грамадзтва. Так ці інакш, неадпаведнасьць паміж каштоўнасьцямі і памкненьнямі грамадзян і дзяржавы ўвесь час паглыблялася і, мяркуючы па выніках, да 2020 году дасягнула крытычных значэньняў.

Верагодна, адыграў сваю ролю і «эфэкт Майдану». З 2012 па прыкладна 2018 год улада лічыла, што эканамічная актыўнасьць грамадзянаў, новыя тэхналёгіі і нават нармалізацыя адносінаў з ЭЗ не пагражаюць захаваньню дыстанцыі паміж уладай і грамадзтвам, і зьнізіла ў гэтых абласьцях «каэфіцыент запаволеньня». Бізнэс і новыя тэхналёгіі разьвіваліся павольней, дзякуючы апарату падаўленьня, чым у суседніх краінах, але не настолькі ж павольна, як адносіны ўлады і грамадзтва. Але нават і ў палітычнай сфэры былі зроблены нека-

торыя зьмякчэньні. Курс уладаў на адставаньне краіны ад астатняга сьвету стаў менш відавочным.

У грамадзтва зьявілася надзея на эвалюцыйнае разьвіцьцё, на тое, што апарат падаўленьня любой актыўнасьці зь цягам часу аслабіць сваю хватку і агульныя ўмовы ў Беларусі будуць паступова набліжацца да сучаснасьці. Але на працягу 2018–2019 гадоў улада, адчуўшы пагрозу скарачэньня дыстанцыі паміж ёю і грамадзтвам, пачала вяртаць магутнасьць апарату падаўленьня да ранейшых значэньняў, аднавіўшы «каэфіцыент запаволеньня» ў эканоміцы, новых тэхналёгіях, адукацыі, ахове здароўя і разьвіцьці грамадзянскай супольнасьці да ранейшага стану. Надзеі на эвалюцыю страцілі такім чынам падставы да пачатку 2020 году.

Сацыяльны выбух стаў непазьбежным, хоць ён і ня быў перадвызначаны менавіта прэзыдэнцкай выбарчай кампаніяй 2020 году. Паскарэньне падзеям надала дэманстрацыйная адмова дзяржавы ад клопату пра жыцьцё і здароўе грамадзянаў у пэрыяд пандэміі COVID-19. І факт, што самыя масавыя пратэсты ў Беларусі не плянаваліся прафэсійнымі палітыкамі і здарыліся ў абарону галасоў за невядомую да выбараў хатнюю гаспадыню, сьведчыць аб тым, што ўлада і палітыкі сур’ёзна недаацанілі ступень сацыяльнага напружаньня напярэдадні падзеяў 2020 году.

Доўгі час уладам удавалася адкладаць непазьбежнае, ствараючы ілюзію, што выбар магчымы толькі паміж яе кансэрватыўным праектам і іншым ня менш кансэрватыўным — ультыматыўным нацыяналізмам, таксама творам XX стагодзьдзя, які, як і савецкі праект, грунтуецца на ўяўленьні пра

невычэрпнасьць чалавечых рэсурсаў і, адпаведна, магчымасьць нэўтралізацыі або перавыхаваньня ўсіх, хто ў яго ня ўпісваецца. Для падмацаваньня сваёй ідэі «невычэрпнасьці» рэсурсаў улада заклікала цень Расеі, адрэтушаванай да агіткі позьняга СССР.

Пакуль тэлевізар зь яго немагчымасьцю выбару і зваротнай сувязі заставаўся дамінуючым сродкам масавай інфармацыі, уладам удавалася прадстаўляць палітычную апазыцыю як ультыматыўна-нацыяналістычную і лібэральную (уключаючы нават апазыцыйных камуністаў). Гэтым няхітрым прыёмам улада сканструявала сэрыю ілжывых палітычных дылемаў для беларусаў: Захад/Усход, індывідуалізм/калектывізм, лібэралізм/сацыяльная палітыка, нацыяналізм/прарасейскасьць.

Ня дзіўна, што беларусы ў сваёй большасьці ў якасьці палітычных поглядаў выбіралі абсэнтэізм, ня ўпісваючыся ў гэтыя састарэлыя опцыі і часьцяком аддаючы перавагу і аднаму, і другому, — калі такая магчымасьць якім-небудзь чынам узьнікала. Бо ў выніку рэальны сацыяльны падзел праходзіць па лініі хронапалітыкі, якая падзяляе «ўчора» і «сёньня» і ўвогуле не супадае з цывілізацыйна-геапалітычным расколам паміж «вялікай» Расеяй і калектыўным Захадам.

Таму, як толькі зьявіліся кандыдаты, якія не надаюць значэньня праблемам прапаганды і не паўтараюць за ёй, грамадзтва натхнілася. Зь ім загаварылі на мове яго праблемаў — пра сучаснасьць, пра спосабы жыць у сьвеце бяз штучна навязанага выбару паміж капіталізмам і «сацыяльнай дзяржавай», Расеяй ці Эўропай, пра салідарнасьць, пра формы калектыўнага дзеяньня, нарэшце, пра годнасьць чалавека.

Важна адзначыць, што немалая частка гэтак званых прыхільнікаў Лукашэнкі, то бок людзей, якія альбо галасавалі за яго, альбо дэлегавалі гэтую функцыю ЦВК, часьцяком падтрымліваюць Лукашэнку галоўным чынам у тым, што палітычная мабілізацыя і палітычны крызіс — ня лепшы варыянт сучаснасьці і будучыні. Гэтыя людзі — у некаторых выпадках справядліва — лічаць, што пры любой палітычнай сыстэме іх месца ў сацыяльным ляндшафце застанецца далёкім ад цэнтраў прыняцьця рашэньняў. Таму масавы рух за зьмену ўлады і дэмакратызацыю не сустрэў супраціву з боку прыхільнікаў Лукашэнкі, не інтэграваных у органы ўлады.

Але з 2021 году самі ўлады ажыцьцяўляюць пэрманэнтную палітычную мабілізацыю. Маўклівай падтрымкі (шляхам фактычнага ўхіленьня ад палітыкі) Лукашэнку ўжо недастаткова, і ў навінах зьяўляюцца паведамленьні аб калектыўных зваротах грамадзянаў у падтрымку ўлады, аб стварэньні войскаў самаабароны і г.д. У прынцыпе гэта азначае, што спакойнае жыцьцё ўдалечыні ад палітыкі становіцца немагчымым, не застаецца месца для славутай стабільнасьці. Дзяржапарат вынаходзіць усё новыя і новыя спосабы прадухіленьня сабатажу і ўхіленьня — спосабаў паводзінаў, якія разбураюць сацыяльны кантракт, што накідаецца ўладамі пасьля выбараў 2020 году.

Улічваючы тое, што да сярэдзіны 2021 году ў Беларусі не засталося сацыяльных групаў, уключна з кіроўнай, якія былі б задаволеныя станам рэчаў, хутчэй за ўсё, папулярнасьць ідэі сацыяльнага прымірэньня будзе нарастаць.

Грунтавацца такое прымірэньне можа, у прыватнасьці, на агульным прызнаньні таго неабвержнага факту, што чалавечыя рэсурсы абмежаваныя. Што нас, беларусаў, усяго 9,5 мільёна ў сьвеце, у якім аснову эканомікі складае кваліфікаваная праца і/альбо прадпрымальнасьць. Што 140 мільёнаў расейцаў ня будуць вырашаць нашы праблемы, і 450 мільёнаў эўрапейцаў — таксама. Што сьмешна разьлічваць, нібыта 2 мільярды кітайцаў кінуцца дапамагаць нам захоўваць састарэлую сыстэму кіраваньня і элемэнты савецкай эканомікі, у той час як самім ім давялося ад усяго гэтага адмовіцца. І калі сур'ёзна прыняць да ведама, што беларусаў усяго 9,5 мільёна і больш ня стане, то давядзецца прызнаць, што ў распараджэньні любога палітычнага праекту «асаблівага шляху» — надзвычай малы чалавечы рэсурс, які да таго ж скарачаецца з прычыны адтоку кваліфікаваных работнікаў.

Вядома, непрымірымыя лягеры ўсё роўна застануцца. Цяпер ультыматыўныя «заябацькі» і нацыяналісты гатовыя падмацоўваць свае пазыцыі пакаленьнямі, якія адышлі ў нябыт, альбо ілюзорнымі саюзьнікамі, бо рэальны ўплыў гэтых поглядаў вельмі абмежаваны. Але большасьць беларусаў, як паказалі падзеі 2020 году, цалкам згодныя берагчы людзей і гатовыя да інклюзіўнай палітыкі. Няма сумневу, што ўладам, пасьля няўдалых спробаў накінуць сваё ўтапічнае бачаньне саюзьніцтва з Расеяй і Кітаем, давядзецца зьмірыцца з тым, што іншых беларусаў ім не здабыць і давядзецца мець справу з тымі, якія цяпер жывуць.

# Генадзь Коршунаў:
## «Грамадзтва пачало асэнсоўваць, што яно сапраўды — супольнасьць і грамада»



**Генадзь Коршунаў,** сацыёляг,
навуковы супрацоўнік ЭГУ

**#Беларусь2020**

Літаральна для ўсяго сьвету 2020 год праходзіў пад знакам COVID-19 і тых канфліктаў, што ён выклікаў. Беларусь тут сталася пэўным выключэньнем, бо каранавірус ня проста вывеў спадыспаду насьпелыя супярэчнасьці, але спарадзіў сапраўдны сыстэмны крызіс. Менавіта так, і было б памылкай лічыць, што падзеі, якія цяпер акрэсьліваюцца як #Беларусь2020, маюць толькі палітычныя падставы. Іх карані значна глыбейшыя, і вытокі трэба шукаць у першай палове 90-х мінулага стагодзьдзя, калі толькі закладаўся падмурак сучаснай беларускай дзяржаўнасьці.

На той час беларускае грамадзтва існавала ў даволі спэцыфічным фармаце разьмеркаванай, лякальнай сацыяльнасьці, дзе панавалі засяроджанасьць на паўсядзённым, пераважная каштоўнасьць інтарэсаў малой супольнасьці і абсэнтэістычнае стаўленьне да ўладаў. Да таго ж адсутнічалі згуртаваная эліта і агульнарэлевантны нацыянальны наратыў, а «грамадзянскае» было вылегчанае да тады яшчэ актуальнага савецкага эквіваленту падданства. То бок унутраных падстаў для паўнавартаснай праявы суб’ектнасьці грамадзтва (у тым ліку — палітычнай) адкрыта бракавала.

Праз усё гэта на першых прэзыдэнцкіх выбарах узьнікла і запрацавала своеасаблівая грамадзкая дамова з новай уладай, паводле якой апошняя атрымала амаль выключныя правы палітычнага

суб'екта, а грамадзтва задаволілася падтрыманьнем пэўных стандартаў дабрабыту і бясьпекі. Гэта ня самая тыповая вэрсія сацыял-кансэрватызму, але і не беспрэцэдэнтны выпадак для грамадзтваў мадэрнова-індустрыяльнага тыпу, што функцыянуюць у межах збольшага вэртыкальна-герархічнай лёгікі.

Між тым гістарычны працэс разгортваўся сваім парадкам, і лёгіка заходняй цывілізацыі паступова пераходзіла ў новы фармат — лічбавы, які павольна, але няўмольна зьмяняў усе вымярэньні грамадзтва (ад паўсядзённай камунікацыі і лягістыкі, праз адукацыйныя і працоўныя практыкі, да эканомікі, палітыкі і культуры). На сацыяльным узроўні гэтыя зьмены тычыліся галоўным чынам арганізацыі сумеснай дзейнасьці, якая рабілася ўсё больш мабільнай, ініцыятыўнай, сеткавай, дэцэнтралізаванай і гарызантальнай, што выходзіла за межы вэртыкальна-герархічных структураў і пакрысе іх дэканструявала.

Дзякуючы высокаму ўзроўню чалавечага капіталу і блізкасьці да Эўропы беларускае грамадзтва было таксама ўключанае ў працэсы дыгіталізацыі (і чым далей, тым шчыльней), што было значным складнікам яго эвалюцыі. Дадатковымі чыньнікамі пазначанай дынамікі сталіся працяг урбанізацыі краіны, далейшы рост узроўню адукацыі і паскарэньне працэсаў зьмены пакаленьняў з прычыны высокіх тэмпаў тэхналягічнага разьвіцьця.

Тут трэба адзначыць, што ў пэўным сэнсе грамадзтва эвалюцыянавала нібы само па сабе ці нават насуперак уладам, якія і самі характарызаваліся значнай ступеньню рыгіднай гермэтычнасьці, і ў сваёй палітыцы вялі курс на кансэрвацыю ста-

новішча ў краіне шляхам даволі жорсткага ўтрыманьня рэтрасавецкіх стандартаў ва ўсіх сфэрах быцьця.

Да пэўнага часу такая рознаскіраваная дынаміка ня вельмі замінала сваім адэптам — нават калі ў сярэдзіне 2000-х гадоў улады пачалі скарачаць выдаткі на «сацыялку», чым часткова адступаліся ад сваіх абавязкаў па першапачатковай сацыяльнай дамове. У адказ на гэта грамадзтва проста пачало ўкладацца ў лічбавыя магчымасьці, раскручваць прыватны сэктар і нарошчваць гарызантальныя сувязі, усё больш каштоўнасна адрываючыся ад XX стагодзьдзя. Насамрэч, складалася дзіўная сытуацыя — значная частка грамадзтва ўжо ўваходзіла ў лічбавую, інфармацыйную, постындустрыяльную фазу разьвіцьця, а ўлады заставаліся на прыступцы (у лепшым выпадку) «індустрыяльнага грамадзтва».

Цяжка казаць, колькі магло існаваць такое распаралельваньне краіны праз узаемнае адчужэньне ўладаў і грамадзтва, але ўсё вырашыў каранавірус. Менавіта яго першая хваля разбурыла былы парытэт, бо ня толькі выкрыла няздольнасьць уладаў адэкватна вырашыць праблему каранавірусу, але й актуалізавала лятэнтную датуль суб'ектывацыю грамадзтва — разуменьне сваёй адказнасьці за існую сытуацыю. Відавочна, інструмэнтальна-функцыянальным рыштункам гэтага працэсу сталі назапашаныя беларускім грамадзтвам гарызантальныя сувязі (прычым як унутры краіны, так і за яе межамі), якія шуганулі шэрагам спантанных ініцыятываў па падтрымцы мэдыкаў.

Тады, даўшы рады экзыстэнцыяльнаму выкліку з боку COVID-19, грамадзтва зрабіла некалькі важных рэчаў: па-першае, пераадолела межы сваіх лякальнасьцяў; па-другое, актуалізавала і ўзбагаціла ўласны «гарызантальны» патэнцыял; па-трэцяе, пачало адчуваць супольную моц, якой не хапала ўвасабленьня ў рэчаіснасьці.

Прызначэньне даты прэзыдэнцкіх выбараў стала выдатнай падставай для легітымнай спробы ўвасабленьня адчутай грамадзтвам суб'ектнасьці, асабліва пасьля ковіднай дэсакралізацыі ўладаў. Менавіта праз гэтыя адчуваньні паўсталі чэргі на подпісы за альтэрнатыўных кандыдатаў і першыя ланцугі салідарнасьці. І тады на вуліцах людзі пабачылі, што яны не паасобку; грамадзтва пачало асэнсоўваць, што яно сапраўды — супольнасьць і грамада.

Але ўлады пайшлі насуперак спадзеву і дзеяньням грамадзтва, і 9 жніўня здарылася тое, што здарылася — «Архіпэляг Акрэсьціна»…

Паралельныя дагэтуль рэчаіснасьці за лічаныя дні і ночы сталі артаганальнымі, а іх супрацьстаяньне — экзістэнцыйным. Улада рэдукавалася да прамога гвалту, а грамадзтва зайшлося ад разьдзеленага на ўсіх болю. Лякальнае, сваё, яно сягнула за межы краіны і выйшла ў сусьвет, ствварыўшы вялікае «Мы». Праз імгненнасьць і су-існаваньне ў Сеціве, праз агульнасьць пражываньня трагедыі, празь немагчымасьць трываць вусьціш — выбухнула, зашчыравала гарызантальная рэвалюцыя.

Так, з аднаго боку, праз гвалт і прававы дэфолт уладаў, што ствараюць дэпрывацыйную сытуацыю няпэўнасьці і анаміі, з другога — праз узаемадапа-

могу і салідарызацыю, маральную еднасьць і ўсьведамленьне супольнасьці ў Беларусі пачаў паўставаць новы тып сацыяльнасьці — гарызантальны. Яго адметная асаблівасьць — адмаўленьне герархіі і дэцэнтралізацыя спантаннага ўзаемадзеяньня актыўных і адказных суб'ектаў. Тых суб'ектаў, якія маюць агульныя мэты і выпрацоўваюць новыя мадэлі адчуваньняў, мысьленьня і дзейнасьці без удзелу пастаянных пасярэднікаў.

Сацыяльна-функцыянальныя праявы гэтага «паўставаньня гарызанталі» — грамадзкае асэнсаваньне сваіх моцы і тоеснасьці, ініцыятыўная самаарганізацыя і прадукаваньне эфэктыўных структураў супольнага дзеяньня, якія функцыянуюць побач з афіцыйнымі інстытутамі або замест іх.

Да гэтага трэба дадаць яшчэ адзін прынцыповы момант — нацыянальны. Тое вялікае «Мы», якое зьявілася ў трагедыі пражываньня няскончанай #Беларусі2020, яно не зьнянацку «зьявілася». Вядома, яно было і летась, і залетась, і раней. Але яно было малое, лякальнае, са сваім вэктарам існаваньня; не зусім атамізаванае, але ж ня выгартаванае, без балючага для кожнага стрыжня. Цяпер жа, калі былая лякальнасьць перафарматавалася, стрэліла пераасэнсаваньне, пераўсьведамленьне сваёй, адметна беларускай саматоеснасьці. Адрознай, асобнай, годнай. Той, якой можна і трэба ганарыцца. Стварыўся новы вобраз Беларусі і беларусаў — для сябе і для сусьвету. Зьявіўся новы міт пра беларусаў як нацыю.

# Андрэй Лаўрухін:
## «Стаўленьне да гвалту раскалола беларускае грамадзтва»



**Андрэй Лаўрухін,** палітоляг, старшы аналітык Беларускага інстытуту стратэгічных дасьледаваньняў (BISS)

## Паўстаньне за палітычныя правы ў Беларусі: 2020–...

Нягледзячы на ўжо звыклае менаваньне падзеяў у Беларусі рэвалюцыяй, на мой погляд, у 2020 годзе ў Беларусі адбылося паўстаньне за палітычныя правы. Гэтае вызначэньне ўяўляецца больш строгім і карэктным з трох прычынаў.

Па-першае, пратэсты мелі выразны электаральны характар і наўпрост былі зьвязаныя з патрабаваньнем права палітычнага выбару.

Па-другое, у палітычных навуках паўстаньне вызначаецца як такі від масавых выступаў супраць існай улады, які, як правіла, не прыводзіць да зьмены палітычнага ладу. Менавіта гэта і адбылося ў нашым выпадку — палітычны лад захаваўся ранейшы.

Па-трэцяе, паўстаньне разумеецца праз яго адрозьненьне ад дзьвюх іншых формаў палітычнага дзеяньня — рэформаў і рэвалюцыі. Калі рэвалюцыя ставіць сабе на мэце карэннае пераўтварэньне структуры ўлады ў грамадстве і робіць радыкальную зьмену палітычнай сыстэмы, то паўстаньне абмяжоўваецца зьменай палітычнага лідэра і/альбо ўраду. Мяркуючы па «праграмах» усіх кандыдатаў у прэзыдэнты, а таксама па лёзунгах і дэкларацыях пратэстоўцаў, галоўнае патрабаваньне палягала ў адстаўцы дзейнага прэзыдэнта Лукашэнкі — менавіта гэта натхняла і аб’ядноўвала ўсіх пратэстоўцаў.

Пры гэтым самы папулярны кандыдат Бабарыка рабіў стаўку на магчымасьць перамогі ў рамках той самай мадэлі выбараў, якая 26 гадоў абслугоўвала існую палітычную сыстэму. Мяркуючы па ўсім, і кандыдаты, і грамадзяне-нэафіты (у палітыцы) верылі ў тое, што калі можна будзе злавіць фальсыфікатараў за руку і зрабіць усе гэтыя фальсыфікацыі публічнымі, палітычная сыстэма вымушаная будзе са скрыпам, «празь не хачу», але спрацаваць на сапраўднага пераможцу. Адпаведна, палітычнае абурэньне грамадзян-нэафітаў было выклікана тым «адкрыцьцём», што вынікі выбараў нахабна і масава фальсыфікуюцца, а калі ўлады злоўленыя за руку, гэта іх не бянтэжыць, а толькі падштурхоўвае да ўжываньня сілы. Тым самым мы падышлі да вельмі важнай тэмы гвалту, якая і стала ключавым драйвэрам паўстаньня і затым — расколу ў грамадзтве.

### Гвалт расколвае грамадзтва

Менавіта гвалт ініцыяваў агульнарэспубліканскае паўстаньне, а стаўленьне да гвалту раскалола беларускае грамадзтва на два непрымірымыя палітычныя сьветы: пратэстоўцаў і прыхільнікаў Лукашэнкі. Прызнаньне таго факту, што мы маем справу з палітычнымі сьветамі апанэнтаў (а не ўсяго толькі зь невялікай групай сілавікоў), а таксама карэктнае разуменьне гэтых сьветаў — зарука магчымасьці палітычнага кансэнсусу. Ахарактарызуем гэтыя сьветы і сьветапоглядную подбіўку іх канфлікту.

Пратэстоўцы-грамадзяне (сьвядома ці несьвядома) мяркуюць, што дамоўны грамадзянскі мір магчымы і што ён грунтуецца на прынцыпах ма-

ралі і законах чалавечага супольнага жыцьця, тых, што стаяць на варце каштоўнасьці асобна ўзятага чалавечага жыцьця, якою нельга ахвяраваць нават у імя самых высокіх мэтаў і грамадзка-палітычных выгодаў. Дзяржава і апарат гвалту, якім яна валодае, вытворныя ад сьвету грамадзянскага, гэта толькі інструмэнт падтрыманьня грамадзка-палітычнага парадку. Такі сьвет, згодна з Арыстотэлем, Локам і Арэнт, грунтуецца ня столькі на страху перад сьмерцю і магчымым хаосам, колькі на перавазе больш шчасьлівага, паўнавартаснага і дабрадзейнага жыцьця.

Паводле Арыстотэля, чалавек у грамадзтве аддае перавагу таму, каб ня проста жыць, а жыць шчасьліва і дабрадзейна. У такой карціне сьвету кожны зьяўляецца «істотай палітычнай» (Арыстотэль), а ўвесь палітычны сьвет — гэта суперніцтва апанэнтаў у публічнай сфэры за сымпатыю і давер большасьці (Арэнт). Палітычны апанэнт і супернік — гэта партнэр, безь якога ня будзе самога суперніцтва, а значыць, і палітычнага сьвету як такога. Адпаведна, страта палітыкам даверу і сымпатыі з боку большасьці азначае паражэньне ў палітычнай барацьбе — гэта «чорная метка», якая дае сыгнал палітыку, што пара сыходзіць. Якраз таму многія пратэстоўцы так зьдзіўляліся і абураліся тым фактам, што, нягледзячы на кінутыя ў твар тырану словы недаверу, антыпатыі і нават нянавісьці, ён працягвае ўпарта трымацца за ўладу, гвалтуючы грамадзянаў і зьдзекуючыся зь іх пакутаў...

Аднак для Лукашэнкі і яго прыхільнікаў (сьвядома ці несьвядома) гвалт — гэта неабходная ўмова існаваньня палітычнага сьвету. Грамадзянская су-

польнасьць у яе «натуральным стане» ідэнтыфікуецца са станам хаосу, «вайны ўсіх супраць усіх» (Гобс). Адсюль і сакралізацыя дзяржавы — дзяржава аказваецца самакаштоўнай, бо толькі дзякуючы апарату легітымнага гвалту (Вэбэр) усталёўваецца той мір і парадак, які самі грамадзяне бяз гэтага дзяржаўнага гвалту ўсталяваць і падтрымаць ня ў стане.

«Істотамі палітычнымі» зьяўляюцца толькі некаторыя грамадзяне, надзеленыя выключнымі здольнасьцямі да палітычнага дзеяньня — палітыкі, лідэры, правадыры. Улада — гэта сіла, а сіла выяўляецца ў здольнасьці зламаць волю і прымусіць усіх астатніх (па вызначэньні няздольных да палітычнага жыцьця) да паслушэнства і пакоры. Менавіта таму ў аснове палітычнай супольнасьці, парадку і міру ляжаць адносіны панаваньня (з боку палітыкаў-лідэраў-правадыроў) і падпарадкаваньня (з боку ўсіх астатніх). Адпаведна, усе тыя, хто аспрэчвае такі тып адносінаў — паводле Плятона і Шміта ворагі палітычнага міру, якіх можна (а часам і трэба) катаваць, гвалціць і нават забіваць у імя ліквідацыі магчымай рызыкі ўзаемнага зьнішчэньня. У гэтай карціне палітычнага сьвету ўзяць уладу можна толькі гвалтоўным шляхам. Менавіта таму ўлада і яе прыхільнікі шчыра не разумеюць, чаму гэтыя людзі ўсё ходзяць і ходзяць, правакуюць і пагражаюць, дэкляруюць і заклікаюць, але так і не зрынаюць уладу сілай…

Варта адзначыць, што два вышэйапісаныя сьветы маркіруюць дзьве палярныя часткі грамадзтва, паміж якімі знаходзіцца даволі значная супольнасьць тых, хто вагаецца, «нэўтральных» і апалітычных грамадзянаў. Наколькі гэтая супольнасьць

насьць вялікая і якая дынаміка яе колькасьці за мінулы час (са жніўня 2020 па чэрвень 2021 году) — прадмет асобнага сацыялягічнага дасьледаваньня, але ня браць яе ў разьлік ніяк нельга, бо менавіта гэтая сацыяльна-палітычная страта апасродкуе два супрацьлеглыя адзін аднаму сьветы.

## Лепш дрэнны мір, чым добрая вайна

Нягледзячы на ўяўную непрымірымасьць двух сьветаў, палітычны кансэнсус і прымірэньне ня толькі магчымыя, але часткова ўжо і існуюць. Пытаньне хутчэй у тым, якую форму палітычнага кансэнсусу змогуць знайсьці беларусы (-кі) да лёсавызначальнага 2024 году?

Гэтае пытаньне адкрытае, але вельмі важнае, бо на коне здольнасьць беларусаў (-к) стаць палітычнай нацыяй. Цяпер сытуацыя выглядае тупіковай: улада ў тых, хто лічыць гвалт адзіна магчымым спосабам усталяваньня палітычнага парадку, а тыя, хто мог бы запусьціць цывілізаваны палітычны дыялёг для пошуку добраахвотнай (= устойлівай) формулы кансэнсусу, улады ня маюць і ўзяць яе сілай ня ў стане. У выніку дзейная ўлада накідае грамадзтву аб’юзіўны сацыяльна-палітычны кантракт у наступнай фармулёўцы: «Мы вас ня будзем забіваць, катаваць і гвалтаваць, калі вы будзеце пакорлівыя».

Адсутнасьць збройнага супраціву (у жніўні-верасьні), страйкаў (у кастрычніку) і іншых формаў актыўнага масавага супраціву (па стане на чэрвень 2021 году) — сьведчаньне наяўнасьці вымушанай згоды з умовамі такога «кантракту». Гэта можа быць зразумета як прамежкавая форма накінутага палітычнага кансэнсусу. Аднак, беручы пад увагу

яго брутальны гвалтоўны характар і адсутнасьць пазытыўнай матывацыі (няма будучыні, дзеля якой прыносяцца ахвяры), улічваючы фактар «памылак дыктатара», эскаляцыю санкцыяў, рост эканамічных праблемаў і зьніжэньне ўзроўню жыцьця, такі «мір» няўстойлівы, ненадзейны і недаўгавечны. Падвысіць яго ўстойлівасьць можна як шляхам большай падатлівасьці ўладаў (пад ціскам пратэстуючых грамадзянаў і санкцыяў), гэтак і шляхам узмацненьня жорсткасьці «правілаў гульні» (аж да ўстанаўленьня рэжыму «вайсковай дыктатуры»). Усё залежыць ад таго, 1) наколькі балючыя будуць санкцыі калектыўнага Захаду, 2) як іх сацыяльна-эканамічныя наступствы зьменяць настроі і структуру матывацыяў грамадзян, 3) як павядуць сябе ў адказ на гэта ўлады, і 4) як шмат выдаткаў і адказнасьці гатовая ўзяць на сябе Расея за дзеяньні ўладаў Беларусі на чале з Лукашэнкам.

Зразумела, што цяпер ідзе працэс павольнага, цяжкага ўзгадненьня ўсіх чатырох вышэйазначаных фактараў (актараў) да моманту іх больш-менш устойлівай раўнавагі. Зразумела, што паўстаньне стала добрым трэнажорам палітычных і грамадзянскіх кампэтэнцыяў. Зразумела і тое, што грамадзтва эвалюцыянуе, сталее палітычна. Аднак хуткасьць усіх гэтых працэсаў значна ніжэйшая за хуткасьць разьвіцьця падзеяў вакол РБ. На гэтым асынхроне адбіваецца геапалітычная «сьляпая пляма» паўстаньня 2020 году. Яно з самага пачатку зацыклілася выключна на ўнутраным беларускім парадку дня, па-першае, рамантычна мяркуючы, быццам грамадзяне самастойна здольныя вырашыць унутрыпалітычны крызіс, і, па-другое, наіў-

на мяркуючы, быццам сьвет вакол Беларусі будзе ствараць самыя спрыяльныя ўмовы для перамогі паўстанцаў.

Гэтыя чаканьні збольшага апраўдаліся адносна калектыўнага Захаду. Аднак яны зусім не апраўдаліся ў дачыненьні да РФ, якой сымпатызавалі і на дапамогу якой спадзяваліся многія пратэстоўцы. Нягледзячы на выцьвераджальны вопыт рэакцыі Пуціна і ўладаў РФ, якія ўжо ў верасьні 2020 году адкрыта сталі на бок Лукашэнкі, ні замежныя прадстаўнікі паўстаньня, ні тым больш самі паўстанцы так і не змаглі пераадолець кагнітыўны дысананс і выпрацаваць альтэрнатыўную (прапанаванай Лукашэнкам) і больш прывабную для Крамля мадэль узаемаадносінаў. Між тым час лімітаваны выбарамі расейскага прэзыдэнта ў 2024 годзе. «Вяртаньне Беларусі ў родную гавань» (перш за ўсё эканамічна і геапалітычна) — гэта напрошваецца, і гэта вельмі эфэктны спосаб падняць электаральны рэйтынг Пуціна.

Калі да 2023 году беларусы (-кі) ня знойдуць больш надзейнага ўнутрыпалітычнага кампрамісу і добраахвотнай (= больш устойлівай) формулы палітычнага кансэнсусу, якая дазволіць, як мінімум, «рэанімаваць» заходні кірунак разьвіцьця Беларусі, эканамічная і геапалітычная залежнасьць ад РФ набудзе завершаныя і, магчыма, незваротныя формы. Тады на парадку дня беларусаў (-ак) будзе ўжо не пытаньне аб дэмакратызацыі Беларусі, а значна больш складанае пытаньне аб дэмакратызацыі «саюзнай дзяржавы».

# Вадзім Мажэйка:
## «Імёнамі ахвяраў-2020 некалі назавуць вуліцы і плошчы»



**Вадзім Мажэйка** — аналітык Беларускага інстытуту стратэгічных дасьледаваньняў (BISS), палітычны кансультант, кандыдат (PhD) культуралёгіі

## Людзьмі звацца — 2020. Раскол паміж грамадзтвам і дзяржаўнай сыстэмай

2020 год стаў яскравай праявай супярэчнасьцяў, якія набраліся паміж беларускім грамадзтвам і арганізацыйна-прававой сыстэмай дзяржавы. Калі глядзець стратэгічна, то ў гэтым няма нічога дзіўнага.

Беларуская дзяржава як інстытут — з прынятай у ёй культурай і практыкай кіраваньня, з прынцыпамі функцыянаваньня прадстаўнічай улады і мэханізмамі адвакатаваньня — з кожным годам была ўсё болей няздольная адпавядаць запытам грамадзтва. Гэты стан быў непазьбежны, бо сыстэма ўлады часоў Лукашэнкі заўсёды арыентавалася на тое, каб па магчымасьці пазьбягаць зьменаў. Зрэшты, з наратывам вяртаньня ў мінулае Лукашэнка і прыйшоў да ўлады.

Аднак спыніць час — задача апрыёры невыканальная. Пакуль дзяржава імкнулася захаваць і адрадзіць мінулае (ад эканамічнай палітыкі да сымбаляў), грамадзтва і бізнэс-сэктар непазьбежна імкнуліся наперад.

Напрыклад, нэасавецкая ўладная мадэль імкнулася забясьпечыць кантраляванасьць эканамічнага жыцьця, кааптуючы ў эліты ня толькі «чырвоных дырэктараў» з прамысловых гігантаў, але і прадстаўнікоў буйнога бізнэсу. Аднак гэты падыход не спрацоўваў у дачыненьні да індывідуальных прадпрымальнікаў, малога і сярэдняга бізнэсу, доля яко-

га ўзрастала. Тым болей па-за сыстэмай заставаліся працаўнікі IT-сфэры, стартапаў, шэрынгавай эканомікі. Падобныя працэсы назіраліся і ў іншых сэктарах, ад арт-індустрыі да дабрачыннасьці. У 2020 годзе выразьнікам інтарэсаў усіх гэтых групаў стаў Віктар Бабарыка. І хоць ягоная асоба грала важную ролю, аднак запыт грамадзтва быў тут першасны: на аналягічны электарат былі скіраваныя кампаніі і Валера Цапкалы, і Сяргея Чэрачня.

Роля дзяржавы гіпатэтычна магла б узрастаць у сацыяльнай палітыцы, клопаце пра ўразьлівыя групы (ад пэнсіянэраў да жыхароў зьбяднелых рэгіёнаў), якія схільныя разьлічваць на дзяржаву як на абаронцу і арбітра. Аднак на практыцы сацыяльны кантракт у Беларусі, наадварот, скарачаўся — з прычыны неэфэктыўнасьці эканамічнай палітыкі і сыстэмы дзяржкіраваньня. Наступствам гэтых працэсаў стала тое, што ў 2020 годзе выразьнікам інтарэсаў гэтай часткі грамадзтва — уразьлівай ды патэрналісцкай — замест Лукашэнкі стаў Сяргей Ціханоўскі. Зноў-такі, акрамя Ціханоўскага, былі і іншыя рэгіянальныя блогеры, уздымаў падобныя тэмы і Андрэй Дзьмітрыеў.

Такім чынам, асноўны раскол у 2020 годзе адбыўся паміж беларускім грамадзтвам і дзяржаўнай сыстэмай Лукашэнкі. Грамадзтва дасьпела да пераменаў, якія можна ахарактарызаваць як імкненьне да справядлівасьці і павагі з боку дзяржавы, сапраўднага прадстаўніцтва ва ўладзе, магчымасьці ўплываць на прыняцьцё важных рашэньняў. Каротка апісаць, чаго захацелася цяпер беларусам, можна словамі Янкі Купалы векавой даўнасьці:

«Людзьмі звацца». І пытаньне было толькі ў тым, калі зьявяцца неабходныя ўмовы і трыгеры.

Прэзыдэнцкая выбарчая кампанія і сама па сабе была такім трыгерам, аднак у 2020 годзе ёй папярэднічала некалькі іншых. Самым блізкім па часе стаў каранавірус, які прадэманстраваў нежаданьне і/альбо няздатнасьць дзяржавы дапамагаць людзям у крызісныя часы — і разам з тым здольнасьць грамадзтва вырашаць праблемы самастойна, праз гарызантальную камунікацыю валянтэрскіх ініцыятываў. Дый увогуле каранакрызіс пагрузіў грамадзтва ў пэўны міжчасавы стан, дзе ўсё ня як раней. Аднак важным чыньнікам зьяўляецца і больш працяглы пэрыяд пацяпленьня 2014–2020 гг.

У кантэксьце анэксіі Крыму і збройнага канфлікту на Данбасе беларуская дзяржава была зацікаўленая ў пэўным паляпшэньні адносінаў з Захадам, а галоўнае — займела для гэтага магчымасьць без унутрыпалітычнай трансфармацыі. Грамадзтва ж не было гатовае рызыкаваць незалежнасьцю дзеля імклівых палітычных зьменаў, і ў выніку прэзыдэнцкая кампанія — 2015 не суправаджалася масавымі пратэстамі. Адпаведна, замест масавых рэпрэсіяў грамадзка-палітычныя ініцыятывы атрымалі пэрыяд адноснай лібэралізацыі, а ў культурнай сфэры — мяккай беларусізацыі. Гэты пэрыяд дазволіў будаваць структуры, весьці асьветніцкую працу, ладзіць буйныя кампаніі — як #БНР100.

Менавіта дзякуючы гэтаму нацыянальна-культурныя пытаньні (як мова альбо сьцяг) у 2020 годзе не былі актуальнымі падчас агітацыйнай кампаніі, аднак актуалізаваліся падчас пратэстаў. Пакуль людзі адчувалі сабе ў кантэксьце мяккай бела-

русізацыі, гэта задавальняла запыт значнай часткі грамадзтва. Але калі твар дзяржавы зьмяніўся, то грамадзтва выдатна адчула, пад якімі сьцягамі пратэставаць і на якой мове сьпяваць песьні рэвалюцыі («Правілы», «Мы не народзец», «Гэта мы», «Муры»). Як сьведчыць «Індэкс ідэнтычнасьці» BISS, вулічныя акцыі пасьлявыбарчага пэрыяду суправаджаліся папулярызацыяй рэлевантных для ідэнтычнасьці сымбаляў і ўзмацненьнем пачуцьця нацыянальнай супольнасьці.

Разам з тым геапалітычная тэматыка так і ня стала значным фактарам у беларускіх пратэстах. Падтрымка Пуціным Лукашэнкі зьнізіла грамадзкія сымпатыі да Расеі, а вэктар вымушанай эміграцыі і зьнешнепалітычнай актыўнасьці Сьвятланы Ціханоўскай прымусіў беларусаў зьвяртаць болей увагі на Захад (у тым ліку чакаць ад Эўропы падтрымкі, у прыватнасьці санкцыяў супраць рэжыму). Аднак унутрыпалітычныя пытаньні — ад спыненьня гвалту да стану эканомікі — хвалююць беларусаў у разы болей.

2020 стаў для Беларусі годам гістарычных зьменаў, а разам з тым і цяжкіх выпрабаваньняў (як гэта звычайна і бывае ў гісторыі). Немагчыма не шкадаваць тых, хто загінуў, мірных пратэстоўцаў і палітвязьняў, тысячы людзей са зламанымі целамі і зламанымі лёсамі. Імёнамі Рамана Бандарэнкі, Аляксандра Тарайкоўскага і іншых ахвяраў-2020 некалі назавуць вуліцы і плошчы, а досьвед катаваньняў на Акрэсьціна застанецца траўмай пакаленьня.

Аднак агулам 2020 год выклікае пачуцьцё не шкадаваньня, а гонару за прыналежнасьць да бела-

рускай нацыі. Гэта досьвед, які немагчыма сьцерці з памяці, як бы да гэтага ні імкнуліся ўлады. Сталасьць як кожнага асобнага чалавека, гэтак і ўсяго грамадзтва вымяраецца, сярод іншага, тым, каб паводзіць сабе годна і рабіць тое, што лічыш патрэбным, нават калі ведаеш, што гэта цяжкі шлях. І ў 2020 годзе беларускае грамадзтва прадэманстравала, што пасталела.

# Алег Манаеў:
## «Беларускае грамадзтва сёньня яшчэ больш, чым раней, расколатае па каштоўнаснай прыкмеце»



**Алег Манаеў,** доктар сацыялягічных навук, заснавальнік НІСЭПД, навуковы супрацоўнік Унівэрсытэту Тэнэсі, ЗША

## Цярністы шлях да новай будучыні

2020 год, несумненна, увойдзе ў гісторыю Беларусі як год «абуджэньня» грамадзтва, «візытоўкай» якога сталі кадры масавых пратэстаў на вуліцах Менску і іншых гарадоў, а таксама трох выдатных жанчын са знакамі Любові, Салідарнасьці і Перамогі.

Аднак гэты працэс спарадзіў больш пытаньняў, чым адказаў. Галоўнае пытаньне, на мой погляд, якое засланяе ўсе астатнія, можна сфармуляваць так: ці гатовае беларускае грамадзтва да новай, лепшай будучыні?

Дзяржава ў асобе дзеючай улады дала на яго просты адказ, па сутнасьці, прапанаваўшы будучыню як працяг мінулага ў яшчэ больш жорсткай упакоўцы. Прычым дала адказ ня толькі на пытаньне аб пажаданай будучыні, але і на пытаньне, на што яна гатовая для яе ажыцьцяўленьня. Адказ яшчэ больш просты: гатовая на ўсё, уключаючы і «гарачую» грамадзянскую вайну.

Але адказ грамадзтва для мяне не відавочны.

Па-першае, таму, што беларускае грамадзтва сёньня яшчэ больш, чым раней, расколатае па каштоўнаснай прыкмеце, і часткі грамадзтва, якія супрацьстаяць адна адной, маюць рознае бачаньне будучыні.

Па-другое, калі ад той часткі грамадзтва, якую ў цэлым задавальняе будучыня, прапанаваная дзяр-

жавай, не патрабуецца актыўных дзеяньняў, дастаткова маўклівай згоды, то ад тых, хто прагне новай, лепшай будучыні (у ЗША такіх людзей называюць Dreamers — летуценьнікі), патрабуюцца ня проста актыўныя дзеяньні, але барацьба, спалучаная з рэальнай рызыкай страты вучобы/працы, бізнэсу, свабоды, а то і жыцьця.

Таму пытаньне пра гатоўнасьць беларускага грамадзтва да новай будучыні сёньня можна сфармуляваць інакш: ці гатовае яно да ахвяраў? Ці гатовае да барацьбы ня толькі з «красаўцамі» ў чорнай уніформе, але і з суседзямі, калегамі, сябрамі і нават сваякамі?

Ня менш важная і гатовасьць духоўная — усьвядомленыя сэнсы і каштоўнасьці, прапанаваныя як альтэрнатыва сэнсам і каштоўнасьцям дзяржаўнай улады. Якой бачыцца «летуценьнікам» новая палітычная сыстэма? Рынкавая эканоміка? Геапалітычны выбар? Нацыянальная культура, уключаючы моўную палітыку? «Новая апазыцыя» пакуль не прапанавала сваім прыхільнікам яснай, добра аргумэнтаванай і шырока абмеркаванай праграмы будаўніцтва новай будучыні Беларусі. Імкнучыся заручыцца падтрымкай максымальнай колькасьці прыхільнікаў, яна сьвядома гэтага пазьбягала. Калі на гэта мне зноў скажуць, што я «адарваўся ад краіны» і «страціў разуменьне таго, што адбываецца», то спашлюся на дадзеныя студзеньскага апытаньня Рыгора Астапені, праведзенага пад эгідай брытанскага Chatham House: «Палова рэспандэнтаў цалкам/хутчэй згодныя з тым, што ў лідэраў пратэсту няма выразнага пляну,

што яны будуць рабіць пасьля прыходу да ўлады, менш за 30% з гэтым цалкам / хутчэй ня згодныя»[1].

Празь некалькі дзён пасьля жнівеньскіх выбараў Валянцін Акудовіч на пытаньне «Што адбываецца ў Беларусі — паўстаньне нацыі ці паглыбленьне яе расколу?» даў канцэптуальны адказ: «Беларусь онталягічна даўно адна. І асобныя выпадкі значэньня ня маюць»[2]. Калі зыходзіць з таго, што «онталёгія — гэта нашыя ўяўленьні пра ўнутраную структуру аб'екта, які вывучаецца», гэты тэзіс азначае, што «ўнутраная», у дадзеным выпадку каштоўнасная, структура беларускага грамадзтва адносна аднародная і ня ўтрымлівае ў сабе прынцыповых супярэчнасьцяў. З гэтага пункту гледжаньня тэзісы пра «раскол беларускага грамадзтва», пра тое, што «ў адной краіне дзьве розныя Беларусі», якія ўсё часьцей выказваюцца ў публічнай прасторы, ня маюць пад сабой падставы. Віталь Цыганкоў выказаў гэта яшчэ прасьцей: «У беларускім грамадзтве няма ніякага „расколу“ ў стаўленьні да Лукашэнкі. Манаеў ніякіх сьвежых сацыялягічных дадзеных у доказ свайго тэзісу не прыводзіць (спасылаючыся выключна ў цэлым на ранейшыя шматгадовыя дасьледаваньні НІСЭПД) — відаць, гэта выходзіць „па адчуваньнях“»[3].

1 https://www.svaboda.org/a/31095575.html

2 https://qwerty.gdn/2020/08/13/%D0%B0%D0%BA%D1%83%D0%B4%D0%BE%D0%B2%D0%B8%D1%87-%D0%BE-%D0%BD%D0%B0%D1%86%D0%B8%D0%BE%D0%BD%D0%B0%D0%BB%D1%8C%D0%BD%D0%BE%D0%BC-%D0%B7%D0%BD%D0%B0%D1%87%D0%B5%D0%BD%D0%B8%D0%B8-%D0%B1%D0%B5%D0%BB/

3 https://www.svaboda.org/a/30876685.html

Аднак дадзеныя дасьледаваньняў, нядаўна праведзеных беларускімі[4], расейскімі[5] і нямецкімі[6] сацыёлягамі, пераканаўча паказваюць, што зьмяншэньне «лукашэнкаўскай Беларусі» ў 2020 годзе зусім не азначае яе зьнікненьня. Паколькі каштоўнасьці, уяўленьні людзей пра жыцьцё шмат у чым перадвызначаюць іх палітычны выбар, гэтую частку грамадзтва нельга ня браць у разьлік ні на шляху да перамогі, ні пры будаўніцтве новай будучыні.

Нагадаю, што ў 1994 годзе ўся прагрэсіўная грамадзкасьць (яна, здавалася, дамінавала, бо пераменаў хацела большасьць) чакала перамогі дэмакратычнага кандыдата, галоўнай перашкодай лічыўся лідэр кіруючай намэнклятуры Кебіч. Але ў першым туры ён набраў усяго 17,3%, Пазьняк — 12,8%, Шушкевіч — 9,9%, а Лукашэнка атрымаў 44,8% і ў другім туры перамог з 80% ад тых, хто прагаласаваў.

Нельга не адзначыць, што тыпалёгія электарату як анты-, так і пралукашэнкаўскага, дакладней кажучы, той сыстэмы каштоўнасьцяў, якую ён вызнае і выказвае, выкарыстаная ў дасьледаваньні Астапені — «ядро пратэсту» (37%), «бастыён Лукашэнкі» (18%) і зьмешчаныя паміж імі «тыя, хто спачувае пратэсту», «скептыкі» і «абыякавыя» (45%), — мэтадалягічна цалкам супастаўная з тыпалёгіяй, у свой час распрацаванай НІСЭПД, таксама заснаванай на агрэгаваньні некалькіх індыкатараў. Тады, на

4 https://www.svaboda.org/a/31095575.html
5 https://www.svaboda.org/a/31259766.html
6 https://en.zois-berlin.de/publications/belarus-at-a-crossroads-attitudes-on-social-and-political-change; https://www.dw.com/ru/portret-protestujushhih-chto-nemeckie-sociologi-uznali-o-belorusah/a-57065186

працягу дзесяцігадовага маніторынгу, група «перакананых прыхільнікаў Лукашэнкі» ў сярэднім складала 21,5%, «перакананых праціўнікаў» — 31,1%, а «тых, хто вагаецца», — 47,4% рэспандэнтаў (хоць, у залежнасьці ад палітычнай сытуацыі, гэтыя суадносіны маглі мяняцца)[7].

Падобна да таго, што ўражальны палітычны зрух, які назіраўся ў 2020 годзе, адбыўся ня толькі за кошт павелічэньня групы «перакананых праціўнікаў», але і за кошт «тых, хто вагаецца», якія папоўніліся былымі прыхільнікамі Лукашэнкі.

Варта таксама ўлічваць, што нядаўнія апытаньні, як правіла, праводзіліся онлайн і часьцяком не ахаплівалі жыхароў вёсак і малых гарадоў. А каштоўнасьці гэтых людзей, іх палітычны выбар, як правіла, больш кансэрватыўныя.

Дзіўна, што раскол беларускага грамадзтва першым адкрыта прызнаў сам Лукашэнка. У сваёй навагодняй прамове пасьля драматычных выбараў 2010 году ён падкрэсьліў: «Свае віншаваньні я таксама адрасую і нашай меншасьці, якую ўспрымаю як неад'емную частку нашага грамадзтва»[8], вызначыўшы яе ў 20%[9]. Як паказалі падзеі 2020 году, пакуль апазыцыйныя палітыкі і экспэрты гадамі аспрэчвалі і нават адпрэчвалі саму ідэю расколу, Лукашэнка мэтанакіравана рыхтаваўся да пашырэньня і ўмацаваньня нязгоднай зь ім меншасьці.

---

7 http://www.iiseps.org/wp-content/uploads/2015/09/PresidentElection.pdf, с. 74

8 https://www.belta.by/president/view/novogodnee-obraschenie-prezidenta-belarusi-k-belorusskomu-narodu-122591-2011

9 https://www.youtube.com/watch?v=cjoImSHspJ8

Цяпер ня толькі Беларусь, але і ўвесь сьвет ведае, як ён падрыхтаваўся.

У сувязі з гэтым узьнікае яшчэ адно фундамэнтальнае пытаньне: наколькі «абуджаная» частка грамадзтва прыхільная дэмакратычным каштоўнасьцям і гатовая да выпрабаваньняў, перш за ўсё сацыяльна-эканамічных, зь якімі непазьбежна сутыкнецца пасьля перамогі над цяперашнім рэжымам, як гэта адбылося зь мільёнамі людзей пасьля краху камунізму? Ці ня зьвернецца яна неўзабаве да пошуку новай «моцнай рукі», якая «верне парадак і стабільнасьць»? І ці не давядзецца Сьвятлане Алексіевіч празь дзесяць гадоў пісаць другі том «Часу second-hand» ужо «на беларускім матэрыяле»? Па дадзеных апытаньня Астапені (Chatham House 2021, а не НІСЭПД 2006 году!), 40% рэспандэнтаў цалкам/хутчэй згодныя з тым, што «Беларусь — гэта сацыяльна-арыентаваная дзяржава», 43,4% — што «зьмена ўлады выгадная толькі тым, хто прыйдзе да ўлады, простыя людзі, хутчэй за ўсё, пацярпяць».

Пытаньне пра гатоўнасьць беларускіх «летуценьнікаў» да сілавога супрацьстаяньня зь дзяржавай, якая ўжывае гвалт да мірных грамадзянаў, таксама застаецца адкрытым. Аж да канца 2020 году сярод пратэстоўцаў і групаў грамадзтва, якія іх падтрымлівалі, дамінавала ідэя «беларускага гандызму». Шматлікія рэпартажы незалежных СМІ стракацелі загалоўкамі тыпу «Пратэстоўцы-беларусы прыбіраюць за сабой сьмецьце і здымаюць абутак, перш чым стаць на лаўку»[10].

10 https://www.youtube.com/watch?v=smH07hBnpFI

Асобныя інцыдэнты сілавога супраціву пратэстоўцаў не прыцягвалі вялікай увагі і падтрымкі.

Ні «справа тэрарыстычнай групы» Мікалая Аўтуховіча[11], ні шчырыя прызнаньні былога сілавіка[12] прынцыпова не зьмянілі пазыцыі лідэраў пратэсту, якія працягваюць выступаць за «мірнае рашэньне» і прадказваць «хуткі сыход Лукашэнкі са сваёй пасады»[13]. У той жа час, паводле дадзеных красавіцкага апытаньня Астапені, 63% рэспандэнтаў лічаць, што Лукашэнка перастане быць прэзыдэнтам Беларусі ад 2023/2024 да 2035 году або пазьней[14].

Для разуменьня падзей 2020 году і іх наступстваў для новай будучыні надзвычай важным зьяўляецца таксама пытаньне геапалітычнага выбару Беларусі. Выбар, зроблены дзяржаўнай уладай, відавочны. Выбар «старой апазыцыі» таксама добра вядомы. Але выбар «новай апазыцыі» пакуль невідавочны. На мой погляд, у гэтым пытаньні важней факусавацца не на тым, «ці адпусьціць Расея Беларусь у Эўропу», а на тым, што, як паказваюць дадзеныя нядаўніх апытаньняў, нягледзячы на зьніжэньне прарасейскай арыентацыі, яна глыбока ўкаранёная ў беларускім грамадстве.

Таму праблему я бачу ня толькі ў цяперашніх супярэчнасьцях паміж уладай і апазыцыяй, а таксама ўнутры самой апазыцыі, але і ў тым, як яе будзе вырашаць дэмакратычная ўлада пасьля перамогі над

11 https://mediazona.by/article/2021/04/12/avtukhovich
12 https://charter97.org/ru/news/2020/12/22/404935/
13 https://www.gazeta.ru/politics/2021/02/28_a_13495628.shtml
14 https://www.chathamhouse.org/sites/default/files/2021-06/2021-06-14-belarusians-views-political-crisis-russian.pdf

цяперашнім рэжымам. Верагодна, без палітычнага кампрамісу, перш за ўсё ў самой Беларусі, і тут не абысьціся.

Але да перамогі яшчэ трэба дайсьці, а гэта, на думку многіх, немагчыма без кансалідацыі ўсіх пратэставых і нязгодных зь цяперашнім рэжымам сілаў. Няздольнасьць большасьці лідэраў «старой» і «новай» апазыцыі да рэальнага, а не дэкляратыўнага аб'яднаньня ўвайшла ўжо ў легенды. Напрыклад, адзін з ідэйных лідэраў «старой апазыцыі» Зянон Пазьняк разглядае Бабарыку і Ціханоўскую як «надзіманыя фігуры» і заяўляе, што «Беларусь у іх толькі на вуснах і мае на ўвазе „краіну для жыцьця“ ў складзе Расеі, але не свабодную беларускую нацыю. Для іх беларуская мова не зьяўляецца дэмакратыяй, а гісторыя барацьбы за беларускую незалежнасьць — чужая і ненавісная»[15]. Пра пэрспэктывы кансалідацыі лідэраў «новай» апазыцыі гаворыць ужо сам факт іх знаходжаньня ў розных краінах, а таксама відавочна ня ўзгодненыя, часам рознанакіраваныя палітычныя ініцыятывы.

Яшчэ больш важная праблема — гатоўнасьць да кансалідацыі ў самім беларускім грамадзтве. Прычым ня проста да дыялёгу з апанэнтамі, а да рэальных кампрамісаў зь імі, кампрамісаў, многія зь якіх напэўна акажуцца непрыемнымі і «доўгайграючымі».

«Характэрная рыса беларускага грамадзтва, — адзначаецца ў дакладзе ZOiS, — нізкі ўзровень сацыяльнага даверу. Істотнага росту кансалідацыі ў

15 https://euroradio.fm/ru/zenon-poznyak-snova-raskritikoval-babariko-i-tihanovskuyu

выніку падзеяў мінулага году не назіраецца: толькі 10% беларусаў пачалі больш давяраць іншым за апошняе паўгодзьдзе, а каля 30% адзначылі зьніжэньне ўзроўню даверу да іншых людзей». А павышэньне сацыяльнага даверу без палітычных кампрамісаў наўрад ці магчымае.

Зразумела, гаворка ідзе не пра «дыялёг» і «прымірэньне» ва ўмовах пастаяннага росту гвалту дзяржаўнай улады над нязгоднымі, а пра будаўніцтва новай будучыні, да якога рана ці позна давядзецца прыступіць. Ігнараваньне ўрокаў мінулага, у тым ліку і 2020 году, адсутнасьць ясных, аргумэнтаваных адказаў на пастаўленыя пытаньні можа прывесьці да таго, што новая будучыня прынясе больш расчараваньняў, чым радасьці. Будаўніцтва гэтай будучыні трэба не адкладаць «да перамогі над рэжымам», а пачынаць проста цяпер, распрацоўваючы стратэгію і тактыку палітычных дзеяньняў у рэальнай, а не прыдуманай краіне.

Думаю, усім нам трэба будзе прайсьці цярністы шлях да новай будучыні Беларусі.

# Уладзімер Мацкевіч:
## «Рэжым ня можа пераканаць грамадзтва, грамадзтва ня здольнае перамагчы рэжым»



**Уладзімер Мацкевіч,** мэтадоляг, філёзаф, грамадзкі дзеяч

**Што адбылося зь беларускім грамадзтвам у 2020 годзе: сасьпяваньне, дасьпяваньне ці разрадка напружанасьці? Ці можа вярнуцца вецер на кругі свае?**

Узгаданыя катэгорыі — тэндэнцыйнае спрашчэньне. Нібыта існуе нейкі нармаваны стан сасьпеласьці грамадзтва. Можа, «разрадка напружанасьці» пасуе найбольш, бо напружанасьць сапраўды назапашвалася некалькі гадоў запар. Зьяваў і падзеяў, якія сьведчаць пра нарастаньне напружанасьці, можна налічыць шмат. Пачатак гэтага працэсу назваць складана, хіба што пратэсты «дармаедаў» умоўна можна ўзяць за пачатак адліку.

Зьмены ў структуры грамадзтва немагчыма было не заўважыць, але заўважыць мала, іх трэба асэнсаваць.

У 2017 годзе я паспрабаваў асэнсаваць ужо заўважаныя рысы ў канцэпце «трох сьветаў»[1], прадстаўнікі якіх адрозьніваюцца сваім месцам адносна спажываньня інавацыяў. Паводле гэтага канцэпту, зьмены ў краіне і грамадзтве распачнуцца ў выніку руху насустрач першага і другога сьветаў. І ў 2020 годзе мы бачылі гэта. Спачатку адбылася сустрэча супольнасьцяў «першага і трэцяга сьвету» («першы сьвет» можна маркаваць знакавымі

1 https://fly-uni.org/stati/globalnoe-poteplenie-posle-holodnoj-vojny/

асобамі В.Бабарыкі і В.Цапкалы, а «трэці сьвет» — Сяргеем Ціханоўскім). А напрыканцы передвыбарчай кампаніі яны рушылі насустрач «другому» сьвету (нацыянальна-арыентаванаму), які напоўніў пратэст сэміятычным (БЧБ, Пагоня), але пакуль ня сэнсавым і каштоўнасным зьместам.

Структурныя зьмены ў грамадзтве паводле канцэпту «трох сьветаў» дасьледаваліся і фіксаваліся сацыялягічнымі сродкамі (А.Шэлест[2], Т.Вадалаская[3]), але ёсьць яшчэ адзін чыньнік. Гэта той стан узбуджэньня, у які трапіла грамадзтва на кароткі час у чэрвені-жніўні 2020 году і які цягнуўся да лістапада-сьнежня. Гэта часовы стан, ён праходзіў розныя стадыі і павінен быў скончыцца (дасьледаваньне А.Шэлест[4]). Структурныя зьмены ў грамадзтве і часовы стан эмацыйнай узбуджанасьці ня варта блытаць.

Скасаваньне эмоцыяў і напружанасьці адбываецца або праз выпусканьне пары, як было раней, або амаль татальным гвалтам, як у 2021 годзе. Але прычыны напружанасьці ад гэтага не зьнікаюць.

**Як у падзеях 2020 году праявілася беларускае нацыянальнае?**

Шмат дасьледчыкаў і навукоўцаў даўно праводзяць думку, што беларуская нацыя ўжо сфармавалася (найлепш пра гэта пісалі А.Казакевіч і В.Акудовіч, часткова і У.Фурс). Гэта нацыя XXI

2 https://cet.eurobelarus.info/files/userfiles/5/CET/2017_Innovation-Belarus-RU.pdf

3 http://fly-uni.org/wp-content/uploads/2021/05/2021_Innovation-Belarusan_society.pdf

4 https://fly-uni.org/prastora/golos-ulicy-sociologicheskie-nabljudenija/

стагодзьдзя, шмат у чым непадобная да таго, што ўяўлялі сабе нацыянальныя дзеячы Адраджэньняў пачатку і канца XX стагодзьдзя.

Каштоўнасьці адраджэнцаў мінулага засвоеныя прадстаўнікамі «другога» сьвету, а «першы» і «трэці» сьвет толькі мімаходзь закранутыя гэтай каштоўнаснай сыстэмай.

Віктар Бабарыка яшчэ да свайго вылучэньня кандыдатам у прэзыдэнты зрабіў некалькі істотных заўвагаў пра тое грамадзтва, да якога ён зьвяртаўся і якое адгукнулася на яго вылучэньне. Паводле ягоных уяўленьняў, нацыя яшчэ ня здолела ці не пасьпела сама сябе асэнсаваць, уявіць і ідэнтыфікавацца. Усе лічаць сябе беларусамі, але ня маюць агульнага пазытыўнага ўяўленьня пра тое, што такое беларус. Ёсьць нэгатыўнае ўяўленьне: «Мы не расейцы, але мы і не такія, пра якіх гаворыць (умоўны) Пазьняк. Мы іншыя».

Як высьветлілася ў падзеях 2020 году, такое ўяўленьне пра сябе Бабарыкі адпавядае поглядам шырокіх колаў беларускай грамадзкасьці, у тым ліку і прадстаўнікоў «трэцяга» сьвету, якія арыенталіся на Сяргея Ціханоўскага.

Павярхоўнае «аднадумства» электаратаў Бабарыкі і Ціханоўскага напачатку адштурхоўвала ад іх нацыянальна-сьвядомую супольнасьць і частку так званай старой апазыцыі. Але, адчуўшы пэўную эмацыйную еднасьць і салідарнасьць, грамадзяне мелі патрэбу неяк аформіць гэтую еднасьць у сьвядомасьці.

І тут вельмі дарэчнымі сталі назапашаныя вобразы, сымбалі, каштоўнасьці нацыянальна-сьвядомай, у старым сэнсе, часткі нацыі. Шырокае гра-

мадзтва запазычыла пакуль толькі знакі і сымбалі, але ня іх сэнс і зьмест.

**Чаму беларускі пратэст 2020 году ня меў геапалітычнага вымярэньня?**

Чаму ня меў? Меў, але менш выразнае, бо пратэстоўцы не лічылі яго актуальным у параўнаньні з галоўнай праблемай.

У 2019 годзе кампанія «Сьвежы вецер» была накіраваная на тры праблемы: пагроза аншлюсу, зьмены ў Канстытуцыю, прэзыдэнцкія «выбары». На першым месцы была пагроза аншлюсу, на апошнім — Канстытуцыя. У 2020 годзе прыярытэты памяняліся. На першае месца выйшлі «выбары». І вага гэтай праблемы такая вялікая, што астатнія адыходзяць на задні плян.

За пэрыяд разгортваньня кампаніі «Сьвежы вецер» зь верасьня па сьнежань 2019 году арыентацыя на Расею зьменшылася больш як на 14%. Гэта зафіксавалі апытаньні Андрэя Вардамацкага, зробленыя ў жніўні і сьнежні 2019 году. А за лета-восень 2020 году гэты трэнд яшчэ ўзмацніўся. Але ніхто, ні палітыкі са сваіх прычын, ні пратэстоўцы-грамадзяне, ня хоча акцэнтаваць увагу на гэтай тэме.

**Ці засьведчылі падзеі 2020 году раскол у беларускім грамадзтве?**

Раскол засьведчаны даўно. У 2020 годзе ў момант эўфарыі ўяўленьні аб прапорцыях гэтага падзелу ваганіся ад 97% на 3% — да 50% на 50%. Дакладнай лічбы мы цяпер атрымаць эмпірычна ня можам, застаецца толькі гіпотэзы вылучаць. Але канкрэтныя лічбы ня маюць ніякага сэнсу, могуць толькі служыць аргумэнтамі ў інфармацыйнай вайне. Раскол відавочны з масавасьці пратэставых акцы-

яў, з упартасьці ў адстойваньні сваіх пазыцыяў, і з гэтым трэба лічыцца.

**Ці магчымае прымірэньне, і калі так, то якой можа быць яго формула?**

Цяпер трэба гаварыць не аб прымірэньні, а аб перамовах паміж двума бакамі канфлікту. Прымірэньне тычыцца эмоцыяў і этыкі, а перамовы вядуць да выхаду з крызісу. Бо рэжым разбурае нацыянальную гаспадарку і дзяржаўныя інстытуты, і гэта становіцца відавочным нават яго прыхільнікам.

Рэжым ня можа пераканаць грамадзтва, грамадзтва ня здольнае перамагчы рэжым. Сілы бакоў розныя па прыродзе, але амаль парытэтныя, ніхто ня мае перавагі. Зацягваньне палітычнага крызісу было на карысьць рэжыму да вясны 2021 году. Цяпер яно ўжо нікому не карысна. Але прыхільнікі рэжыму яшчэ ў гэтым не пераканаліся да канца. Перамовы ўскладняюцца тым, што з боку рэжыму існуе толькі адна асоба, якая можа весьці перамовы і прымаць рашэньні. Але гэта доўгая размова.

**Ці шкадуеце вы пра тое, што адбылося ў 2020 годзе, ці варта яно было сьмерцяў, зьняволеньняў, зламаных лёсаў?**

Я сумую і спачуваю загінулым, іх сем’ям і сябрам, усім рэпрэсаваным і пацярпелым. Гэта цяжкае выпрабаваньне для ўсіх нас.

Шкадаваць трэба пра тое, што мы не скарысталіся шанцам у жніўні 2020 году. Толькі так можна было пазьбегнуць шматлікіх ахвяраў цягам наступных месяцаў.

І каб ахвяры не былі марнымі, мы мусім перамагаць.

**Якія ўрокі зь беларускіх падзеяў 2020 году?**

— Палітычныя праблемы вырашаюцца палітычнымі мэтадамі.

— Палітычны крызіс патрабуе палітычнага рашэньня, палітычнае рашэньне патрабуе палітычнай волі.

— Рэвалюцыйная сытуацыя высоўвае на першы плян права, замест дыскрэдытаваных законаў, якія перасталі адпавядаць патрабаваньням часу. Права вышэйшае за закон, тым больш калі закон не працуе.

Палітычная воля і рэвалюцыйныя рашэньні дзейнічаюць толькі ў адпаведны момант, калі момант страчаны, застаецца толькі «махаць кулакамі пасьля бойкі».

Адпаведны момант складаецца гістарычна і аб'ектыўна (то бок, стахастычна ці выпадкова), а скарыстацца ім здольныя толькі тыя, хто рыхтаваўся да яго загадзя.

— Падрыхтавацца да ўнікальнага гістарычнага моманту немагчыма на падставе эмпірычнага досьведу. Бо ўнікальныя моманты і сытуацыі таму і ўнікальныя, што не паўтараюцца. Падрыхтоўка да такіх момантаў і падзеяў можа быць толькі тэарэтычная. Антытэарэтычная ўстаноўка, распаўсюджаная ў нашым грамадзтве, прывяла нас да паразы.

Падзеі 2020 году прыцягнулі да сябе агульную ўвагу, але гэта толькі бачная частка працэсаў, якія пачаліся раней за 2020 год і яшчэ ня скончыліся. Тэктанічны зрух у беларускім грамадзтве закрануў глыбокія пласты і пакуль выклікаў толькі палітычны крызіс. Наступствы гэтага тэктанічнага зруху

будуць праяўляцца паступова, і гэта зойме не адзін год. Але пакуль не атрымаў вырашэньня нават палітычны крызіс. Якім чынам павінен быў вырашацца палітычны крызіс на працягу 2020–21 году, я прапісаў у «Дарожнай мапе». Але калі ён зацягнецца, то трэба будзе шукаць нейкія іншыя шляхі.

# Аляксандар Пашкевіч:
## «Вяртаньня да сытуацыі, якая была да траўня 2020-га, ня будзе»




**Аляксандар Пашкевіч,** гісторык, шэф-рэдактар часопіса «Архэ»

**Што адбылося зь беларускім грамадзтвам у 2020 годзе: сасьпяваньне, дасьпяваньне ці разрадка напружанасьці? Ці можа вярнуцца вецер на кругі свае?**

Мне здаецца, што гэта ўжо дасьпяваньне. Сасьпяваньнем былі тыя працэсы, якія адбываліся ў беларускім грамадзтве прынамсі апошняе дзесяцігодзьдзе, доўгі час яны былі ня вельмі заўважныя, але ў 2020 годзе неспадзявана для большасьці вырваліся з-пад лёду. А проста разрадкай напружанасьці не дазваляе назваць тое, што адбывалася і адбываецца, доўгатрываласьць падзеяў. Менавіта таму і вецер на кругі свае вярнуцца ўжо ня зможа: як бы ні разьвіваліся далей падзеі, вяртаньня да сытуацыі, якая была да траўня 2020-га, ня будзе. І ўлады, і грамадзтва спалілі масты, цяпер пытаньне стаіць рубам: хто каго.

**Як у падзеях 2020 году праявілася беларускае нацыянальнае?**

Беларускаму нацыянальнаму гэтымі падзеямі дадзены магутны штуршок. Вядома, асноўным рухавіком пратэстаў сталі гэтым разам не нацыянальна-дэмакратычныя сілы, адпаведна, і нацыянальны чыньнік у пратэставым руху напачатку ня быў надта заўважны. Але па ходу разьвіцьця падзеяў нацыянальныя элемэнты ўсё далей праточваюцца і праяўляюцца. Найбольш характэрны прыклад — уражальны посьпех бел-чырвона-белага сьцяга.

Заўважны прагрэс і ў іншых сфэрах. Хто б мог падумаць год таму, што шматтысячныя прагляды будуць зьбіраць онлайн-спэктаклі Купалаўскага тэатру? Што могуць мець такую папулярнасьць канцэрты Вольнага хору? Што адмысловыя беларускамоўныя нядзелі з уласнай ініцыятывы і пры ўзаемапаразуменьні будуць абвяшчаць найбольш папулярныя ў Беларусі расейскамоўныя СМІ і блогеры? Падобных прыкладаў можна прыводзіць вельмі шмат, хоць, вядома, казаць, што беларуская нацыянальная ідэалёгія ў яе традыцыйным разуменьні ўжо перамагла, вельмі перадчасна. Але прагрэс ёсьць.

**Чаму беларускі пратэст 2020 году ня меў геапалітычнага вымярэньня?**

На тэрыторыі Беларусі маюць уплывы толькі два моцныя геапалітычныя гульцы — Расея і «калектыўны Захад». Паколькі рэжым Лукашэнкі заўсёды быў выразна прарасейскі, то ў выпадку ўнутранага канфлікту з геапалітычным вымярэньнем апанэнты Лукашэнкі маглі б быць толькі празаходнімі.

Але Захад, заняты ўласнымі праблемамі, ня быў моцна зацікаўлены ў разгойдваньні тут сытуацыі і зьмяненьні статус-кво. І, па сутнасьці, не аспрэчваў прыналежнасьці Беларусі да расейскай сфэры ўплыву. Адпаведна і людзі, якія ў выніку падзей 2020 году сталі палітычнымі лідэрамі пратэставай супольнасьці, добра разумелі, што без фармальнай ці нефармальнай згоды Крамля на палітычныя зьмены ў Беларусі дамагчыся пазытыўнага выніку тут будзе цяжка, калі ўвогуле магчыма. Таму, хто шчыра, а хто толькі з тактычных меркаваньняў, яны сьвядома адмаўляліся ад разыгрываньня ан-

тырасейскай карты. Тым больш што на гэта не было сур'ёзнага запатрабаваньня і ў народных масаў.

Іншая справа — што тыя каштоўнасьці, за якія ўжо больш як год вядзецца ахвярнае змаганьне, характэрныя, па сутнасьці, менавіта для заходняга сьвету. У арбіце сучаснай Расеі, а тым больш непасрэдна ў яе складзе іх рэалізацыя немагчымая. Таму аб'ектыўна наш народны рух чым далей, тым болей мусіць рабіцца празаходнім, чаму спрыяе і пазыцыя, занятая Крамлём. Невыпадкова ўсе апанэнты рэжыму, вымушаныя да эміграцыі з краіны, едуць менавіта на Захад, а не на Ўсход.

**Ці засьведчылі падзеі 2020 году раскол у беларускім грамадзтве?**

Гэта раскол не ў беларускім грамадзтве як такім, а паміж грамадзтвам і ўладай. Апошняя, маючы поўную манаполію на валоданьне зброяй, здолела захаваць ляяльнасьць сілавых структураў і ўладнай вэртыкалі ды ўтрымлівае пакуль што пры дапамозе брутальнай сілы кантроль над рэсурсамі краіны.

Безумоўна, пэўная падтрымка дзеяньняў улады ў грамадзтве ёсьць, колькасьць г.зв. «ябацек» нашмат вышэйшая, чым мэмныя 3%. Але яна ўсё ж ня вельмі высокая, а галоўнае — пасіўная. Характэрнае нядаўняе прызнаньне старшыні праўладнай Беларускай рэспубліканскай калегіі адвакатаў, што сёньня адбіваюцца ад усіх нападак, «як правіла, толькі дзяржаўныя органы». Таму ў аснове цяперашняга палітычнага крызісу ляжыць усё ж сілавы захоп краіны пэўнай групоўкай, а не раскол грамадзтва.

**Ці магчымае прымірэньне, і калі так, то якой можа быць яго формула?**

Прымірэньне з Лукашэнкам немагчымае і дзеля асаблівасьцяў ягонай асобы, і дзеля таго, што ўсе магчымыя масты да паразуменьня ім даўно сьвядома спаленыя.

Іншая справа — магчымасьці паразуменьня з часткай атачэньня Лукашэнкі, якая ў пэўных умовах адхіліла б дыскрэдытаванага дыктатара ад улады і выказала гатоўнасьць да перамоваў з прадстаўнікамі пратэставай часткі грамадзтва. У такім разе формула магла б быць такая, якая звычайна ў падобных выпадках практыкуецца: прадстаўнікі былой эліты вытаргоўваюць для сябе гарантыі асабістай недатыкальнасьці і нават права на ўдзел у будучым палітычным жыцьці, узамен жа запускаюць мэханізм мірнага трансфэру ўлады праз рэальную канстытуцыйную рэформу і правядзеньне канкурэнтных выбараў.

Зрэшты, такая схема на дадзены момант выглядае даволі тэарэтычнай і ня вельмі рэалістычнай. Увогуле многае залежыць ад таго, як будзе сытуацыя разьвівацца далей, колькі яшчэ будзе панесена ахвяраў і праліта крыві.

**Ці шкадуеце вы пра тое, што адбылося ў 2020 годзе, ці варта яно было сьмерцяў, зьняволеньняў, зламаных лёсаў?**

Не, не шкадую. Тое, што адбылося і адбываецца, — гэта жудасна і траўматычна, але празь нешта такое ў розны час праходзіла большасьць народаў сьвету. Тут залежыць ад таго, зь якой пэрспэктывы глядзець — бягучага моманту ці будучыні, інтарэ-

саў асобных людзей тут і цяпер ці ўсяго грамадзтва ў гістарычным аспэкце.

Людзі цярпяць страты, але грамадзтва набывае: агульны гістарычны ўсьвядомлены досьвед перамогаў і паразаў, агульных герояў і пакутнікаў, салідарнасьці з паплечнікамі ў змаганьні. Гэта ўсё акурат тое, што кладзецца ў падмурак палітычнай нацыі. І дае надзею на тое, што зьмены, якія непазьбежна ў нас неўзабаве адбудуцца, будуць якаснымі.

**Якія ўрокі зь беларускіх падзеяў 2020 году?**

Падзеі 2020 году чарговы раз засьведчылі, што асноўны выклік і пагроза для дыктатарскіх рэжымаў, асабліва пэрсаналісцкіх, — гэта іх адрыў ад жыцьця і выпаданьне з рэчаіснасьці, няздольнасьць адчуваць грунтоўныя зьмены ў грамадзтве і яго чаканьні. Рэжым, які не спрабуе праводзіць даўно насьпелыя рэформы зьверху, непазьбежна ў пэўны час сутыкнецца з магутным ціскам зьнізу. Як бы грунтоўна, здавалася б, перад гэтым усё ні зачысьціў.

Грамадзтву ж пакуль што давялося перагледзець пашыранае раней уяўленьне, што крах рэжыму залежыць ад масавасьці супраціву яму і магчымасьці гэта прадэманстраваць. Аказалася, што гэта ня так: сотні тысяч людзей на вуліцах гарадоў — не гарантыя таго, што адбудзецца раскол элітаў і сыстэма ўлады рассыплецца. Прынамсі, у тых сыстэмах, у якіх фармаваньне ўладнай вэртыкалі на ўсіх узроўнях не залежыць ад насельніцтва ані ў найменшай ступені.

# Яўген Прэйгерман:
## «Беларусь выйшла ў адчыненае вакно на 20-м паверсе»



**Яўген Прэйгерман,** палітоляг, заснавальнік і дырэктар Рады міжнародных адносінаў «Менскі дыялёг»

## Беларуская трагедыя — 2020 і постсавецкі транзыт

Першыя дзесяцігодзьдзі пасьля распаду СССР былыя савецкія рэспублікі, якія атрымалі незалежнасьць, шмат у чым разьвіваліся на падмурку і ў каляінах, якія былі закладзеныя яшчэ савецкай імпэрыяй. Гэта тычылася розных бакоў жыцьця, але асабліва кантрасна праяўлялася ў іх элітах. У 1990–2000-я гады на палітычных сцэнах новых краінаў дамінавалі «прадукты» савецкай сыстэмы: і ўладныя, і апазыцыйныя колы амаль татальна складаліся зь людзей, што атрымалі менавіта савецкую адукацыю і сацыялізацыю. Таму постсавецкі пэрыяд па вызначэньні быў транзытны, падчас яго кожная незалежная рэспубліка мусіла выбудаваць свой нацыянальны падмурак разьвіцьця, у тым ліку — паўнавартасную нацыянальную эліту, здольную эфэктыўна кіраваць дзяржавай у якасна новых і ўсё менш прадказальных умовах XXI стагодзьдзя.

Працэсы, якія адбываліся ў Беларусі ў 2014–2020 гадах, давалі няпэўную, але ўсё ж надзею на тое, што ва ўмовах беларускага аўтарытарызму ўдасца падрыхтаваць краіну да новага — ужо постпостсавецкага — этапу разьвіцьця. Бо галоўным пытаньнем для Беларусі ў кантэксьце постсавецкага транзыту было і застаецца ня тое, калі сыдзе Аляксандар Лукашэнка, а ў якім стане на момант яго сыходу будзе краіна: грамадзтва, палітычная сыстэма, эканоміка і зьнешняя палітыка.

Адзін варыянт — гэта грамадзтва, у якім не абвостраная праблема ўнутранага расколу і дзе на гэтай падставе павольна фармуюцца агульнанацыянальная эліта і грамадзянская супольнасьць; палітычная сыстэма, якая зьніжае градус рэпрэсіўнасьці; а таксама дывэрсыфікаваныя эканоміка і зьнешняя палітыка. І зусім іншы варыянт — гэта яшчэ большы грамадзкі раскол, заточаная на актыўнае зьнішчэньне апанэнтаў палітычная сыстэма і амаль цалкам залежныя ад аднаго вэктару зьнешняя палітыка і эканоміка. Вядома, абодва варыянты «крайнія», а рэчаіснасьць амаль заўсёды аказваецца зьмяшанай. Але відавочна, што чым бліжэй да першага варыянту, тым больш шанцаў на пасьпяховы транзыт у постлукашэнкаўскую эпоху мела б Беларусь.

Менавіта ў першым кірунку, як бы хто гэта сёньня ні адмаўляў, краіна відавочна пачала рухацца пасьля 2014 году. Дастаткова паглядзець хаця б на дынаміку яе інтэрнацыяналізацыі і грамадзкай актыўнасьці. Дарэчы, якраз гэты працэс прывёў да таго, што летам 2020 году шмат хто ў грамадзтве літаральна забыў пра тое, што такое аўтарытарная ўлада і на што яна здольная ў палітычным процістаяньні.

Але трэнд выбудоўваўся ў параўнальна спрыяльных зьнешніх і ўнутраных умовах. Каб мець шанец на яго працяг і пашырэньне, грамадзтву (маючы на ўвазе як улады, так і іх апанэнты) было неабходна рэалістычна ацаніць палітычныя дылемы, што паўсталі перад ім у нашмат менш спрыяльных умовах 2020 году.

Па-першае, важна было асэнсаваць і прыняць расклад сілаў унутры Беларусі па стане на пачатак 2020 году: улада ўжо не была настолькі моцная, каб перамагчы ў лабавым сутыкненьні на «раз-два-тры», але апазыцыя яшчэ ня мела рэальных перадумоваў, каб зьнесьці кансалідаваны аўтарытарны рэжым. Гэта найгоршы з магчымых раскладаў для краіны. Бо, і гэта па-другое, з улікам геапалітычнага становішча Беларусі любы ўнутраны канфлікт, які не вырашаецца хутка, па вызначэньні ператвараецца ў геапалітычны.

Іншымі словамі, унутрыбеларускія апанэнты натуральным чынам пачынаюць шукаць падтрымкі ў геапалітычных антаганістаў — Расеі і Захаду, а тыя, у сваю чаргу, гэтак жа натуральна пачынаюць прасоўваць свае канкуруючыя інтарэсы. І тады ўжо ня мае ніякага значэньня, ці быў у пратэстаў зьнешнепалітычны складнік, бо геапалітызацыя непазьбежна зьмяняе першапачатковыя расклады, сутнасьць канфлікту і склад яго актараў. У прыватнасьці, яна аўтаматычна ператварае папулярныя сярод шматлікіх камэнтатараў развагі пра палітычную суб'ектнасьць пратэсту ў інфантыльныя фантазіі. Бо экзальтаваным грамадзтвам без належнай палітычнай структурызацыі надзвычай лёгка маніпуляваць, і таму яно па вызначэньні ня можа быць сапраўдным суб'ектам у геапалітызаваным канфлікце. Прынамсі, у беларускіх умовах.

Па-трэцяе, абвастрэньне і геапалітызацыя ўнутранага расколу — гэта рух у адваротны бок ад пабудовы палітычнай нацыі, пра якую парадаксальным чынам пачалі гаварыць прыхільнікі пратэсту пасьля жніўня 2020 году. Падсьвядомае жаданьне

абгрунтаваць, што шматлікія чалавечыя трагедыі і надрыў краіны былі не дарма, лёгка зразумець. Але, на жаль, рэчаіснасьць супрацьлеглая: палітычную нацыю, якая раней паўнавартасна не складалася з прычыны расколу і ўразьлівасьці да зьнешніх узьдзеяньняў, проста немагчыма пабудаваць праз яшчэ большы раскол і непазьбежную геапалітызацыю ўнутранага канфлікту.

Нарэшце, грамадзтву неабходна было прадбачыць яшчэ адно непазьбежнае наступства лабавога сутыкненьня з аўтарытарнай уладай: пасьля любой няўдалай спробы рэвалюцыі пачынаецца контрарэвалюцыя, якая ўкачвае ў асфальт усе былыя сацыяльна-палітычныя дасягненьні. На контрарэвалюцыйных эмоцыях аўтарытарная ўлада ня надта клапоціцца пра тое, што гэта вядзе да яшчэ большай дэградацыі краіны па ўсіх кірунках.

Няздольнасьць беларускага грамадзтва ўсьвядоміць гэтыя элемэнтарныя ўводныя, на жаль, і адлюстроўвае нашыя агульныя «дасягненьні» за тры дзесяцігодзьдзі постсавецкай незалежнасьці.

З 2014 году, калі пачаліся павольныя станоўчыя зрухі ў грамадзка-палітычным жыцьці, прайшло яшчэ зусім мала часу. Таму цяжка было спадзявацца на нейкі калектыўны розум адказнай нацыянальнай эліты, якая б магла асэнсаваць стратэгічныя выклікі і разам дамовіцца пра тое, як прадухіліць найгоршае. У такіх умовах апошняй надзеяй Беларусі маглі стаць асобныя палітыкі ці інтэлектуалы, калі б хоць частка зь іх заявіла ўголас пра відавочныя выклікі і іх яшчэ больш відавочныя разбуральныя наступствы для краіны. На жаль, адным не хапіла прафэсійнай кампэтэнтнасьці і

разуменьня рэальнага стану рэчаў у дзяржаўнай сыстэме і грамадзтве. Іншыя проста пабаяліся пайсьці супраць папулістычнай хвалі нянавісьці, якую і ўлада, і яе апанэнты пачалі, як тыя браты-блізьняты, разганяць на фоне каранавіруснага крызісу. А некаторыя, відаць, проста вырашылі скарыстацца з сытуацыі, каб палепшыць сваё асабістае становішча: прасунуцца вышэй па кар'ернай лесьвіцы ў сыстэме ці набраць болей лёгкіх лайкаў у экзальтаваным грамадзтве.

У любым выпадку праз год пасьля пачатку беларускай трагедыі — 2020 мы маем роўна тое, што і маглі мець. Мэтафарычна кажучы, Беларусь выйшла ў адчыненае вакно на 20-м паверсе, і прызямленьне не магло быць мяккім. Відавочна, што разбурэньні будуць мець доўгатэрміновыя наступствы, а падарваная знутры краіна — цяпер як ніколі лёгкая здабыча для зьнешніх гульцоў.

Ці ставіць гэта гістарычны крыж на беларускай дзяржаўнасьці і незалежнасьці? Хочацца верыць, што яшчэ не. Хоць мы і вельмі блізка да гэтага падышлі, праваліўшы постсавецкі транзыт. Тым ня менш пры жаданьні нават з самых складаных сытуацый можна знайсьці выйсьце, і шматлікія дзяржавы гэта ня раз даказвалі. Але ж цяпер ужо ня ўсё залежыць толькі ад нас. Таму застаецца спадзявацца, што Беларусі зноў пашанцуе, як у 1991 годзе.

# Пётра Рудкоўскі:
## «Дэмакратыя — гэта доля тых, хто верыць у сэнс спробаў»



**Пётра Рудкоўскі,** доктар філязофіі, акадэмічны дырэктар Беларускага інстытуту стратэгічных дасьледаваньняў (BISS)

## У сэрцах беларусаў больш дэмакратыі. Але і аўтакратыя захоўвае прывабнасьць

У 2020 годзе ў Беларусі мела месца беспрэцэдэнтная прадэмакратычная мабілізацыя. «Беспрэцэдэнтная» ў гэтым выпадку — ня проста рытарычны ўзмацняльнік. Швэдзкі інстытут «Varieties of Democracy» (V-Dem), сярод іншага, замярае ўзровень палітычнай мабілізацыі практычна ва ўсіх краінах сьвету. Вось жа, згодна зь індэксам V-Dem, леташні ўзровень прадэмакратычнай мабілізацыі ў Беларусі быў ня толькі рэкордны ў гісторыі нашай краіны, але і адзін з самых высокіх у глябальным маштабе за апошнія 50 гадоў[1].

Чым была выкліканая такая палітычная мабілізацыя? Цягам апошніх 10 гадоў адбыліся сур'ёзныя зьмены ў каштоўнаснай сфэры: зьмяншэньне патэрналісцкіх настрояў на карысьць такіх установак, як вера ва ўласныя сілы, павага да прыватнай уласнасьці, талерантнасьць да няроўнасьці ў даходах і інш.[2] Узрос агульны ўзровень адукаванасьці грамадзтва, пашырылася і ўзмацнілася сярэдняя кляса, пашырыўся сярэдні і малы бізнэс. Усё гэта

---

1 Гэтыя канстатацыі зроблены на аснове дадзеных V-Dem https://www.v-dem.net/en/

2 Падрабязьней гл. П. Рудкоўскі, «Беларусы зьмяніліся за апошнія 10 год», Belarusian Institute for Strategic Studies, 27 July, 2020, https://belinstitute.com/be/article/belarusy-zmyanilisya-za-aposhniya-dzesyac-god-ab-getym-svedchyc-7-aya-khvalya-apytannyau-pa

стварала доўгатэрміновыя перадумовы для попыту на дэмакратыю. Памножаныя на эканамічную стагнацыю, фанабэрыстае ігнараваньне ўладамі пандэміі, шматразовыя праблемы з атручанай вадой у Менску, зьяўленьне новай альтэрнатывы ў асобах Бабарыкі і Цапкалы, доўгатэрміновыя фактары далі менавіта такі эфэкт: беспрэцэдэнтную прадэмакратычную мабілізацыю.

Варта адзначыць, што паралельна з каштоўнаснымі зрухамі на карысьць дэмакратычнага курсу цягам апошняй дэкады адбываліся і процілеглыя працэсы. Сусьветны агляд каштоўнасьцяў выявіў рост прыхільнікаў «моцнай улады» ў беларускім грамадзтве. На працягу 2011–2020 гадоў колькасьць тых, хто аддае перавагу палітычнай сыстэме з моцным лідэрам, вырасла з 47% да 51%, а колькасьць тых, хто лічыць, што краінай павінны кіраваць экспэрты, — з 57% да 65%. Зразумела, што далёка ня ўсе, хто выказаўся за «моцнага лідэра», хочуць, каб такім лідэрам быў менавіта Лукашэнка. А жаданьне перадаць уладу «экспэртам» тлумачыцца, хутчэй за ўсё, стомленасьцю ад хаатычна-эмацыйнага мэнэджмэнту лукашэнкаўскай эпохі. Ёсьць, аднак, адзін момант, які прымушае ўсур’ёз успрымаць «контрадэмакратычную» плынь: колькасьць прыхільнікаў улады вайскоўцаў за апошнія 10 гадоў вырасла ў тры разы, з 8% да 24%[3].

На рост попыту на «моцную ўладу» паўплывалі, хутчэй за ўсё, падзеі на Майдане ў Кіеве на пачат-

3 Канстатацыі зробленыя на аснове дадзеных Сусьветнага агляду каштоўнасьцяў (World Value Survey), https://www.worldvaluessurvey.org/wvs.jsp

ку 2014 году і тыя, што наступілі за імі — анэксія Крыму, сэпаратызм на ўсходзе Ўкраіны і канфлікт з Расеяй. Так ці інакш, мабілізацыя «ябацек», якая назіралася цягам апошняга году, мае пад сабой нешта большае, чым толькі адміністрацыйны ціск рэжыму. Мусім усьведамляць, што для часткі беларускага грамадзтва аўтарытарызм ёсьць своеасаблівай каштоўнасьцю, прычым гэтая частка дэманструе здольнасьць да росту.

## Барацьба за дэмакратыю бязь зьнешніх стымулаў

Гісторыя апошніх двух стагодзьдзяў паказвае, што дэмакратычныя зрухі найвыразьней і найхутчэй адбываюцца на фоне значных глябальных пераўтварэньняў. Сева Гуніцкі, амэрыканскі палітоляг расейскага паходжаньня, апублікаваў пару гадоў таму дасьледніцкі артыкул «Дэмакратычныя хвалі ў гістарычнай пэрспэктыве»[4]. Там ён абмяркоўвае 13 хваляў дэмакратызацыі, якія мелі месца ад 1772 да 2011 году. На базе дасьледаваньня Гуніцкага можна вылучыць тры міжнародныя сытуацыі:

1) Зьмяняецца структура глябальнай гегемоніі: адны супэрдзяржавы занепадаюць, а іншыя паўстаюць. Найбольш значнымі такімі зьменамі сталі зьмены пасьля дзьвюх сусьветных войнаў, а таксама пасьля заканчэньня халоднай вайны. У такой сытуацыі дэмакратычныя зрухі адбываюцца найхутчэй.

2) Няма значных глябальных зьменаў, але ўспыхваюць паўстаньні ў большасьці краін рэгіёну. Прыклады такіх «вірусападобных» працэсаў —

4 S. Gunitsky, ‘Democratic Waves in Historical Perspective’, Perspectives on Politics, 2018, 16(3).

«Вясна народаў» у 1848 годзе або «Арабская вясна» ў 2010–11 гадах. У такой сытуацыі дэмакратычныя зрухі адбываюцца больш павольна.

3) Няма глябальных зьменаў і няма вірусападобных працэсаў у рэгіёне. У такой сытуацыі грамадзтва пазбаўленае бонусу ў выглядзе зьнешніх стымулаў і вымушанае змагацца з аўтарытарызмам сам-насам. Дэмакратычныя зрухі ў такой сытуацыі адбываюцца, як правіла, марудна. Але і шанец на ўстойлівую дэмакратыю ў такой сытуацыі вышэйшы.

Беларуская дэмакратычная мабілізацыя прыпала на эпоху, калі няма ані значных глябальных зьменаў, ані вірусападобных працэсаў у рэгіёне. Больш за тое, паводле Freedom House, 2020 год стаў 15-м годам пагаршэньня сусьветнага індэксу дэмакратыі[5]. Эканамічныя посьпехі (аўтарытарнага) Кітаю, прэзыдэнтура Дональда Трампа, якая многімі заходнімі СМІ трактавалася як пагроза для дэмакратыі, Брэксіт, рост так званага правага папулізму ў заходніх краінах — усё гэта стварае нэгатыўны фон для дэмакратычных памкненьняў. Інакш кажучы, шлях да дэмакратыі ў Беларусі праходзіць у найменш спрыяльнай (з усіх магчымых) міжнароднай атмасфэры.

Усё гэта аніяк не азначае, што нам, беларусам, наканаваны пройгрыш. Гэта ўсяго толькі азначае, што наш шлях цяжэйшы, чым, скажам, шлях цэнтральнаэўрапейскіх краін у 1989–90 гадах, і што

5 New Report: The global decline in democracy has accelerated. Freedom House, March 3, 2021. https://freedomhouse.org/article/new-report-global-decline-democracy-has-accelerated

пераход да дэмакратыі можа быць больш марудны, чым таго хацелася б.

Дэмакратыя — гэта доля тых, хто верыць у сэнс спробаў (і памылак).

Апошнім часам актывізаваліся «спэцыялісты па пошуку вінаватых», вінаватых у тым, што «няма перамогі». Маўляў, існаваў нейкі патаемны спосаб дзеяньня, з дапамогай якога можна было «ўжо» адолець аўтакратыю і перайсьці да дэмакратыі.

Вось жа, не было, няма і ня будзе такога патаемнага спосабу. Ажыцьцяўленьне пераходу ад аўтакратыі да дэмакратыі ніколі не адбываецца ў стылі: вось адзін ключ ад адных дзьвярэй — бяры і адчыняй. Заўсёды мае месца наступная сытуацыя: вось дзесяць дзьвярэй і тысяча ключоў, і ніхто ня ведае, каторы ключ ад каторых дзьвярэй. І тут выбар не стаіць — адчыняць ці не адчыняць; выбар стаіць — спрабаваць ці не спрабаваць.

Каб займець дэмакратыю, нам нічога не застаецца, як спрабаваць розныя дзеяньні, у розныя пэрыяды і з рознымі актарамі. Спрабаваць без гарантыі раптоўнага посьпеху. Чым болей беларусаў пазбавіцца ад устаноўкі на «панацэю», «адзіны правільны шлях» або «супэргероя» і чым болей іх паверыць у сэнс спробаў і памылак, тым болей шанцаў на перамены.

# Ганна Севярынец:
## «Аляксандар Тарайкоўскі зрабіў і робіць наш шлях неадменным»



**Ганна Севярынец** — пісьменьніца, пэдагог, літаратуразнаўца

## Беларусь 2020: наш час і наш шанец

Я гляджу на падзеі 2020/2021 году як на лягічны працяг натуральных гістарычных працэсаў па фармаваньні беларускай нацыі. Калі моцна абагульняць, ажно да спрашчэньня, мне падаецца відавочным, што беларуская нацыя ва ўсе часы свайго разьвіцьця імкнулася сфармавацца не як «культурна-этнічная супольнасьць», што яднае людзей паводле паходжаньня і агульнай мовы і культуры, а як нацыя палітычная і мультыкультурная, што яднае людзей паводле месца нараджэньня, паводле геаграфіі і дзяржаўных межаў. І мне здаецца, што беларусы ўва ўсе часы імкнуліся ўвасобіцца менавіта ў палітычную нацыю, але рабілі гэта заўчасна. Для XXI стагодзьдзя палітычная нацыя — вельмі натуральны працэс, для XIX — ня надта лягічны, заранні. Менавіта таму мы так доўга да гэтага ішлі рознымі няпэўнымі сьцежкамі.

Ці вось такое яшчэ назіраньне. Мне падаецца, што калі ўгледзецца ў нашую гісторыю, асабліва ў гісторыю сямейную, не з падручнікаў, мы пабачым, што для беларуса ніколі не была прымальнай вэртыкальная сыстэма кіраваньня, кшталту самаўладзьдзя альбо бальшавізму. Беларус увесь час жыў як бы па-за ўладай, паралельна ёй, унікаючы шчыльнай супрацы, фармальна скараўся, але ўвесь час трымаў дулю ў кішэні і абыходзіў уладу кантрабанднымі спосабамі. Менавіта таму беларусы ва ўсе часы падаваліся палітычна абыякавымі,

маўляў, кіруйце хто заўгодна, абы не было вайны. Але гэта не абыякавасьць, а татальны недавер да вэртыкалі, любой, старой ці новай.

Таму і мяняць уладу звычайны беларус ня любіць, бо гэта ж наноў пракладаць сакрэтныя шляхі абыходаў. Затое на гарызантальных сувязях — сваяцтва, сяброўства, аднавяскоўства — на гэтым заўсёды трымаўся і дабрабыт беларуса, і кар'ерны рост, і вырашэньне паўсядзённых пытаньняў. Мадэрновыя працэсы перабудоваў вэртыкальных сувязяў у грамадзтве на гарызантальныя для нас — гэта ўсяго толькі, нарэшце, наш натуральны стан. Проста цяпер мы ў сваіх гарызантальных прыярытэтах супалі з сусьветнай тэндэнцыяй і нават узначалілі гэты трэнд. З вэртыкалі на гарызанталь будзе перабудоўвацца хутка ўся Эўропа, іншым, канечне, небеларускім шляхам.

Да таго ж беларусы даволі спэцыфічна ставяцца да паняцьця лідэрства. Цяжка прыгадаць гістарычную асобу, якая стала б безумоўным духоўным ці палітычным лідэрам для беларускай большасьці. Разуменьне кіраўніцтва як мэнэджарства, без ідэалягічнага складніку, для нашага грамадзтва натуральнае спрадвеку. Цяпер якраз той час, калі такое ўспрыманьне ўлады робіцца агульнапрынятым для славянскага сьвету.

Я думаю, проста нарэшце настае наш час, у якім мы можам пачувацца цалкам натуральна з пункту гледжаньня сваіх унутраных спрадвечных запатрабаваньняў.

Зваротнага кірунку гэтыя працэсы ня маюць, і ў гістарычнай пэрспэктыве яны разьвяжуцца перамогай новага мысьленьня вельмі хутка. Адно што:

гістарычная пэрспэктыва для звычайнага чалавека выглядае надта ж даўгой. Цяжка датрываць.

Пры гэтым менавіта працэс канчатковага фармаваньня мультыкультурнай палітычнай нацыі суправаджаецца і нацыянальным адраджэньнем, што праўда, даволі спэцыфічным. Новая супольнасьць мае выразную і заўважную прагу да супольных ведаў пра сябе, сваю гісторыю, сваю культуру, і мы бачым вялікую колькасьць адукацыйных мерапрыемстваў і праектаў, няхай сабе і «партызанскіх» у цяперашніх варунках, і гэты працэс закранае ня толькі ўласна «беларушчыну», але і нашу беларускую «габрэйшчыну», беларускую «пальшчызну», беларускую «Ўкраіну», часьцяком такія праекты распачынаюцца і вядуцца па-расейску, адным словам, нацыянальнае нашае адраджэньне мае на ўвазе гістарычны досьвед ня толькі этнічна беларускі.

Добра (і лягічна), што пераплаўляецца гэта ўсё ў адно цэлае пераважна беларускамоўнай інтэлігенцыяй, то бок нарэшце беларуская мова кардынальна зьмяніла свой статус і з мовы «простага люду» стала выразнай мовай эліты. Адпаведна, усё, што створана альбо ствараецца па-беларуску, цяпер мае асаблівае значэньне, роўнае ў масавай сьвядомасьці пратэсту і перамозе. Думаю, гэта ўнікальны шанец для нашай спакутаванай мовы. Перамога ж беларускага сьцяга — наогул відавочная і пераканаўчая, няма чаго і казаць.

Наогул усё тое, што адбываецца, — абсалютна беларуская гісторыя, і хоць адбываецца яна ў тым ліку і на расейскай мове, але не губляе пры гэтым сваіх выразных нацыянальных характарыстык. Параўноўваючы беларускія працэсы з украінскімі,

польскімі, расейскімі, чэскімі, армянскімі, якімі заўгодна, мы непазьбежна сутыкаемся з выразнай самабытнасьцю і падзеяў, і духоўных запытаў, што ляжаць у іх падмурку. Наш пратэст — выразна беларускі, цалкам адпаведны нашаму абагульненаму характару, і ня толькі ў сваіх прыгожых рысах, але і ў рысах пачварных. Нездарма самыя дакладныя паралелі, якія можна правесьці з нашым часам, — паралелі з нашай уласнай мінуўшчынай.

Гаворачы пра тое, якім чынам адрэагавала на падзеі 2020 году беларускае грамадзтва, я б не ўжывала слова «раскол». Наогул, як мне падаецца, «раскол» — небеларуская зьява. Ніколі такога не было, каб беларусы раскалоліся на дзьве часткі па будзь-якім пытаньні. Наш натуральны стан — атамізацыя, адасобленасьць, наяўнасьць безьлічы пунктаў погляду і стратэгіяў існаваньня. Нездарма ж існуе такі выключна беларускі анэкдот: «Калі тры беларусы створаць палітычную партыю, у ёй будзе сем фракцыяў і ў кожнай шчэ падфракцыі». Думаю, у нас адбылася часовая кансалідацыя вакол ідэі сумленных выбараў, гэткі варыянт нашай талакі, але як толькі да гэтых самых выбараў дойдзе — беларусы зноў пякельна атамізуюцца, і гэта добра, бо якраз беражэ ад расколу. Наяўнасьць так званых «ябацек» — гэта не раскол, надта іх няшмат, тыя ж, каго мы можам сёньня залічыць да прыхільнікаў адыходзячага рэжыму — хутчэй закладнікі пэўных асабістых абставінаў, чым нейкая выразная частка, якая дазволіла б гаварыць пра «раскол».

Менавіта таму я ня бачу ніякіх падстаў для працэсаў, якія можна было б назваць «прымірэньнем», бо ніхто асабліва не сварыўся, тое, што цяпер ад-

бываецца, гэта ня сварка. Гэта палітычнае супрацьстаяньне рэжыму і агулам народу. Здаецца, у гісторыі не бывала такога, каб такія працэсы фіналіліся «прымірэньнем». Як яно павінна выглядаць? Любое прымірэньне — гэта перагорнутыя старонкі. Сумняюся, што нехта да такога гатовы.

## Ці шкадую я, што з намі ўсё гэта адбылося?

Ну як можна шкадаваць аб тым, што гісторыя ідзе сваёй хадой. Думаю, у нас не было выбару, гэта як дзіця, калі яно ўжо зьбіраецца нарадзіцца, яно народзіцца, шкадуй не шкадуй.

## Ці вартыя гэтыя працэсы пакутаў і сьмерцяў?

Мне б таксама не хацелася ставіць пытаньне такім чынам. Сэнс ня ў вартасьці або суаднесенасьці коштаў. Па-іншаму такія зьмены не адбываюцца, плянуеш ты за іх плаціць ці не. Асабіста я хацела б, каб ніхто ня гінуў і нічые лёсы не ламаліся. Але, напэўна, так не бывае. Я кожны раз думаю, што чалавечы лёс заўсёды даўжэйшы за фізычнае жыцьцё, асабліва лёс пакутнікаў, і думаю, што Аляксандар Тарайкоўскі зрабіў і робіць наш шлях неадменным, Раман Бандарэнка дае нам упартасьці, іншы раз — праз наш агульны сорам перад ім, чалавекам, які выйшаў. Вітольд Ашурак і па сёньня закрывае сабой ад гвалтоўнай сьмерці ўсіх нашых палітвязьняў, да якіх пасьля ягонай гібелі выразна зьмянілася стаўленьне ўнутры вязьніцаў.

# Арсень Сівіцкі:
## «Крывавы разгон пратэстаў канчаткова разарваў сацыяльны кантракт»



**Арсень Сівіцкі,** палітоляг, дырэктар Цэнтру стратэгічных і зьнешнепалітычных дасьледаваньняў

## Прабуджэньне беларускай палітычнай нацыі

Беларускі палітычны крызіс, які ўзьнік адразу пасьля прэзыдэнцкіх выбараў 9 жніўня 2020 году і які характарызаваўся беспрэцэдэнтным узроўнем палітычнай мабілізацыі і сацыяльнай салідарнасьці беларускай грамадзянскай супольнасьці, стаў вынікам шэрагу аб’ектыўных і суб’ектыўных фактараў і прычын, якія сьпелі на працягу апошніх пяці-дзесяці гадоў.

Калі гаварыць пра аб’ектыўныя прычыны, то, перш за ўсё, істотна зьмяніліся структурныя сацыяльна-дэмаграфічныя характарыстыкі беларускага грамадзтва, а таксама яго каштоўнасныя арыентацыі. Можна сьцьвярджаць, што беларускае грамадзтва за апошняе дзесяцігодзьдзе зьдзейсьніла своеасаблівы фазавы пераход — ад грамадзтва, над якім панаваў сьветапоглядны груз савецкай спадчыны, да «пост-постсавецкай» супольнасьці, у якой каштоўнасныя ўстаноўкі на свабоду, канкурэнцыю, зьніжэньне ролі дзяржавы ў вырашэньні надзённых праблемаў, асабістую адказнасьць за ўласны лёс і дабрабыт пачалі пераважаць традыцыйныя патэрналісцкія арыентацыі, характэрныя для пэрыяду 1990-х — пачатку 2000-х гадоў. За гэты час беларускае грамадзтва стала яшчэ больш адкрытым і сучасным дзякуючы ня толькі падключэньню Беларусі да працэсаў глябалізацыі, пераважна праз усталяваньне гандлёва-эканамічных і палітычных сувязяў зь іншымі краінамі, але і шырокаму рас-

паўсюджваньню інфармацыйна-камунікатыўных тэхналёгіяў і падключэньню Беларусі да «глябальнай вёскі», што адыграла вядучую ролю ў беспрэцэдэнтнай палітычнай мабілізацыі і сацыяльнай салідарнасьці падчас прэзыдэнцкай кампаніі 2020 году і пасьля яе. Паралельна, насуперак ідэалягічнай пазыцыі беларускай кіруючай клясы — пазыцыі, зьвязанай з захаваньнем дамінуючага становішча дзяржаўнай уласнасьці, структурныя трансфармацыі ў эканоміцы прывялі да таго, што доля прыватнага сэктару перавысіла ў 2020 годзе 50%.

Каштоўнасны зрух супаў зь відавочным крызісам сацыяльна-эканамічнай мадэлі кіраваньня беларускай дзяржавы, якая больш-менш пасьпяхова выконвала свае функцыі да 2015 году, але пасьля пачала ўвесь час даваць збоі з прычыны скарачэньня доступу да нафтавай і геапалітычнай рэнты ў адносінах з Расеяй. Неаднаразовыя і беспасьпяховыя спробы рашуча пераадолець запаветную плянку сярэдняга заробку «папіцот» з рухам у кірунку «па тысячы» ў даляравым эквіваленце не ўвянчаліся посьпехам, а паводле ўзроўню сярэднедушавых наяўных рэсурсаў у 2020 годзе Беларусь выйшла толькі на ўзровень «папіцот» у беларускіх рублях.

Пандэмія каранавірусу і яе эпідэміялягічныя, эканамічныя і палітычныя наступствы сталі сапраўдным краш-тэстам для беларускага грамадзтва і дзяржавы. І калі для беларускага грамадзтва яна стала глыбінным матывам для беспрэцэдэнтнага ўзроўню сацыяльнай салідарнасьці і ўзаемадапамогі, то дзяржава іспыт на эфэктыўнасьць і адэкватнасьць вырашэньня надзённых праблемаў беларусаў праваліла.

Высокі ўзровень трывожнасьці і страху значнай часткі грамадзтва, які стаў вынікам непасьлядоўнай і супярэчлівай лініі дзяржавы ў барацьбе з сацыяльна-эканамічнымі і ўласна эпідэміялягічнымі наступствамі пандэміі (70–80% лічылі антыковідныя захады ўладаў неэфэктыўнымі і недастатковымі) лёгка трансфармаваўся ў пратэставыя настроі напярэдадні галоўнай палітычнай падзеі 2020 году — прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі.

Не пасьпеўшы купіраваць нэгатыўныя наступствы пандэміі, Аляксандар Лукашэнка прыняў найбольш рызыкоўнае для сябе рашэньне — праводзіць прэзыдэнцкую выбарчую кампанію ў разгар першай хвалі эпідэміі. На фоне ўвядзеньня надзвычайных становішчаў і локдаўнаў па ўсім сьвеце з прычыны пандэміі беларускае кіраўніцтва, паддаўшыся ўплыву кансьпіралягічных тэорыяў (згодна зь якімі каранавірус — гэта глябальная авантура, зладжаная дзеля новага перадзелу сьвету), пайшла «ва-банк», аднак ані ў сьвеце, уключаючы бліжэйшага стратэгічнага саюзьніка ў асобе Кітая, ані ў беларускім грамадзтве такі «ковіддысыдэнцкі подзьвіг» не ацанілі. Замест таго каб рушыць за сусьветным трэндам, выкарыстоўваючы пандэмію ў якасьці трыгера для рэформы сыстэмы палітычнага кіраваньня і эканамічных рэформаў і перабудовы ўсёй сацыяльна-эканамічнай мадэлі ў адпаведнасьці з посткаранавіруснымі рэаліямі ў духу «вялікай перазагрузкі» (паводле Кляўса Шваба), і нават больш — як падставы для пераносу выбарчай прэзыдэнцкай кампаніі на пазьнейшы тэрмін і ў больш спрыяльныя ўмовы, быў абраны самы неспрыяльны сцэнар. Толькі практычна праз

год пасьля пачатку палітычнага крызісу беларускія ўлады сталі паграджаць увесьці ваеннае становішча — рашэньне, якое ў цяперашніх умовах ня будзе падтрыманае беларускім грамадзтвам, яшчэ больш паглыбіць палітычны крызіс і канчаткова замацуе за Беларусьсю статус крыніцы пагрозаў для міжнароднага міру і бясьпекі.

Такім чынам, сукупнасьць аб’ектыўных фактараў і суб’ектыўных памылак з боку беларускіх уладаў прывяла да беспрэцэдэнтнай палітычнай мабілізацыі грамадзтва, значная частка якога вырашыла перагледзець сацыяльны кантракт зь дзяржавай. Высокі антырэйтынг Аляксандра Лукашэнкі, абумоўлены неэфэктыўнасьцю дзейнасьці рэспубліканскіх і мясцовых уладаў у адказ на праблемы, якія хвалююць беларускіх грамадзянаў, абумовіў высокую папулярнасьць любога іншага з альтэрнатыўных кандыдатаў, уключаючы Сьвятлану Ціханоўскую, якая дайшла да канца прэзыдэнцкай гонкі насуперак жорсткаму сцэнару правядзеньня кампаніі, у адпаведнасьці зь якім усе асноўныя апазыцыйныя кандыдаты (Віктар Бабарыка, Сяргей Ціханоўскі і Валер Цапкала) былі выключаныя з працэсу на этапе яе старту.

Правядзеньне прэзыдэнцкіх выбараў бяз спробаў імітацыі хаця б некаторых атрыбутаў дэмакратыі і адсутнасьць шырокага нацыянальнага і міжнароднага назіраньня, абмежаваньне спаборніцтва выключэньнем галоўных альтэрнатыўных прэтэндэнтаў у кандыдаты ва ўмовах вельмі нізкага даверу да інстытутаў улады (уключаючы Цэнтральную выбарчую камісію з рэйтынгам ня большым за 20–30% даверу), рэгістрацыя ў якасьці кандыдата

Сьвятланы Ціханоўскай (якая відавочным чынам кансалідавала ўвесь пратэставы і нэўтральны электарат) і, нарэшце, «пераможны» вынік 80,1% для А. Лукашэнкі замест «прымальных 65%» у грамадзтве і ў сьвеце — усё гэта стала фатальнымі паліттэхналягічнымі памылкамі беларускіх уладаў. Сытуацыя канчаткова пагоршылася з прычыны беспрэцэдэнтнага ўзроўню непрапарцыйнага і хаатычнага гвалту з боку сілавых ведамстваў супраць пратэстуючых грамадзянаў, якія ў большасьці сваёй выйшлі выказаць сваю нязгоду з вынікамі выбараў мірным спосабам.

У выніку крывавы разгон пратэстаў, раскрутка махавіку рэпрэсіяў супраць грамадзянскай супольнасьці і апазыцыі ня толькі падарвалі легітымнасьць Аляксандра Лукашэнкі ў вачах беларускага грамадзтва і сусьветнай супольнасьці, але і канчаткова разарвалі сацыяльны кантракт паміж значнай часткай беларускіх грамадзянаў і дзяржавай (у сэнсе бюракратычных інстытуцыяў). Агульнанацыянальныя масавыя пратэсты і акцыі салідарнасьці ў адказ на крывавыя разгоны сталі адказам на прыніжэньне чалавечага гонару і годнасьці з боку ўлады, зь якой і заключалася грамадзянская дамова.

У выніку беларускі палітычны крызіс можна ахарактарызаваць як раскол паміж, з аднаго боку, бюракратычнымі інстытуцыямі ў шырокім сэнсе і той часткай грамадзтва, чый дабрабыт залежыць ад карпаратыўнай ляяльнасьці ў адносінах да іх, а з другога — грамадзянскай супольнасьцю, чыё існаваньне наўпрост не залежыць ад дзяржавы. То бок гэта раскол паміж дзьвюма сацыяльнымі структурамі і каштоўнаснымі сыстэмамі — «ад-

крытым» грамадзтвам, якое імкнецца да зьменаў і праяваў свабоды, і «закрытым» грамадзтвам, якое супраціўляецца любым зьменам і не гатовае браць на сябе адказнасьць за ўласны лёс.

Пратэсты былі прадуктам мабілізацыі супраць палітычнага свавольства, несправядлівасьці і расчалавечваньня з боку ўласнай дзяржавы, а ня зьнешніх геапалітычных актараў на Захадзе ці Ўсходзе. Адным з эфэктаў адсутнасьці геапалітычнага вымярэньня стаў акцэнт на нацыянальных формах і ўсеагульнае выкарыстаньне пратэставым рухам нацыянальных гістарычных сымбаляў — бел-чырвона-белага сьцяга і гербу «Пагоня», аднак на гэтым нацыянальны зьмест быў вычарпаны.

Палітычны крызіс 2020 году стаў крыніцай абуджэньня беларускага грамадзтва і пачаткам зараджэньня беларускай палітычнай нацыі. Аднак гэты ж крызіс выявіў усю крохкасьць беларускай дзяржавы ў сэнсе здольнасьці бюракратычных інстытутаў і ўладных структураў падтрымліваць агульнанацыянальны кансэнсус паміж рознымі часткамі беларускага грамадзтва, прадстаўнікамі «адкрытай» і «закрытай» сацыяльных прастораў. Ён жа паставіў пад пытаньне здольнасьць беларускай дзяржавы да самазахаваньня і ўзнаўленьня з прычыны адсутнасьці стратэгічнага бачаньня вырашэньня гэтага крызісу ў беларускай кіроўнай клясы. Па меры яго ператварэньня ў глябальную праблему беларускае грамадзтва і дзяржава рызыкуе трапіць у геапалітычную пастку, у якой іх лёс і будучыню будуць вызначаць іншыя глябальныя і рэгіянальныя гульцы.

У гэтай сувязі адзінае магчымае і прымальнае рашэньне гэтага крызісу — шырокі і інклюзіўны дыялёг паміж «адкрытай» і «закрытай» часткамі беларускага грамадзтва, прычым імкненьне да паразуменьня і суперажываньня зьяўляецца неабходнай перадумовай для пераадоленьня гэтага расколу. Нягледзячы на шматлікія сусьветныя войны і канфлікты, якія праходзілі праз тэрыторыю Беларусі як праз эўразійскі калідор для ўварваньняў з Захаду на Ўсход і з Усходу на Захад, на ўнутрыпалітычныя канфлікты, якія прыводзілі да грамадзянскіх войнаў і расколаў, якімі карысталіся імпэрыі на Захадзе і на Ўсходзе, — нягледзячы на ўсё гэта, беларусы кожны раз паўставалі з попелу і зноўку выбудоўвалі свой дом і саміх сябе.

І гэта было магчыма дзякуючы волі да суісnаваньня насуперак палітычным адрозьненьням і супярэчнасьцям, экзыстэнцыяльным крыўдам за мінулае і сучаснасьць, дзякуючы салідарнасьці і ўзаемадапамозе спачатку ўнутры родавых структураў і сем’яў, прафэсійных супольнасьцяў, а цяпер — на больш шырокім узроўні грамадзянскай супольнасьці. Гэтая энэргія, якая вызваляецца дзякуючы абуджэньню беларускай палітычнай нацыі, мае як творчы, гэтак і разбуральны патэнцыял. Таму аніякі вынік не гарантаваны, але палітыка — сфэра магчымага, і беларуская палітычная нацыя мае ўсе шанцы для таго, каб паўстаць з попелу яшчэ адзін раз пасьля завяршэньня крызісу.

Наперадзе нас чакае нялёгкі і напоўнены выпрабаваньнямі шлях вялікага адраджэньня беларускай нацыі.

# Арцём Шрайбман:
## «Наўрад ці рэжым беларускага тыпу мог сысьці аксамітна»



**Арцём Шрайбман,** палітычны аналітык, заснавальнік аналітычнага агенцтва Sense Analytics, запрошаны экспэрт Маскоўскага Цэнтру Карнэгі

**Што адбылося зь беларускім грамадзтвам у 2020 годзе: сасьпяваньне, дасьпяваньне ці разрадка напружанасьці? Ці можа вярнуцца вецер на кругі свае?**

2020 год — гэта пункт біфуркацыі, момант, калі стомленасьць і незадаволенасьць уладай, якія назапашваліся гадамі, разрасьліся да рэкордных памераў і выплюхнуліся вонкі. Гэта можна назваць і сталеньнем, па меншай меры, значнай часткі грамадзтва. Архаізацыя ўлады стала абсалютна нецярпімай для гэтай часткі беларусаў. Гэта ўжо не палітычная, эстэтычная ці этычная нязгода, гэта адрыnаньне, нежаданьне дзяліць «жылплошчу». Карыстаючыся папулярнай мэтафарай, гэта момант, калі жонка пасьля доўгіх зьдзекаў мужа нарэшце не вытрымлівае і хоча канчаткова разарваць адносіны. Але на гэтым мэтафара перастае працаваць. З кватэры з хатнім тыранам можна фізычна сысьці. Грамадзтва ня можа паступіць гэтак жа, мільёны незадаволеных ня зьедуць. І ў гэтым адказ на пытаньне, ці можа вецер вярнуцца на кругі свае. Можа. Электаральная рэальнасьць для Лукашэнкі не зьмянілася, адрыnаньне стала яшчэ больш глыбокім. Аслабленьне ўлады зь нейкіх вонкавых адносна пратэсту прычын (эканоміка, санкцыі, канстытуцыйныя экспэрымэнты) дасьць новую прастору для масавай палітызацыі.

**Як у падзеях 2020 году праявілася беларускае нацыянальнае?**

Беларускае нацыянальнае выявілася ў двух вымярэньнях — сымболіцы і мэтадах пратэсту. З аднаго боку, гэта быў рэнэсанс бел-чырвона-белага сьцяга, які выйшаў далёка за межы той невялікай групы людзей, для якіх ён быў важны да 2020 году. Сьцяг напоўніўся новым сэнсам, і гэта сур'ёзная заяўка на тое, каб ён стаў дзяржаўным праз нейкі час. Песьні NRM, Nizkiz і іншых беларускіх выканаўцаў сталі гімнамі пратэсту, хоць тут яны і дзеляць сымбалічнае поле зь беларускім рымэйкам «Муры» і песьняй «Перемен» Цоя. Але, улічваючы прарасейскі дрэйф Лукашэнкі і ягонай сыстэмы, якія абараняюцца, нацыянальнае стала маркерам пратэсту яшчэ і з пункту гледжаньня вызваленьня з-пад расейскага аўтарытарнага ўплыву.

Адмова пераважнай большасьці пратэстоўцаў і лідэраў апазыцыі ад гвалту — яшчэ адна глыбока беларуская рыса. Беларусы — не адзіны народ, які зрабіў такі выбар, але ў нас ён у 2020 годзе здаваўся практычна непазьбежным, улічваючы нацыянальную гісторыю і палітычную культуру. Ня факт, што гэты маральны бар'ер захаваецца ў будучыні.

**Чаму беларускі пратэст 2020 году ня меў геапалітычнага вымярэньня?**

Беларускі пратэст ня меў геапалітычнага вымярэньня, таму што ён быў выкліканы ўнутранай палітыкай улады — непразрыстымі выбарамі, рэпрэсіямі, гвалтам. У гэтых праблемаў няма відавочнага вонкавага ракурсу. Зьнешні выбар ня так востра стаіць для большасьці беларусаў, гэты парадак дня проста ня быў актываваны ў іх галовах. Але

па меры ўзмацненьня канфрантацыі Менску і Захаду, уцягваньня Масквы ў падтрымку Лукашэнкі будзе ўсё больш стымулаў да інтэрнацыяналізацыі ня толькі самога крызісу, але і яго ўспрыманьня ў галовах людзей. Калі Масква пяройдзе ад словаў і невялікай падтрымкі да актыўнага ўмяшаньня, палітычная энэргія беларускага пратэсту можа «перакінуцца» і на яе.

**Ці засьведчылі падзеі 2020 году раскол у беларускім грамадзтве?**

Гэтыя падзеі ня толькі прадэманстравалі раскол, але і абвастрылі яго. Шмат каму стала ясна, што гэты раскол існуе, хоць у іншых перамагло пачуцьцё маналітнасьці свайго боку і нешматлікасьці, чужароднасьці іншага боку. Як паказвае тая сацыялёгія, якая ёсьць у нас на руках, Лукашэнка захаваў сваё электаральнае ядро ў 20–30%, аднак антаганізаваў нашмат большую частку грамадзтва. Па меры абвастрэньня канфлікту бакі палярызаваліся. Лепш за ўсё гэта падкрэсьліваюць рутынныя абвінавачваньні адзін аднаго ў «фашызьме». Хоць з гэтага мы таксама зразумелі, што ў абедзьвюх частак грамадзтва ёсьць нейкі агульны назоўнік абсалютнага зла.

**Ці магчымае прымірэньне, і калі так, то якой можа быць яго формула?**

Улічваючы асобу і стыль Лукашэнкі, бакі ня могуць прымірыцца пры ім. Гэты палітык адхіляе любую інклюзіўнасьць, ён ня можа быць арбітрам або мадэратарам, ён можа быць толькі ў авангардзе свайго боку. Паколькі маральны шок, які атрымаў бок пратэсту ў 2020–2021 гадах, ня сыдзе яшчэ шмат гадоў, формулы прымірэньня пры Лукашэнку я ня бачу.

Пасьля яго сыходу многае будзе залежаць ад таго, на што паставяць наступныя кіроўныя эліты — на кансалідацыю грамадзтва ці на працяг падаўленьня нязгодных. Калі будзе зроблена першая стаўка, то наўрад ці можна абысьціся бяз хоць бы нейкага пакараньня вінаватых у гвалце 2020–2021 гадоў. Потым можа адбыцца пераключэньне грамадзтва на нейкі новы парадак дня, на новыя, менш палярызаваныя спрэчкі, каналізацыя канфліктнай энэргіі ў бок больш клясычнай палітычнай барацьбы.

Іншая формула — зьнешняя пагроза, якая б зьяднала краіну. Але калі зьнешняе, гэта значыць расейскае, умяшаньне адбудзецца на баку адной з частак беларускага грамадзтва, складана прадказаць, які з інстынктаў — патрыятызм ці групавая лаяльнасьць — пераможа ў прадстаўнікоў гэтай часткі.

**Ці шкадуеце вы пра тое, што адбылося ў 2020 годзе, ці варта яно было сьмерцяў, зьняволеньняў, зламаных лёсаў?**

Я шкадую аб усіх гэтых пакутах і стратах, але я таксама разумею, што наўрад ці рэжым беларускага тыпу мог сысьці аксамітна, без падобных выпрабаваньняў. Казаць, што гэтую цану мы павінны былі заплаціць, — цынічна, але здаецца, што дзьве іншыя альтэрнатывы — яшчэ больш гвалту, каб зьмена ўлады паскорылася, або адмова ад пратэстаў наогул, каб зьберагчы сябе, — беларускае грамадзтва не задаволілі.

**Якія ўрокі зь беларускіх падзеяў 2020 году?**

Важны ўрок палягае ў тым, што ўсе трэнды абарачальныя. Выпадковасьці, памылкі, зьбег абставінаў здольныя тармазіць ці, наадварот, вельмі

паскараць тыя працэсы, якія здаваліся прадказальнымі. Па-другое, ступень кансалідацыі рэжымаў мае значэньне. Унівэрсальных рэцэптаў або колькасьці пратэстоўцаў, патрэбных для перамогі рэвалюцыі, не існуе. Тое, што проста працуе ў Грузіі ці Армэніі, можа не працаваць у Беларусі. Пэўным урокам стала тое, наколькі ў розных інфармацыйных бурбалках жывуць два бакі беларускага крызісу.

# Паказьнік асобаў

**Д**



**К**



**Л**



**М**

**Ч**



**Ш**

## Пра ўкладальніка



Юры Дракахруст — журналіст. Нарадзіўся ў 1960 г. у Хабараўску (Расея). У 1964 г. з бацькамі пераехаў у Менск. Скончыў мэханіка-матэматычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту (БДУ).
У 1986 г. абараніў кандыдацкую дысэртацыю па альгебраічнай тэорыі лічбаў. У 1982–1991 гг. працаваў у Інстытуце матэматыкі Акадэміі навук Беларусі, у 1991–1994 гг. — у Інстытуце эканомікі Акадэміі навук Беларусі, у 1992–2000 гг. — у Незалежным інстытуце сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў.
У 1990–1991 гг. — сакратар управы Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне».
З 1991 г. працуе на Радыё Свабода, з 1996 г. — карэспандэнт Беларускай службы Радыё Свабода, з 2000 г. — супрацоўнік Беларускай рэдакцыі Радыё Свабода ў Празе, аўтар перадачы «Праскі акцэнт».
Узнагароджаны мэдалём Акадэміі навук СССР за найлепшую дыплёмную працу (1982), ляўрэат прэміі Беларускай асацыяцыі журналістаў (1996).
Аўтар кніг «Акцэнты Свабоды» (2009) і «Сем худых гадоў» (2014) у сэрыі «Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе».

## Summary

"An Incredible 2020" is a collection of essays penned by twenty Belarusian intellectuals on the dramatic events that swept Belarus in 2020: a presidential election and the mass protests that ensued in its wake. The authors engage in both a dialogue and a debate, endeavoring to analyze and understand not so much the political implications of those events, but rather their anthropological and national underpinnings. They seek the broadest possible answer to the question of "What Really Happened?" in Belarus in 2020, the most tumultuous year in the country since it regained its independence in 1991.

Yury Drakakhrust has authored books "Accents of Liberty" and "Seven Lean Year" and numerous articles on Belarusian politics and national identity. He works at Radio Free Europe/Radio Liberty, and lives in Prague.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.**
*Пераклады Веры Рыч.*
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.* **Імёны Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.* **Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.* **Мой шыбалет.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.




**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка. Сто песень. 2010-2012.**
Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.*
**Справа Бяляцкага.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.*
**Турма і здароўе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.*
**Хто ўзарваў менскае мэтро?**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.*
**Жывая мова.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста чацьверты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.




**(НЕ :)**
**вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
3-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 668 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Мой Картаген.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста пяты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 324 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 722 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 364 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 544 с.: іл.




**Светлана Алексиевич на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 744 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Быў у пана верабейка гаварушчы...**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 326 с.: іл.




**100 словаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 346 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Не сьмяшыце мае прыназоўнікі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста другі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 388 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Высьпятак ад Скарыны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 500 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 174 с.: іл.




*Сяргей Шупа.*
**Падарожжа ў БНР.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 282 с. + 56 с. укл.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Нечаканы Скарына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 328 с.: іл.




*Алена Струвэ.*
**Турма, жанчына і мужчына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 434 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста трэці.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 536 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Клініка кітайскага дантыста.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 284 с.: +24 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч. 100 цытатаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 268 с.




*Сяргей Дубавец.*
**Тантамарэскі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 356 с.




*Алесь Пілецкі.*
**Казкі па целефоне.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 298 с.




*Сяргей Абламейка.*
**Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 132 с.: іл.




*Дзьмітры Гурневіч.*
**Забойства ў цэнтры Эўропы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 248 с.: іл.




*Сяргей Астраўцоў.*
**Спадар Свабода.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 328 с.: іл.




**Каліноўскі на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 830 с.: іл.










*Сяргей Абламейка.*
**Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 140 с.: іл.

**Гаворыць Радыё ВЫЗВАЛЕНЬНЕ...**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 172 с.: іл.

*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
4-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 826 с.: іл.










*Сяргей Абламейка.*
**Невядомы Менск. Гісторыя зьнікненьня.**
Кніга першая.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 476 с.: іл.

*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста шосты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 540 с.: іл.

**Галасы Беларусі – 2020.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 434 с.




*Сяргей Абламейка.*
**Невядомы Менск. Гісторыя зьнікненьня.**
Кніга другая. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 374 с.: іл.